# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай
мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2014

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**В. П. Красней** («Фанетыка і арфаэпія. Графіка і арфаграфія», «Лексіка. Фразеалогія»);

**Я. М. Лаўрэль** («Мова — найважнейшы сродак зносін», «Паўтарэнне вывучанага ў I—IV класах», «Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 10, 11), «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год»);

**В. І. Несцяровіч** («Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 12—25));

**Л. С. Васюковіч** («Склад слова. Словаўтварэнне і арфаграфія»)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускага мовазнаўства ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (канд. пед. навук дац. *У. П. Саўко*);

настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 10 г. Мінска» *Л. М. Міхлюк*

**Умоўныя абазначэнні:**

|| — правіла;

| — для азнаямлення;

! — звярніце ўвагу;

⊙ — заданні павышанай цяжкасці;

● — дадатковыя заданні;

* — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

ф — правесці фанетычны разбор слова;

сн — зрабіць сінтаксічны разбор словазлучэння, сказа;

с — разабраць слова па саставе;

л — правесці лексічны разбор слова

**ISBN 978-985-559-325-7 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-324-0**

# МОВА — НАЙВАЖНЕЙШЫ СРОДАК ЗНОСІН

## § 1. Чалавек і мова

**1.** Прачытайце тэкст. Пра што гаворыцца ў кожнай частцы? Назавіце сказы, якія перадаюць тэму, асноўную думку.

Мова — найважнейшы сродак зносін. Дзякуючы мове людзі абменьваюцца думкамі, перадаюць інфармацыю, засвойваюць вопыт і веды мінулых пакаленняў.

Кожны народ як найвялікшы скарб шануе родную мову. Пакуль жыве мова, жыве сам народ, яго культура. Дзеці разумеюць бацькоў, захоўваюць звычаі продкаў, перадаюць іх сваім нашчадкам.

Мова звязвае чалавека з роднай зямлёй, з усім тым, што складае духоўны і матэрыяльны набытак народа. Якуб Колас пісаў, што «роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет». І калі чалавек змалку адлучаны ад роднай мовы, ён вельмі многа губляе ў сваім разумовым і духоўным развіцці.

● Чаму мова з’яўляецца найважнейшым сродкам зносін?

**2.** Прачытайце тэкст.

Што людзі ўмеюць гаварыць, вядома кожнаму. А ці ёсць мова ў жывёл? Ёсць. Але пра мову жывёл мы можам гаварыць толькі як пра мову сігналаў.

Дзе б ні гадавалася тая ці іншая жывёліна або птушка, яна заўсёды зразумее сігналы «сваякоў». Напрыклад, ідзе па беразе ракі пліска і ківае хвастом. Раптам хвост яе робіцца веерам і каля яе з'яўляецца другая пліска, якая зразумела сігнал — «просьбу» прыляцець. Гэта прыродная ўласцівасць прадстаўнікоў жывёльнага свету.

Чалавек ад прыроды мае задаткі для авалодання мовай, але навучыцца гаварыць можа толькі ў працэсе моўных зносін з іншымі людзьмі. Навуцы вядома больш за трыццаць выпадкаў, калі дзеці раслі сярод жывёл. І ні адно з гэтых дзяцей не ўмела гаварыць.

● Пра што гаворыцца ў тэксце?

● Якія ўмовы неабходны для таго, каб чалавек навучыўся гаварыць?

**3.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту і яго асноўную думку.

Мова непадзельна звязана з жыццём народа, які яе стварыў і карыстаецца ёю.

У мове праз слова і думку адлюстроўваецца прырода айчыны, яе палі і лугі, яе лясы і рэкі, яе даліны і горы, дасягненні народнай гаспадаркі, навукі, тэхнікі і культуры, увесь ход гістарычнага развіцця народа, яго погляды, сляды перажытага гора і перажытай радасці.

Мова звязвае мінулае з сучасным, злучае пакаленні, якія ўжо аджылі, якія жывуць зараз і якія яшчэ будуць жыць. Яна перадае ад аднаго пакалення да другога ўвесь гістарычны вопыт, бо мова — гэта памяць народа.

Мова даецца чалавеку для пазнання гісторыі, фарміравання духоўнага свету, усведамлення свайго этнічнага «я». Вось чаму, авалодваючы мовай, мы духоўна яднаемся з людзьмі таго народа, таго асяроддзя, у якім жывём.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пра што гаворыцца ў другім абзацы?
2. Як вы разумееце выраз «Мова — гэта памяць народа»?
3. Для чаго даецца мова чалавеку?

**4.** Разгледзьце малюнак. Паразважайце над тым, што ён адлюстроўвае. Падрыхтуйце невялікае паведамленне на тэму «Роля мовы ў жыцці чалавека і грамадства».




**5.** Прачытайце. Што перадае загаловак: тэму ці асноўную думку?

### МЭТА І АДРАСАТ

Чалавек заўсёды гаворыць з пэўнай мэтай: каб аб нечым паведаміць, запытаць пра нешта, уздзейнічаць на іншых. Яго выказванне заўсёды некаму адрасуецца, як кажуць, мае адрасата. Здараецца, праўда, што чалавек гаворыць сам сабе. Але

і ў такіх выпадках у думках ён звяртаецца да некага, уяўляе яго, адказвае за яго.

Пры дапамозе слова чалавек фарміруе думкі і перадае іх. Толькі чалавек можа распавядаць пра падзеі, што адбываліся ў мінулым ці будуць яшчэ адбывацца. Жывёлы ж перадаюць і ўспрымаюць толькі сігналы. І гэтыя сігналы сітуацыйныя, канкрэтныя.

Валоданне мовай — гэта ўласцівасць чалавека.

● Вусна перадайце змест тэксту згодна з планам:

1. Мэта і адрасат маўлення.
2. Чалавек перадае думкі, жывёла — сігналы.

**6.** Прачытайце тэкст. Пра якія выпадкі расказаў аўтар? Які вывад зроблены ў апошнім абзацы? Каму адрасаваны тэкст і з якой мэтай?

Ёсць птушкі, якія вельмі хутка запамінаюць словы і гукі.

Гаспадыня аднаго папугая любіла паўтараць словы: «Які жах!» Неўзабаве і папугай навучыўся вымаўляць гэтыя словы.

Неяк у гаспадыні сабраліся госці. Прыйшла і адна малазнаёмая жанчына. Толькі яна ўвайшла ў пакой, як пачула: «Які жах!» Госця збянтэжылася. І толькі калі гаспадыня заспяшалася ёй на дапамогу, яна крыху апамяталася. Але ўвесь вечар падазрона кідала позіркі на клетку з папугаем.

А неяк раз у аддзел міліцыі быў дастаўлены чалавек са зламанай рукой. Гэта быў злодзей, які хацеў залезці ў кватэру праз балкон. Але нехта гучна і рэзка крыкнуў: «Хто такі? Брыдота!» Ад нечаканасці злодзей сарваўся з балкона.

А голас належаў сароцы, якая ўмела вымаўляць некалькі фраз.

Вядома, ні пра якую свядомую размову птушак не можа быць і гаворкі. Навучы папугая крычаць, напрыклад, «Пажар!» — і ён цэлыя дні будзе лямантаваць пра пажар *(Ю. Дзмітрыеў)*.

● Ці можна навучыць птушку гаварыць свядома?

## § 2. Вусная і пісьмовая формы маўлення. Віды маўленчай дзейнасці: слуханне, чытанне, гаварэнне, пісьмо

**Маўленне** — гэта ўжыванне мовы ў працэсе абмену думкамі.

Калі мы гаворым, то карыстаемся вуснай формай маўлення, калі пішам або чытаем, — пісьмовай.

**Маўленчая дзейнасць** — гэта асобы від чалавечай дзейнасці.

Слуханне, чытанне, гаварэнне, пісьмо — асноўныя віды маўленчай дзейнасці.

Слуханне і чытанне — гэта тыя віды маўленчай дзейнасці, да якіх звяртаюцца, каб атрымаць гатовую інфармацыю.

У працэсе гаварэння і пісьма мы ствараем уласныя выказванні, якія заўсёды некаму і з нейкай мэтай адрасуюцца.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія асноўныя віды маўленчай дзейнасці?

2. Да якіх відаў маўлення звяртаюцца, каб атрымаць гатовую інфармацыю?

3. Якімі відамі маўлення карыстаюцца, калі ствараюць уласныя выказванні?

**7.** Прачытайце тэкст з адпаведнай інтанацыяй. Чаму ён мае такую назву? Вызначце форму маўлення і віды маўленчай дзейнасці, уласцівыя гэтаму тэксту. Абгрунтуйце сваё меркаванне.

БАБУЛІНЫ РУКІ

— Што ты малюеш, Кацюша?

— Бабуліны рукі.

— Што-о? Дзе ты іх бачыла?

— Бачыла. Мама сёння падавала на стол снеданне, дык бабуля паглядзела на яе рукі і кажа: «Якія, унучачка, у тваёй мамы прыгожыя рукі!» А я чамусьці зірнула на бабуліны, з уздутыміператруджанымі венамі, з вузлаватымі пакрыўленымі пальцамі. Яны разгладжвалі на стале льняны саматканы абрус, які яна прывезла з вёскі *(Паводле А. Капусціна).*

● Што вы можаце сказаць пра бабулю Кацюшы?

● Чаму Кацюша вырашыла намаляваць бабуліны рукі?

● Да якой формы маўлення і якога віду маўленчай дзейнасці адносяцца вашы адказы?

**8.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і мэтанакіраванасць. Ці можа гэты тэкст быць прыкладам і вуснай, і пісьмовай формаў маўлення? Дакажыце гэта.

Чытайце найперш майстроў слова. Чытайце, нават калі не ..се словы будуць для вас зразумелыя. Агульны с..нс вамі ..ловіцца. І не за..важыце, як літ..ратура навучыць вас мове.

Чытайце абавя..кова ўслых. Тады кожнае слова з прачытанага запомніцца не толькі зрокавай памяццю, але і памяццю органаў мовы і слыху. Яно пра..граецца ..сім сваім багаццем галосных

і зычных на струнах вашага мо..нага апарату *(А. Клышка)*.

● Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

**слых** **услы́х**

⊙ **9.** Прачытайце. У якіх прыказках маецца на ўвазе пісьмовая форма маўлення, у якіх — вусная, а ў якіх — абедзве формы маўлення?

1. Конь вырвецца — дагоніш, а слова сказанае не вернеш. 2. Слова не верабей: выпусціш — не зловіш. 3. Пачутае слова можна забыць, а запісанае будзе вечна жыць. 4. Рана загоіцца, а злое слова — ніколі. 5. Хто ў другіх пытае, той і розум мае. 6. Кніга маўчыць, ды вучыць, як трэба жыць.

**10.** Прачытайце. Перадайце змест вершаванай казкі прозай. Чым адрозніваецца вершаваная мова ад празаічнай?

САЛАЎЁВЫ ПЕСНІ

Дубы-асілкі талакой*
Стаяць над соннаю ракой,
Не спяць, ды не шапнуць і слоўка,
Бо побач заспяваў салоўка.
Не спала ў лесе і сава,
Хадзіла кругам галава.
Украсці песні ў салаўя
Яна рашыла.
Толькі як?
Патрэбна ведаць,
Дзе
Хавае іх,
Куды кладзе.

Вачэй не зводзіла ўсю ноч,
Пад пень заглядвала,
Пад корч,
У вербалоз ля ручая —
Няма іх,
Песень салаўя.
А на калінавым кусце
Спяваў салоўка ў цемнаце,
Спяваў у добры час.
Ад песні той якраз
І запалілася зара.
Вось-вось і змрок сплыве.
Ну што рабіць саве?
Знайшла сваё жытло —
Схавалася ў дупло.
І там яна, бядачка,
Зайшлася дзікім плачам.

*Р. Яўсееў.*

**11.** Прачытайце пачатак казкі. Чаму так паводзілі сябе Гукі? Што сказалі Гукі пра Апостраф і Мяккі знак? Прадоўжыце казку. Пакажыце, што Гукі дарэмна пакрыўдзілі Апостраф і Мяккі знак.

### АПОСТРАФ І МЯККІ ЗНАК

Ёсць на свеце краіна Фанетыка. Жывуць у ёй Гукі і Літары.

Аднойчы Гукі і Літары заспрачаліся.

Галосныя[с] крычалі, што толькі яны сапраўдныя[с]. Зычныя трымаліся сваёй думкі. Мяккія маўчалі. У іх не было сталага меркавання. А глухія... Тыя нікога не хацелі слухаць. На Мяккі знак і Апостраф увогуле ніхто не зважаў. «Ці ёсць вы, ці няма вас — ніякай розніцы. Вы нічога не значыце».

Пакрыўдзіліся Апостраф і Мяккі знак...

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў I—IV КЛАСАХ

## § 3. Тэкст, яго будова. Тэма і асноўная думка тэксту

**12.** Прачытайце сказы. Ці з’яўляюцца яны тэкстам? Ці можна з іх утварыць тэкст?

Касманаўты вярнуліся на Зямлю. У вучняў пачаліся канікулы. Верасень — першы месяц восені. Брыгада мантажнікаў перавыканала план.

Тое ці іншае паведамленне мы перадаём не адным, а некалькімі сказамі — тэкстам.

**Тэкст** — гэта выказванне, у якім сказы звязаны сэнсам і граматычна.

Тэкст будуецца так, каб кожны сказ у ім дапамагаў паслядоўна раскрыць змест выказвання.

**13.** Прачытайце сказы пад нумарамі I і II. Якія з іх з’яўляюцца тэкстам? Абгрунтуйце сваю думку.

I. Над Нараччу амаль заўсёды дзьмуць вятры. Вада ў гэтых азёрах чыстая, празрыстая, багатая на кісларод. Нарач належыць да азёр, якія не зарастаюць раслінамі. Дзякуючы гэтаму прыбярэжная паласа не ператвараецца ў балота. У іх адбываецца безупынны рух вады ад ветру і ад глыбінных крыніц.

II. Нарач належыць да азёр, якія не зарастаюць раслінамі. Вада ў гэтых азёрах чыстая, празрыс-

тая, багатая на кісларод. У іх адбываецца безупынны рух вады ад ветру і ад глыбінных крыніц. Дзякуючы гэтаму прыбярэжная паласа не ператвараецца ў балота.

Над Нараччу амаль заўсёды дзьмуць вятры.

**14.** Прачытайце. Чаму дадзеныя сказы не з'яўляюцца тэкстам? Перастаўце сказы так, каб атрымаўся тэкст. Назавіце тэму тэксту. Дайце яму загаловак і запішыце.

Вострыя чорныя вушы насцярожаны. На фоне зялёных елачак рыжае футра яе як агонь. Ліса выслізнула з жоўтай папараці. Толькі кончык хваста ледзь прыкметна варушыцца. Лёгкім трушком ліса перабегла палянку, застыла каля старой яліны.

Адзін тэкст ад другога адрозніваецца сваім зместам, тэмай і асноўнай думкай.

**Тэма** — гэта тое, пра што гаворыцца ў тэксце.

**Асноўная думка** — гэта тое галоўнае, што выказана тэкстам.

Асноўная думка, як і тэма, можа быць выражана ў загалоўку або ў адным са сказаў тэксту. Але часцей за ўсё яе трэба вызначыць і сфармуляваць.

**15.** Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку. Назавіце сказ, які перадае асноўную думку тэксту.

ПАПІРУС

На што толькі ні выкарыстоўвалі старажытныя егіпцяне папірус! Драўніна каранёў была для

іх палівам і будаўнічым матэрыялам. Гэту расліну яны ўжывалі як харч — сырую, гатаваную, печаную. З яе выціскалі сок. З яе вілі вяроўкі, рабілі начынне, шылі адзенне, плялі кашы, майстравалі лодкі. Але ўвекавечыў сябе папірус тым, што даў чалавецтву першы сапраўдны матэрыял для кнігі. Памяць аб ім і сёння захавалася ў многіх еўрапейскіх мовах: згадаем беларускае слова «папера», нямецкае «папір», англійскае «пэйпа», французскае «пап'е» *(А. Клышка)*.

**16.** Прачытайце тэкст. Каму ён адрасаваны? З якой мэтай напісаны? Якая яго асноўная думка і якія сказы яе выражаюць? Запішыце іх.

Трэба многа, вельмі многа ездзіць, сябры. Калі будзеце часта жыць «на колах», шмат хадзіць і падарожнічаць, вы паглядзіце многае ў свеце. Але перш за ўсё вам трэба ведаць свой, самы для нас прыгожы край. Вы ўбачыце мілую, ласкавую, няяркую краіну, якая, аднак, зачаруе вас сваёй няўлоўнай прыгажосцю. Убачыце Прыдняпроўе і Прынямонне, роўных якім па прыгажосці мала знойдзецца мясцін на зямлі. Убачыце азёры з белымі грабянцамі на сіняй вадзе і старыя каменныя млыны над рэчкамі, што зараслі белай лілеяй...

Будзеце слухаць музыку нашай цудоўнай мовы і нашы пяшчотныя песні. І ўбачыце зуброў і аленяў. Пройдзеце па зажураных* пушчах Палесся. І галоўнае, пазнаеце свой гасцінны, добры, горды і таленавіты народ.

Любіце гэтую сваю святую зямлю. Іншай вам не дадзена, дый не патрэбна *(У. Караткевіч)*.

**17.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Падзяліце тэкст на часткі і спішыце тую, у якой выражана гэта думка.

З кожным днём людзі даведваюцца ўсё больш і больш новага пра нашу планету і яе насельнікаў. Але чым больш даведваюцца, тым больш пераконваюцца, што працы яшчэ непачаты край. Бо на змену ўжо разгаданым таямніцам прыходзяць новыя. І разгадваць іх трэба будзе тым, хто сёння толькі вучыцца чытаць і пісаць. Толькі мала навучыцца чытаць і пісаць, рашаць задачы і рабіць чарцяжы. Трэба яшчэ любіць прыроду, глядзець на яе ўважлівымі добрымі вачыма. Паводзіць сябе так, каб ні стракозы, ні матылі, ні павукі, ні птушкі, ні рыбы, ні жабы не крыўдзіліся на нас. Яны ж такія цікавыя, хоць і прыкідваюцца зусім звычайнымі *(Паводле Ю. Дзмітрыева)*.

**18.** Прачытайце тэкст і вызначце яго тэму. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Мне знаёмая адна п..лянка. Вакол п..лянкі — грыбны лес.

У тым лесе растуць аранж..выя падасінавікі, танканогія ба..кі, з..лёныя сырае..кі, жо..тыя лісічкі, з..лёныя м..хавікі. А ў верасе з ч..рнічнікам с..дзяць пузатыя з кар..чневымі шапкамі цар.. гр..боў — баравікі.

Вельмі падабалася мне гэтая п..лянка. Я хадзіў сюды ўдзень збіраць яг..ды і гр..бы *(Паводле З. Бяспалага)*.

# § 4. Сувязь сказаў у тэксце. Загаловак

Думка ў тэксце развіваецца ад сказа да сказа. Кожны наступны сказ пэўным чынам паўтарае сказанае папярэднім і дадае новае. Такім чынам, у сказе ёсць вядомае (В.) паведамленне і новае (Н.) паведамленне.

*1. Пад гарою расла вярба* [Н.]*. 2. Пад вярбою* [В.] *было люстранае акно* [Н.] *ў зялёнай траве. 3. Тут* [В.] *пачынаўся і бег да рэчкі малы ручаёк* [Н.] (І. Грамовіч).




Такая сувязь сказаў у тэксце называецца **паслядоўнай.**

**19.** Спішыце тэкст. Вядомае паведамленне абазначце літарай В., а новае — літарай Н.

Брэст знаходзіцца на паўднёвым захадзе Беларусі. У горадзе шмат гістарычных помнікаў. Але самым вядомым сярод іх з'яўляецца Брэсцкая крэпасць-герой.

Паўтор часткі папярэдняга сказа з'яўляецца сродкам сувязі сказаў у тэксце. Сродкамі сувязі выступаюць аднолькавыя або блізкія па значэнні назоўнікі, займеннікі і інш.

I. *Пад блакітным небам, пад ласкавым сонцам красаваўся бярозавы* ***гай****. Хмары палівалі* ***яго*** *дажджом, ветрык гайдаў галінкі. Людзі лю-*

*бавaліся* ***ім****, захапляліся: «Якая прыгажосць!»* (Л. Пранчак).

II. *Я іду старым яловым* ***лесам****. У* ***яго*** *засені цвітуць апошнія* ***пралескі****. Месцамі* ***кветак*** *так многа, што* ***яны*** *ўтвараюць суцэльны блакітны дыван* (І. Сіляўка).

У тэксце І сказы звязаны пры дапамозе слоў: *гай — яго — ім*. У тэксце ІІ: *лесам — яго* і *пралескі — кветак — яны*.

**20.** Спішыце тэкст. Літарамі В., Н. абазначце вядомае і новае. Падкрэсліце словы, пры дапамозе якіх сказы звязаны паміж сабой.

Дубы стаяць далёка адзін ад аднаго. Паміж дубамі сонечная палянка. На палянцы высокая трава і густыя кусты. Прылятаюць сюды шумныя сойкі.

Сказы ў тэксце могуць звязвацца **паралельнай** сувяззю. Пры гэтым усе сказы, пачынаючы з другога, і сэнсам, і граматычна звязаны з першым сказам і паясняюць яго.

*1. Пачатак жніўня. 2. Зранку цярушыць дождж. 3. На пожні — росная дробненькая канюшына. 4. Дацвітае бульба. 5. Чуваць сытыя галасы варон і перапёлак* (Я. Брыль).




**21.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце, як звязаны сказы ў тэксце: паслядоўна ці паралельна. Пакажыце сувязь сказаў пры дапамозе схемы.

Мінулай вясной Мікалай Ярмакоў быў у Мінску. Вечарам вуліцы горада свяціліся тысячамі агнёў. Але сярод іх Мікалай убачыў адзін асаблівы. Гэта было полымя Вечнага агню. Яно запалена ў гонар тых, хто аддаў сваё жыццё за Радзіму *(М. Янчанка)*.

**Загаловак** — гэта назва твора (тэксту). Загаловак выражае тэму твора ці яго асноўную думку, яго змест.

**22.** Прачытайце тэкст. Дакажыце, што сказы ў тэксце звязаны паралельнай сувяззю.

Марына ніколі раней не была ў вёсцы і таму вельмі здзівілася, што хата дзеда і бабы ўсярэдзіне амаль нічым не адрозніваецца ад іхняй гарадской кватэры. Тут таксама былі два пакоі і кухня, стаялі круглы стол, мяккая канапа і крэслы. Гаварыла радыё. Пад столлю вісела электрычная лямпачка з ружовым абажурам. Толькі печы такой вялікай і шырокай, ледзь не на палову кухні, у іх у горадзе няма. І вокны тут меншыя *(С. Міхальчук)*.

**23.** Прачытайце тэкст. Што выражае яго загаловак: тэму ці асноўную думку? Спішыце, устаўляючы замест кропак словы, якія звязваюць сказы паміж сабой: займеннікі і блізкія па значэнні словы.

ЛЮБІЦЕ РОДНУЮ ПРЫРОДУ

**Кніжка** гэта называецца «Каляровыя **казкі**». ... мае падзагаловак «Замалёўкі». ... можна было б назваць «**Каляндар** беларускай прыроды», бо раз-

дзелаў у ёй дванаццаць. І ... прысвечаны пэўнаму **месяцу** года.

Аўтар ... — вядомы беларускі мастак Валянцін Мікалаевіч Ціхановіч. ... малюнкі вы не раз разглядалі ў кніжках і часопісах. ... за час незлічоных вандровак, начлегаў каля вогнішча ў лесе, у полі, на берагах азёр «падгледзеў» безліч таямніц прыроды. ... вы даведаецеся, магчыма, упершыню з гэтай кніжкі.

- Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.
- Падбярыце сінонім да слова *вогнішча*.

**24.** Прачытайце і дайце загаловак тэксту. Спішыце, замяняючы выдзеленыя словы іншымі сродкамі сувязі сказаў: займеннікамі і блізкімі па значэнні словамі.

Высока ў небе, працяжна курлыкаючы, ляцелі **жураўлі. Жураўлі** нібы плылі і толькі сяды-тады ўзмахвалі крыламі. Курлыканне **жураўлёў** нагадвала нейкую аднастайную і сумную песню. Відаць, гэта была песня развітання з роднымі мясцінамі, якія **жураўлі** пакідалі да новай вясны.

**25.** Да наступных сказаў падбярыце яшчэ некалькі, каб атрымаліся тэксты: з паслядоўнай сувяззю (I); з паралельнай сувяззю (II).

I. Мой дзед быў лесніком...
II. Я люблю беларускія народныя казкі...

**26.** Прачытайце тэкст. Выпішыце з яго словы, якія з'яўляюцца сродкамі сувязі сказаў.

Узор: *сцяна — сцяной, дарога — шлях, сасна — на ёй.*

Зялёная арка ўзвышалася над уездам у вуліцу. За ёй я ўбачыў новы дом на восем акон. Шуфляды* і рамы ў вокнах былі пафарбаваны жоўтай фарбай. Перад вокнамі, за нізкай агароджай, цвілі вяргіні. Далей у вуліцы скрозь стаялі падобныя дамкі і новыя хаты. Тых, знаёмых мне, старых хат было ўжо зусім мала *(К. Чорны)*.

***бе́зліч***

**27.** Прачытайце тэкст. Напішыце падрабязны пераказ паводле дадзенага плана.

ВОРЧЫК

Было гэта ў час вайны. На Палессі.

Жыў там на ўлонні прыроды, працаваў лесніком Пахом Тачыла. Любіў ён паляванне. І ўсё жыццё трымаў сабак. Па два, тры, а то і болей.

Аднойчы на леснікову сядзібу наляцелі карнікі. Яны пазабівалі сабак. Выратаваўся толькі адзін Ворчык.

Карнікі дапытваліся ў лесніка, дзе знаходзяцца партызаны. Але Пахом адмовіўся паказаць лагер народных мсціўцаў. Карнікі збілі яго да непрытомнасці і забралі з сабою. У бліжэйшай вёсцы карнікі ўкінулі непакорнага лесніка ў свіронак* і замкнулі.

Як жа здзівіліся ворагі, калі раніцай не ўбачылі вязня*. Адно нара зеўрала з-пад сцяны. Ворагі падумалі, што Пахом ачуняў і сам выграб дзірку.

На самай жа справе гэта зрабіў Ворчык. Па слядах сабака высачыў, дзе знаходзіцца гаспадар.

А ноччу падгробся пад сцяну і выратаваў Пахома *(Б. Сачанка)*.

П л а н

1. Ляснік Пахом Тачыла.
2. Налёт карнікаў.
3. Ляснік у няволі.
4. Вязень знік.
5. Уратаваў Ворчык.



Пры напісанні падрабязнага пераказу дакладна, без адступленняў і змен перадаецца змест тэксту і яго асноўная думка. Захоўваецца будова тэксту, яго агульны інтанацыйны рысунак (танальнасць). Выкарыстоўваюцца характэрныя для тэксту прыёмы пабудовы і моўныя сродкі.

## § 5. Назоўнік

**28.** Прачытайце верш «Мая граматыка». Якія часціны мовы названы ў вершы? У першым слупку назавіце галоўныя члены сказа. Вызначце склон і лік назоўнікаў, якія выконваюць ролю дзейнікаў.

У лесе родную вучыў я мову.
Назоўнікамі дрэвы ў ім звіняць.
Тут птушкі ўтвараюць дзеясловы —
Пяюць, шчабечуць, свішчуць і крычаць.

Прыметнікамі бор здалёк прыкметны —
Зеленачубы, статны, залаты.
Сустрэне бор займеннікам прыветным...
Як з лепшым сябрам, з кожным ён на «ты».

Звіні ж вякамі, мова, па-над краем —
На пераправе, у лесе, пры сасне.
Жыццё не адмаўляе, а сцвярджае
Адмоўная часціца мовы — «не».

Не знішчым мы, не страцім, не загубім
Сваіх лугоў, азёр, сваіх лясоў.
І родны край і мову не разлюбім —
У кожным сэрцы гэты дзеяслоў!

*В. Гардзей.*

● Праскланяйце вусна ў адзіночным і множным ліках назоўнікі *дрэва* і *птушка*.

**Пачатковая форма назоўніка** — форма назоўнага склону адзіночнага ліку.

У сказе назоўнік у форме назоўнага склону найчасцей выконвае ролю дзейніка, а ў форме ўскосных склонаў — ролю іншых членаў сказа.

**29.** Запішыце назоўнікі ў наступным парадку: 1) назвы прадметаў, 2) назвы прымет прадметаў, 3) назвы дзеянняў, 4) назвы лічбаў, 5) назвы паняццяў. Пры запісе пазначце ў дужках род кожнага назоўніка.

Зяляніна, сякера, аловак, гальштук, госць, сямёрка, хадзьба, касьба, сінява, гарачыня, бацькаўшчына, цукар, падарожны, пяцёрка, сінька, спорт, плывец, мітусня, чараўніца, бег, узрост, ветлівасць, памяць, запавет, бель, цемрадзь.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Госць.*** У старажытнасці слова *госць* мела значэнне 'купец'. А слова *гасціць* — 'гандляваць, прыязджаць з гандлёвай мэтай'. А яшчэ раней слова абазначала 'чужы чалавек'.

**30.** Разгледзьце табліцу. Скажыце, якія назоўнікі адносяцца да 1, 2, 3-га скланення.

| Скланенне | Род | У Н. скл. адз. л. назоўнікі заканчваюцца на |
|---|---|---|
| 1-е | жаночы | ***-а, -я:*** *радзім-**а**, але-**я**, экскурсі-**я*** |
| 2-е | мужчынскі<br><br>ніякі | зычныя: *дом*□, *лось*□, *леў*□, *верх*□<br>***-о, -е, -ё, -а:*** *сял-**о**, пол-**е**, жыцц-**ё**, дзів-**а*** |
| 3-е | жаночы | зычныя: *медзь*□, *гусь*□, *кроў*□, *ноч*□ |

● Чым трэба кіравацца пры вызначэнні скланення?

● Вызначце, да якога скланення адносяцца наступныя назоўнікі.

Акно, возера, насенне, галлё.
Лінія, краіна, прырода.
Дуб, каваль, розум, давер.
Веліч, кроў, радасць.

**31.** Дапішыце да дзеясловаў назоўнікі ў адпаведнасці з пытаннямі. Абазначце іх склон і скланенне.

думаць (п р а к а г о?)
прачытаць (ш т о?)
пайсці (п а ш т о?)
адказаць (н а ш т о?)
пагутарыць (з к і м?)
пакатацца (н а ч ы м?)
плысці (д а ч а г о?)
смяяцца (з к а г о?)
дзякаваць (к а м у?)

**32.** Разгледзьце табліцу. Скажыце, якія канчаткі маюць назоўнікі 1, 2, 3-га скланення ў прыведзеных склонах.

| Скланенне | Склон | Пытанні | Прыклады |
|---|---|---|---|
| 1-е | Д. | к а м у?<br>ч а м у? | *сав-**е**, дачц-**э***<br>*зямл-**і**, груш-**ы*** |
| | М. | а б к і м?<br>а б ч ы м? | *аб сав-**е**, аб дачц-**э***<br>*аб зямл-**і**, аб груш-**ы*** |
| 2-е | Р. | к а г о?<br>ч а г о? | *сын-**а**, кавал-**я***<br>*шум-**у**, ча-**ю*** |
| | Т. | к і м?<br>ч ы м? | *сын-**ам**, кавал-**ём***<br>*шум-**ам**, ча-**ем*** |
| 3-е | Р. | к а г о?<br>ч а г о? | *гус-**і**, мыш-**ы***<br>*дал-**і**, радасц-**і*** |
| | Д. | к а м у?<br>ч а м у? | *гус-**і**, мыш-**ы***<br>*дал-**і**, радасц-**і*** |
| | М. | а б к і м?<br>а б ч ы м? | *аб гус-**і**, аб мыш-**ы***<br>*аб дал-**і**, аб радасц-**і*** |
| | Т. | к і м?<br>ч ы м? | *гусс-**ю**, мышш-**у***<br>*далл-**ю**, радасц-**ю*** |

**33.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Растлумачце іх сэнс. Спішыце, дапісваючы канчаткі назоўнікаў. Абазначце склон назоўнікаў.

1. Жыць на чужой старонц.., як на скал.. адзінокай сасонц.. . 2. Па рабоц.. майстра відаць. 3. Па кропельц.. — рэчка, па травінц.. — копка, а па копц.. — стог. 4. Ад навук.. дужэюць рукі. 5. У добрай слав.. шырокія крылы. 6. Хто людзям не верыць, той і сабе вер.. не дасць. 7. Птушка моцная крыламі, а чалавек — дружб.. .

**34.** Пры спісванні пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне. Абазначце іх род і склон. З якімі прыназоўнікамі ўжываецца месны склон? Якія канчаткі маюць назоўнікі 1-га скланення ў давальным і месным склонах?

1. Тыдні праз два зноў давялося ісці па гэтай *(дарога)* *(Я. Колас)*. 2. А на *(палавіна)* мае дарогі, як сумысля, стаяў самы цёмны лес *(Я. Колас)*. 3. Я стаў расказваць, што было ў *(дарога)* *(Я. Колас)*. 4. Па правай *(рука)* цягнуўся ельнік уперамешку з маладымі хвоямі, а з левага боку пачынаўся бярэзнік *(Я. Колас)*. 5. Стаяць у кожнай *(вёска)* абеліскі, на кожным зорка памяці гарыць *(Х. Жычка)*.

***уперамéшку***

**35.** Запішыце назоўнікі ў творным склоне. Абазначце канчаткі.

Край, веліч, бег, салавей, мядзведзь, гушчар, медзь, каваль, радасць.

- Складзіце з гэтымі назоўнікамі (на выбар) 2—3 сказы.
- Падкрэсліце галоўныя члены сказаў.

**36.** Паводле малюнкаў складзіце тэкст з паслядоўнай сувяззю сказаў.



**37.** З кожным словам складзіце сказы так, каб дадзеныя назоўнікі стаялі ў творным склоне адзіночнага ліку.

Радасць, прыстань, аповесць, медзь, мужнасць, веліч, дэталь, ціш.

**38.** Да якога скланення належаць назоўнікі, што ў дужках? Спішыце сказы, раскрываючы дужкі.

1. Цёмная ноч густа заткала *(цемрадзь)* вуліцу *(Я. Колас)*. 2. Сцёпка гаварыў так проста і разумна, што яго слухалі з вялікай *(цікавасць)* *(Я. Колас)*. 3. Шэпчуцца ціха асака з чаротам над *(гладзь)* люстранай вады *(В. Гардзей)*. 4. Над *(Прыпяць)* сінее лес, адтуль нясе церпкім густым водарам, сатканым з пахаў хвоі, прэлай зямлі, грыбоў і багуну *(І. Навуменка)*. 5. Зямля закрасавала *(свежасць)* траў *(Э. Самуйлёнак)*. 6. З пшаніцай, *(соль)*, лесам і рудою ідуць цягнікі і днём і *(ноч)* *(І. Грамовіч)*.

**39.** Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі ў форме множнага ліку. Зверху абазначце іх склон, назавіце канчаткі.

1. Загарэліся золатам вяршыні сосен *(І. Шамякін)*. 2. Шмат яблынь, вішань і маліны як бы прыйшлі з усіх далін і акружылі гэты дом *(П. Броўка)*. 3. Усе мы ў баях гартаваліся, і не забыць нам страт *(М. Танк)*. 4. І зоркі аганёк надзею шле здалёк і абяцае шмат дарог, расчаравання і трывог *(М. Танк)*. 5. У цішыні палёў далёка чуваць працавіты басок трактароў *(І. Мележ)*. 6. Задумліва шамаціць лісце на асфальце бульвараў і на дарожках паркаў *(І. Мележ)*.

## § 6. Прыметнік

**40.** Прачытайце верш. Знайдзіце ў ім аднакаранёвыя словы. Да якіх часцін мовы яны належаць? Абгрунтуйце сваю думку.

Ці то неба на поле ўпала,
Поле сінім абрусам заслала?
Ці то поле з небам злілося —
Столькі сіні наўкол разлілося?

Вецер гоніць сінія хвалі
У бясконцыя сінія далі.
На траве расінкі
Падсінены сінькай.

Хадзем, сыне,
У ранак сіні.
Лён цвіце,
Сын расце.

*Я. Крупенька.*

**41.** Прачытайце верш. Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Абазначце склон прыметнікаў.

САЛАВЕЙ

У зацішку вербалозаў ніцых,
Дзе лясная сочыцца крыніца,
Чыстай, свежае вады напіўся
І яшчэ званчэй і весялей
Серабрыстай пацеркай на нітцы
Затрымцеў і песняю разліўся
У альховым кусце салавей.

*В. Вітка.*

**42.** Пры спісванні падбярыце прыметнікі да выдзеленых назоўнікаў. Параўнайце варыянты тэксту. Якое апісанне лесу больш маляўнічае?

**Дарога** павярнула ў **алешнік.** Тут засень і цішыня. **Кусты** абступаюць дарогу і не даюць сонцу прабіцца на зямлю. **Тунэль** непрыкметна ўліваецца ў лес. **Бор** далёка праглядваецца між стваловў. Дол укрыты то **верасам,** то **мохам,** то **ігліцай.** Аднекуль даносіцца стук **дзятла.**

Род, лік і склон прыметнікаў залежыць ад назоўнікаў: *ранняя вясна, шырокае поле, у зялёнай дуброве, хвойныя лясы.*

**Пачатковая форма прыметніка** — форма назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду.

Род прыметнікаў вызначаецца толькі ў адзіночным ліку.

У сказе прыметнік звычайна выконвае ролю даданага члена сказа.

**43.** Прачытайце верш і дайце яму загаловак. Спішыце тэкст і падкрэсліце прыметнікі. Якая іх роля ў вершы? З якімі словамі яны ў ім звязаны? Вызначце род, лік і склон прыметнікаў.

Возера Нарач, прасторнае, чыстае!
Ты, як паветра, такое празрыстае:
ціхай пагодаю свеціцца дно, —
ты на планеце такое адно.

Дзіўнае дзіва на сушы!
Пэўна, у чыстай вадзе
адлюстраваліся душы
добразычлівых людзей.

*В. Жуковіч.*

● Скажыце, калі замест ***д***, ***т*** пішуцца ***дз*** і ***ц***. Прывядзіце прыклады з тэксту.

**44.** Разгледзьце табліцу канчаткаў прыметнікаў адзіночнага ліку. Карыстаючыся табліцай, праскланяйце прыметнікі.

Добры, верхні.
Светлае, сіняе.
Шчодрая, асенняя.

| Склоны | Мужчынскі род. Ніякі род | Жаночы род |
|---|---|---|
| Н. | ***-ы, -і; -ое, -ае, -яе*** | ***-ая, -яя*** |
| Р. | ***-ога, -ага, -яга*** | ***-ой (-ое), -ай (-ае), -яй (-яе)*** |
| Д. | ***-ому, -аму, -яму*** | ***-ой, -ай, -яй*** |
| В. | ***-ы, -і; -ое, -ае, -яе*** | ***-ую, -юю*** |
| Т. | ***-ым, -ім*** | ***-ой (-ою), -ай (-аю), -яй (-яю)*** |
| М. | *(аб)* ***-ым, -ім*** | *(аб)* ***-ой, -ай, -яй*** |

● Сфармулюйце правіла аб правапісе канчаткаў прыметнікаў адзіночнага ліку.

**45.** Адкажыце на жартоўныя пытанні, выкарыстоўваючы прыметнікі. Ці можна па пытанні вызначыць, у якім склоне будзе стаяць прыметнік? Пры адказе называйце канчатак прыметніка.

1. Якім грэбенем валасы не расчэшаш? 2. У якой печы не пякуць пірагі? 3. З якога палатна не пашыеш кашулі? 4. Якой касой сена не накосіш? 5. Якія вароты знаходзяцца ў полі? 6. З якога крана нельга напіцца?

**46.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і дапісваючы канчаткі прыметнікаў у адпаведнасці з пытаннямі.

Устал..валася (я к а я?) пагодн.. вос..нь. На (я к о е?) нов.. жыццё адрадзіліся (я к і я?) азім.. палеткі. (Я к а я?) Густ.. з..лён.. рунь укрыла іх. На (я к і х?) ярав.. палетках цупка* ўзялася за зямлю (я к а я?) малад.. канюшына. Лугі зaз..лянелі (я к о й?) раскошн.. атавай.

Раніцамі зямлю ўсцілаў (я к і?) дробн.. іней. А днём у паветры плыло (я к о е?) бел.. павуцінне. (Я к і я?) Адзінок.. бярозы жаўцелі між (я к і х?) з..лён.. сосен *(Паводле А. Чарнышэвіча)*.

**47.** Назавіце колеры вясёлкі. Запішыце іх.

**48.** Спішыце. Растлумачце напісанне выдзеленых літар і канчаткаў прыметнікаў.

ЛІСЦВЯНАЯ МЯЦЕЛІЦА

Пажаўцела зялён**ае** мора ў ваколіцах Мінска. Золк**ія** ночы прыспешвалі развіта**нн**е дрэў са сваім летн**ім** уборам. Кроны асін зрабіліся чырвонымі. Пац**я**жэлі ад першага крывян**ога** соку гронкі каліны.

Калі нал**я**таў на лес злы в**е**цер, усё тут танула ў шаргатлів**ай** лісцвян**ой** м**я**целіцы. Стракат**ы** дыван з лісц**яў** усцілаў зямлю. Толькі адны дубы яшчэ горда ўзнімалі на сваіх гранітн**ых** ствалах непакорн**ыя** бронзав**ыя** шаты *(Паводле М. Паслядовіча)*.

*во́дбліск*

● Абазначце лік і склон прыметнікаў у сказах першага абзаца.

**49.** Напішыце сачыненне на тэму «Восенню ў лесе».

**50.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце склон назоўнікаў і прыметнікаў. Падкрэсліце граматычную аснову ў сказах першага слупка.

***во́дар***

ВОСЕНЬ

Восень-праца..ніца спачывае.
З..лянеюць ціхія палі.
Хмары кужалёвыя над гаем
Сонца лё..кім смутк.. а..вілі.

Голы луг сівее ў ціш.. сонн..,
Вее спел.. водарам садоў.
Падаюць лісты сух.. з кл..наў,
Быццам песня по..ніх журавоў.

*М. Пазнякоў.*

● Падбярыце да слова *смутак* сінонімы і антонімы.

## § 7. Займеннік

**51.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім асабовыя займеннікі. Вызначце іх асобу і лік. Якія словы яны замяняюць? Якімі членамі сказа з'яўляюцца?

ЯБЛЫКІ

— Колькі будзе, калі да пяці дадаць пяць? — пытаецца настаўнік у першакласніка Андрэйкі.

Андрэйка задумаўся.

— Ну, я даў табе пяць яблыкаў. Потым яшчэ пяць. Колькі яблыкаў ты павінен мне аддаць?

— Дванаццаць, — выпаліў Андрэйка.

— Дрэнна, сядай, — сказаў настаўнік.

— Эх ты! Сказаў бы дзесяць, і ўсё добра было б, — шэпча яму яго сусед Саўка.

— Ага, дзесяць... Я дванаццаць прапанаваў, і то ён не згадзіўся *(В. Феранц)*.

● Падрыхтуйце паводле тэксту маленькую сцэнку. Колькі будзе роляў? Ці патрэбна агучваць словы аўтара?

Займеннік не называе прадмет ці асобу, а толькі ўказвае на іх.

**52.** Прачытайце тэкст. Назавіце сказ, які перадае асноўную думку. Дайце загаловак, які перадаваў бы тэму тэксту.

Спішыце, раскрываючы дужкі. Устаўце словы, якія служаць сродкам сувязі сказаў у тэксце.

Цішка Гартны быў адукаваным чалавекам. ... ніколі не грэбаваў сустрэцца і пагутарыць *(з)* самымі простымі людзьмі. Прыезд ... ў Капыль *(на)* пабыўку *(да)* сваякоў быў цэлай падзеяй *(для)* капылян. Усе ішлі *(да)* ... *(за)* парадай, паслухаць навіну. Моцная сіла трымала гэтага чалавека *(ў)* гушчы народа. Усё жыццё Цішка Гартны быў цесна звязаны *(з)* народам *(М. Хведаровіч)*.

Зрабіце вывад аб ролі займеннікаў у тэксце.

**53.** Да наступных слоў падбярыце займеннікі 3-й асобы адзіночнага ліку. Пары слоў запішыце.

вучыў (к а г о?)
вучыўся (з к і м?)
прынёс (к а м у?)
прынёс (з к і м?)
чытаў (п р а к а г о?)
чытаў (з к і м?)
перадаў (к а м у?)
перадаў (д л я к а г о?)

**54.** Прачытайце загадкі. Вызначце асобу, лік і склон асабовых займеннікаў. Калі мы можам даведацца, замест якіх слоў ужыты займеннікі 3-й асобы? Запішыце адгадкі парамі. Як называюцца словы, супрацьлеглыя па значэнні?

1. Ён патрэбен нам усім
Дзеля працы, шчасця.
Мы заўсёды разам з ім
Будзем усміхацца.

А яна — бяда і зло,
Мора слёз і болю,
І яе — каб не было
Анідзе, ніколі.

2. Без яго жыццё — самота,
Ён — надзея, і пяшчота,
І памочнік ён, і брат,
Хай у нас іх будзе шмат!

А ягоны антыпод*
Прынясе нам шмат нягод.
Будзем моцна сябраваць,
Каб яго не сустракаць.

*М. Пазнякоў.*

**55.** Прачытайце. Назавіце сродкі сувязі сказаў. Падзяліце тэкст на часткі. Падбярыце загалоўкі да кожнай часткі і вусна перадайце змест тэксту ад 3-й асобы.

ДОБРАЕ СУСЕДСТВА

Я з вудачкамі стаіўся пад вярбой. А побач са мною, на суседнім кусце, жаўтагрудая аўсянка сядзіць.

— Зінь-зінь-зі-і-нь, — раз-пораз падае яна свой мілагучны голас.

Кожны з нас сваім заняты. Я лаўлю залацістых карасёў у азярыне, а мая жаўтагрудая сусед-

ка пільнуе маленькіх птушачак у мяккім гняздзечку пад кустом.

У гняздзечку пяць птушанятак. Усе ў шэранькіх пёрках, з жвавымі канаплінкамі-вочкамі. Цікаўныя такія!

Рыбачу я пад гэтай вярбой амаль кожную раніцу. Паводжу сябе на беразе ціха, каб рыбу не палохаць у возеры, а заадно, вядома, і сваю крылатую суседку. Птушачка прызвычаілася і зусім мяне не баіцца *(Р. Ігнаценка)*.

**56.** Спішыце, ставячы займеннікі, што ў дужках, у патрэбным склоне. У дужках напішыце пытанні, на якія яны адказваюць.

1. *(Я)* так хочацца ўславіць Радзіму, да канца сваю песню дапець *(У. Скарынкін)*. 2. Дарога была людная, шасэйная, па *(яна)* раз-пораз імчаліся машыны *(К. Чорны)*. 3. Дзядзька Міхей не песціў свайго ўнука, не вылучаў *(ён)* сярод іншых *(Т. Хадкевіч)*. 4. Са станцыі далятаў да *(мы)* густы гул матораў і ляскатанне жалеза *(Т. Хадкевіч)*. 5. Насустрач *(мы)* па дошках і сходках беглі людзі *(Т. Хадкевіч)*. 6. Не пакіну *(ты)* я, вёска, расстацца з *(ты)* не магу *(М. Машара)*. 7. Мы ў лес у нядзелю хадзілі ўсім класам, шкада *(я)*, што *(вы)* не было з *(мы)* разам *(В. Жуковіч)*.

## § 8. Дзеяслоў

**57.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту. Выпішыце дзеясловы, якія стаяць у неазначальнай форме. Пастаўце да іх пытанні.

Самая галоўная крыніца, адкуль чалавек чэрпае свае веды, — кніга. **Чытанне** — гэта праца

думкі. Вучыся думаць чытаючы. Старайся прачытаць болей, чым табе задаюць. Любоў да кнігі пачынаецца з тваіх школьных падручнікаў. Шануй іх, памятаючы, што пасля цябе па іх будуць вучыцца твае малодшыя таварышы.

● Да якой часціны мовы належыць выдзеленае слова? Абгрунтуйце сваю думку.

**58.** Да дзеясловаў неазначальнай формы дапішыце патрэбныя назоўнікі і вызначце іх склон. Вусна пастаўце да дзеясловаў пытанні.

дапамагаць (к а м у?)
сумаваць (п а к і м?)
сябраваць (з к і м?)
апавядаць (п р а ш т о?)
пайсці (п а ш т о?)
перадаць (ш т о?)
захапляцца (ч ы м?)
дзякаваць (к а м у?)

**59.** Спішыце тэкст. Знайдзіце дзеясловы неазначальнай формы і зверху пазначце, да якога спражэння яны належаць.

Люблю адпачыць пад прыдарожнай бярозкай. Добра так. Заплюшчыш вочы, і тады разгалістае зялёнае дрэва ўявіцца мачтай. Лёгкі шум яго лісцяў здасца плёскамі хваль. Можна плыць і плыць пад гэту аднастайную музыку ў далёкія далі. Можна пабачыць заморскія краіны, наведаць казачную Атлантыду *(І. Навуменка)*.

**60.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. У дужках пасля кожнага дзеяслова запішыце яго неазначальную форму.

ТАЙНЫ ЗОРНАГА НЕБА

Часта планетарый называюць (...) «зорным тэатрам».

Хто хоць раз наведаў (...) планетарый, ніколі не забу..е (...) таго в..лічнага відовішча, калі раптам успыхвае (...) на купале мноства зорак. Вы ўбачы..е (...) Сонца і Месяц, планеты і зоркі, каметы* і метэоры*, знойдзеце (...) с..рэбраны коўш В..лікай М..дзведзіцы, бліскучую групу Арыёна і іншыя сузор'і.

● Растлумачце, чаму словы *Сонца* і *Месяц* напісаны з вялікай літары. Прыдумайце сказы, дзе б гэтыя словы пісаліся з малой літары.

**61.** Прачытайце пачатак тэксту.

Верасень. Ранак. Вогненны дыск сонца толькі пачынае выплываць з-за лесу. На траве і лістоце алешніку блішчаць буйныя кроплі халоднай расы. Па лагчыне сцелецца туман...

● Прадоўжыце апісанне.
● Падкрэсліце дзеясловы і вызначце іх спражэнне.

**62.** Да наступных назоўнікаў падбярыце аднакаранёвыя дзеясловы ў неазначальнай форме. Запішыце.

У з о р: *малюнак* — (ш т о р а б і ц ь?) *маляваць*, (ш т о з р а б і ц ь?) *намаляваць*.

Загадка, гаворка, мерка, крык, думка, збор, фарба, выган.

**63.** Разгледзьце табліцу асабовых канчаткаў дзеясловаў. Карыстаючыся табліцай, пісьмова праспрагайце два дзеясловы: *ісці, чытаць* (I спр.); *гаварыць, любіць* (II спр.).

| Асоба | I спражэнне | II спражэнне |
|---|---|---|
| 1-я (я)<br>2-я (ты)<br>3-я (ён, яна, яно) | ***-у (-ю)***<br>***-еш (-эш, -аш)***<br>***-е (-э, -а)*** | ***-у (-ю)***<br>***-іш (-ыш)***<br>***-іць (-ыць)*** |
| 1-я (мы)<br>2-я (вы)<br>3-я (яны) | ***-ём (-ем, -ом, -ам)***<br>***-еце (-яце, -аце)***<br>***-уць (-юць)*** | ***-ім (-ым)***<br>***-іце (-ыце)***<br>***-аць (-яць)*** |

**64.** Адгадайце загадкі. Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў. Вызначце асобу, час, спражэнне дзеясловаў.

1. Яно па небе плава.., іскрыстае, рухавае, жыццё да.. палеткам, і збажыне, і кветкам. 2. Жалезны конь, у жываце агонь, есці не прос.., а жн.. і малоц.. . 3. Кругом вада, а з піццём бяда. Хто адгада.., дзе гэта быва..? 4. Па моры імчыцца, пад ветрам гуля.., да берага дойдз.., адразу зніка.. . 5. Не рыба, а плава.., не конь, а ходз.., не пілка, а рэж.. .

**65.** Прачытайце дыялог. Вызначце час, асобу, лік дзеясловаў.

— Коля, ты баішся заходзіць у цёмны пакой?
— Не.
— Тады зайдзі.
— Пойдзем разам — і ты ўбачыш, што я не баюся.

**66.** Прачытайце народныя прыкметы надвор’я. Спішыце, падкрэсліце дзеясловы будучага часу. Чым тлумачыцца іх ужыванне ў гэтых сказах?

1. Сырое лета і доўгая восень — наступіць доўгая і снежная зіма. 2. Вечарам і ноччу з'яўляецца туман — надвор'е палепшыцца. 3. Калі вясёлка пасля дажджу знікне хутка — будзем чакаць яснага надвор'я. 4. Калі ноччу выпадзе шмат расы — будзе яснае надвор'е. 5. Калі начная раса не высахне — прыйдзе навальніца. 6. Калі ў вясёлцы шмат чырвані — дождж хутка спыніцца.

**67.** Спішыце тэкст, ставячы дзеясловы, назоўнікі і прыметнікі ў множным ліку. Абазначце канчаткі. Які варыянт тэксту лепш перадае няпэўную колькасць названых птушак?

Увесну, улетку, увосень і ўзімку — ніколі не моўкне ў пушчы дзіўная птушыная песня. Свішча шпак, ціунькае сінічка, стракоча сарока, кракае качка, буркуе голуб, кукуе зязюля, цёхкае салавей, клякоча бусел, курлыкае жораў *(А. Клышка)*.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Віламі па вадзе пісана.*** Выслоўе гэта зусім не звязана са значэннем слова *вілы* 'сельскагаспадарчая прылада'. Вельмі даўно гэта слова мела яшчэ адно значэнне — 'кругі': 'кругамі па вадзе пісана'. Цяпер выраз азначае 'невядома, ці ажыццявіцца'.

**68.** Ад дзеясловаў неазначальнай формы ўтварыце дзеясловы прошлага часу адзіночнага і множнага ліку.

У з о р: *гаварыць* — (ён) *гаварыў*□, (яна) *гаварыл*[*а*], (яно) *гаварыл*[*а*], (яны) *гаварыл*[*і*].

Марыць, слухаць, сеяць, дыхаць, маляваць.

● Як змяняюцца дзеясловы прошлага часу?

**69.** Пабудуйце і запішыце сказы, замяняючы дзеяслоў неазначальнай формы дзеясловам прошлага часу.

1. Лес, мора, рака, дзеці *(шумець)*.
2. Месяц, лямпа, сонца, вочы *(свяціць)*.

**70.** Прачытайце. З якой мэтай напісаны тэкст? Каму ён адрасуецца?

Спішыце сказы са словам ***не***, раскрываючы дужкі.

ШАНУЙЦЕ ЎСЁ ЖЫВОЕ

Як толькі сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі-суседзі прывучалі малых шанаваць усё жывое, што вакол нас.

— *(Не)* тапчы травіцы, хадзі сцежачкай. Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам.

— *(Не)* чапай, *(не)* ламай маладога дубочка або сасонкі. З іх вырастуць вялікія дрэвы.

— Асцярожна рві яблыкі — *(не)* паламай галінкі. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку *(не)* будзе яблыкаў.

— Напрасткі праз жыта *(не)* хадзі. Ты патопчаш нагамі хлеб.

З маленства расло ў мяне вялікае замілаванне да прыроды *(У. Дубоўка)*.

● Як пішацца ***не*** з дзеясловамі?

**71.** Адгадайце загадкі. Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары або апостраф.

1. Два браты глядзяць у ваду, а ніколі *(не)* сыдуцца. 2. Стука.., грука.., а нідзе яго *(не)* відаць. 3. Без языка жыве, *(не)* есць, *(не)* п..е, а гаворыць. 4. Як тая рэч завецца, што цэлы год лічыць і ніколі *(не)* саб..ецца?

## § 9. План тэксту

**72.** Прачытайце. Што перадае загаловак: тэму, асноўную думку ці і тое і другое?

НЕ СПЫНЯЙСЯ

Пайшоў я неяк восенню ў лес. Убачыў дзікую грушку і пакаштаваў яе плады. Але ж якое сукаватае ды калючае дрэўца!

Я ўзяў ножык і абрэзаў ніжнія галіны і калючкі. Потым падправіў крону. Грушка стала стройнай і прыгожай.

Вясной я зноў сустрэўся з дрэўцам. Убачыў і жахнуўся: кара на ім была спаласавана вострымі зубамі зайца і казулі. Грушка магла загінуць.

Я расказаў пра гэта бацьку. Ён выслухаў мяне і параіў: «Пачаўшы добрую справу, не спыняйся на паўдарозе. Выкапай дрэўца і перанясі ў сад. Замаж раны. Пройдзе час, і грушка аддзякуе табе» *(М. Янчанка)*.

● Вызначце, колькі ў тэксце частак. Дайце ім загалоўкі. Запішыце загалоўкі, і ў вас атрымаецца план тэксту.

Акрамя галоўнай тэмы, у тэксце можа быць некалькі падтэм. Сказы, аб'яднаныя падтэмай, утвараюць сэнсавую частку тэксту.

Кожная сэнсавая частка пачынаецца сэнсава важным сказам і выдзяляецца **абзацам** (чырвоным радком). Абзацам называецца таксама частка тэксту ад аднаго чырвонага радка да другога.

Каб скласці план тэксту, трэба падзяліць тэкст на сэнсавыя часткі і даць ім загалоўкі, якія б раскрывалі тэму кожнай часткі.

План перадае змест і будову тэксту.

**73.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.

## АПОШНІ БАРАВІК

Я нетаропка іду прыкметнай сцяжынкай. У лесе стаіць незвычайная цішыня. Панура і самотна* ўзвышаюцца сосны. То ў адным, то ў другім месцы з-пад моху неўпрыкметку выглядаюць шапачкі зялёнак. Без асаблівага хвалявання бяру іх і крочу далей. Нечакана позірк мой затрымліваецца на вялікім карычняватым грыбе. Няўжо баравік? Асцярожна набліжаюся да яго і не веру вачам: сярод апалага лісця сапраўды стаіць белы грыб, з вялікай мясістай шапкай і тоўстым бураватым коранем. Любуюся ім, а затым зразаю і кладу ў кошык. За лета мне пашчасціла зрэзаць не адну сотню баравікоў. І ўсё-такі гэты, знойдзены глыбокай восенню, баравік самы дарагі *(І. Сіляўка)*.

● Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі і дайце ім загалоўкі. Запішыце гэтыя загалоўкі і скажыце, ці могуць яны быць пунктамі плана. Паводле іх вусна перадайце змест тэксту ад трэцяй асобы.

**74.** Прачытайце тэкст. Абгрунтуйце яго падзел на абзацы. Складзіце план тэксту.

Пры ра..копках гарадоў у Грэцыі археолагі знайшлі фрэскі*. На іх была выява голуба з пісьмом у лапках. Стагоддзямі існавала гэта надзейная пошта.

Цікавую легенду данеслі да нас стараж..тныя рукапісы. Сабраўся бо.. вайны Марс у баявы пахо.. і пачаў адзяваць ваенныя даспехі. Але ў яго шлеме галу..ка звіла гн..здо і вывела пту-

шанят. Штосьці здрыганулася ў сэрцы бя..літаснага Марса. Ён асц..рожна паклаў свой шлем на месца. Пахо.. не адбыўся.

З таго часу голу.. лічыцца сімвалам міру.

● Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

**75.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Падзяліце яго на сэнсавыя часткі.

КОШЫК МАЛІН

Навальніца дагнала мяне, калі я не ад’ехаў і кіламетра ад лесу.

Раптам бачу, што мне напярэймы бяжыць хлапчук. Яшчэ здалёку крычыць:

— Дзядзечка, дайце плашч! Маліны мокнуць...

Я кінуў веласіпед і пабег да куста вербалозу, дзе стаяла жанчына. На бягу скінуў плашч, падаў жанчыне. Тая прыкрыла ім паўнюткі кошык спелых і буйных малін і сказала:

— Дзякуй вам. Я ўжо думала, прападуць маліны. Мы ж цэлы дзень завіхаліся, каб варэнне зварыць. Сын у горадзе. На заводзе...

Жанчына і хлапчук стаялі, моклі. Яны радаваліся, што не прападуць маліны.

Маці! Яна на ўсё гатова, абы толькі прынесці хоць трошкі радасці дзецям *(Паводле Б. Сачанкі)*.

**76.** Прачытайце варыянты плана тэксту «Кошык малін». Які з іх больш дасканалы? Абгрунтуйце сваю думку.

I. 1. Навальніца.
   2. Маліны мокнуць.
   3. Дапамога.
   4. Падзяка жанчыны.

5. Маліны не прападуць.
6. Думкі аб маці.

**здалёку**

II. 1. Навальніца.
2. Умольны крык хлопчыка: «Маліны мокнуць».
3. На дапамогу.
4. Падзяка жанчыны.
5. Радасць маці і хлопчыка.
6. Думкі аб маці.

**напрэ́ймы**

Вусна падрабязна перадайце змест тэксту паводле плана.

**77.** Спішыце, падзяляючы тэкст на абзацы і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

Ранняя восень прыйшла ў лясы, пералескі[с], лугі і непрыкметна па..кралася да вёсак. З яе прыходам злё..ку пажаўцелі беластволыя бяро..кі, ку..частыя клёны, цяністыя ліпы. У верасні а..лятаюць пералётныя[с] птушкі, але не глуха ў нашых парках і садах і ў гэты час. Яны напоўнены чыстым звонам сініц. Нярэ..ка сяро.. іх можна заўважыць іншых птушак. Цяпер усе яны туляцца бліжэй да чалавека. Як трапна гавораць у народзе: маці, ба..ька і чужы дзя..ька *(Р. Ігнаценка)*.

- Падбярыце аднакаранёвыя словы да слова *сад*.
- Растлумачце сэнс народнага выслоўя.

**78.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак, які перадаваў бы тэму. Напішыце падрабязны пераказ, карыстаючыся дадзеным ніжэй планам.

Галовы буслянят усё вышэй і вышэй узнімаліся над гняздом. Аднойчы раніцай Толік убачыў,

як адно з іх узнялося на свае цыбатыя* ногі, замахала яшчэ досыць куртатымі* крыламі. Другое спалохалася і хуценька прыгнула галаву.

— Эх ты, недаростак! — засмяяўся Толік.

Так і назвы атрымалі — Недаростак і Смелы.

Смелы часта падымаўся на ногі, махаў крыламі. Недаростак жа азіраўся на дол, нібы баючыся туды зваліцца.

Толік асцерагаўся, што Смелы і Недаростак прыпозняцца ляцець у вырай і могуць загінуць.

Але настаў дзень, і буслы пакінулі гняздо.

Толік, не зводзячы вачэй, сачыў за іх палётам. Недаростак нічым не адрозніваўся ад свайго брата.

— Шчаслівай вам дарогі! — прашаптаў Толік *(М. Паслядовіч)*.

План

1. Бусляняты ў гняздзе.
2. Смелы.
3. Трывога за буслянят.
4. Бусляняты ў палёце.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**1.** Прачытайце. Ці ўтвараюць гэтыя сказы тэкст? Які сказ выражае тэму? Якую ролю адыгрываюць астатнія сказы? Вызначце від сувязі сказаў у тэксце. Пакажыце гэта пры дапамозе схемы.

Цёпламу яснаму дню радуецца кожная жывая істота. На бярозе цінькаюць бесклапотныя сініцы. Імкліва праносяцца ў небе прыгожыя ластаўкі. Некуды спяшаецца працавітая мурашка *(Паводле І. Навуменкі)*.

**2.** Спішыце. Звяжыце сказы пры дапамозе адпаведных сродкаў сувязі.

Каця чытае кнігу. ... рыхтуецца да алімпіяды. ... адбудзецца ў час зімовых канікулаў.

● Якія сродкі сувязі сказаў вы выкарысталі? Чаму такая сувязь называецца паслядоўнай?

● Пры якой сувязі другі і наступныя сказы можна памяняць месцамі?

**3.** Прачытайце. Вызначце па пытаннях склон і, раскрываючы дужкі, запішыце словазлучэнні з адпаведнай скланавай формай назоўнікаў.

1. Быў на *(возера, спектакль, суботнік, рэчка)*.
2. Падышоў да *(дом, вуліца, бацька, алень)*.
3. Гаварыў аб *(вёска, балет, кніга, Прыпяць)*.

**4.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі і зверху абазначце іх склон.

Вместе со снегом в нашей местности появились зимние гости — снегири. Летом они живут на севере. Их можно увидеть на лесной опушке, в парке, на бульваре, на берёзе около дома. Вот птицы сидят на ветке яблони в саду. Круглые, красные, словно яблоки *(По И. Соколову-Микитову)*.

**5.** Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, з якімі яны звязаны па сэнсе. Вызначце род, лік і склон прыметнікаў, выдзеліце канчаткі.

У з о р: *на свеж[ым] паветры* (н. р., адз. л., М. скл.).

Надышла залацістая восень. Дзень яркі і сонечны. Вераснёўскае паветра пахне свежасцю. Фарбы і адценні залатой восені пакідаюць незабыўнае ўражанне. У сасновым бары паветра насычана густым водарам верасу *(«Родная прырода»)*.

**6.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя займеннікі.

Пры гасцінцы растуць векавыя бярозы. ... ціха перашэптваюцца. У ... голлі спяваюць птушкі. Наводдаль стаіць адзінокая бяроза. ... ледзь шэпча. Ствол ... пачарнеў.

**7.** Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў.

Ты чыта.., піш.., няс.., люб.., гавор.. .
Ён (яна, яно) глядз.., едз.., вер.., піш.., дзяку.. .
Мы буду.., бач.., воз.., плач.., ідз.. .
Вы выбяга.., прыходз.., суш.., слуха.., прыязджа.. .

**8.** Спішыце тэкст, замяняючы дзеясловы прошлага часу дзеясловамі цяперашняга часу.

Ляцелі з лесу птушкі ці ў лес — прысядалі адпачыць на дубах. Не мінаў дубоў і вецер. Восенню, калі жаўцелі палі, прастарнелі лугі, вецер страсаў з дубоў жалуды, а потым і лісце *(Паводле Б. Сачанкі)*.

# СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

## § 10. Словазлучэнне. Галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні

**79.** Прачытайце тэкст.

**Слова — асноўная моўная адзінка.** Словам мы называем прадметы, іх прыметы, дзеянні, розныя з'явы. Напрыклад, слова *лес* абазначае значную прастору зямлі, на якой растуць дрэвы. Але лясы бываюць старыя і маладыя, светлыя і цёмныя, густыя і рэдкія, вялікія і малыя, сасновыя і дубовыя. Калі трэба сказаць пра гэта, мы карыстаемся не словамі, а словазлучэннямі.

Словазлучэнне больш дакладна называе прадмет, дзеянне ці прымету: *стары лес, малады лес, будаваць дом, вельмі высокі.*

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пра якія адзінкі мовы гаворыцца ў тэксце?
2. Якая моўная адзінка больш дакладна называе прадметы, дзеянні, прыметы?

**Сінтаксіс** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца словазлучэнні і сказы.

**Пунктуацыя** — гэта сістэма правілаў пастаноўкі знакаў прыпынку.

**80.** Пабудуйце словазлучэнні, далучаючы да дзеяслова адно са слоў з дужак. Чаму нельга далучаць другое слова?

Спяваць *(песня, казка)*, маляваць *(пейзаж, думка)*, уручыць *(жарт, ордэн)*, бегаць *(высока, шпар-*

*ка)*, павярнуць *(лесам, налева)*, касіць *(траву, сена)*, лузаць *(арэхі, яблыкі)*.

Словазлучэнні складаюцца з двух слоў: галоўнага і залежнага. **Галоўным** з'яўляецца тое слова, ад якога ставіцца пытанне. У словазлучэнні яго абазначаюць так: ×.

Слова, да якога ставіцца пытанне, з'яўляецца **залежным.**




Залежнае слова звязваецца з галоўным па сэнсе і граматычна: *зялёная трава, зялёны луг, зялёнае поле*. Нельга сказаць: *зялёная адліга, зялёны мядзведзь*, бо атрымліваюцца бяссэнсавыя, недарэчныя словазлучэнні.

Граматычная сувязь выяўляецца ў тым, што залежнае слова прымае тую форму, якую патрабуе галоўнае. Гэта сувязь выражаецца канчаткам залежнага слова ці канчаткам і прыназоўнікам.




Нязменныя словы (прыслоўі) звязваюцца з галоўным словам толькі па сэнсе.



**81.** Прачытайце тэкст. Вызначце спосаб і сродкі сувязі сказаў у ім. Вусна перадайце яго змест. Выпішыце з 2-га сказа словазлучэнне з галоўным словам *дзеясловам*, потым словазлучэнні з галоўным словам *назоўнікам*. Абазначце галоўнае слова.

Напэўна, ніводнай птушцы чалавек не прысвяціў столькі легендаў, паданняў, прыказак і прымавак, як буслу.

Шанавалі гэтых прыгожых птушак многія народы. Бусел заўсёды быў свяшчэннай птушкай у туркаў. За разбурэнне буслянкі вінаватых каралі смерцю. У Старажытным Егіпце гэта птушка была сімвалам справядлівасці. У Македоніі яе выяву чаканілі на манетах. Старажытныя германцы з-за чырвонай дзюбы лічылі бусла сваяком бога грому Тора. Відаць, адсюль і павер'е*, што маланка ніколі не ўдарыць у дом, дзе гняздзіцца бусел.

**82.** Складзіце словазлучэнні. З дапамогай залежных слоў перадайце розныя значэнні прыведзеных ніжэй слоў. Пры неабходнасці карыстайцеся тлумачальным слоўнікам.

У з о р: *каса: русая каса; вострая каса.*

Ласка, гасцінец, бабка, жураўель, ручка, горка.

**83.** З наступнымі словамі пабудуйце словазлучэнні. Вызначце галоўнае і залежнае словы і граматычныя сродкі сувязі.

я к а я? к у д ы?

У з о р: *цікав[ая] легенд[а], пайсці ў грыб[ы].*

Моцны, вецер; гераічны, мінулае; пабываць, музей; выступіць, сход; пагутарыць, сябар; надрукаваць, газета.

У большасці словазлучэнняў галоўнымі словамі з'яўляюцца назоўнікі і дзеясловы. Калі галоўнае слова — назоўнік, то гэта назоўнікавае словазлучэнне, калі дзеяслоў — дзеяслоўнае словазлучэнне.

Спалучэнне дзейніка і выказніка не з'яўляецца словазлучэннем.

Пры разборы сказаў спачатку называюць дзейнік і выказнік, пасля — назоўнікавыя словазлучэнні і затым — дзеяслоўныя словазлучэнні.

**84.** Прачытайце. Выпішыце словазлучэнні з выдзеленымі назоўнікамі.

У з о р: *сівое покрыва* (я к о е?), *покрыва туману* (ч а г о?).

Заходзіла сонца. Яно сама што ападала за гарызонт, гарэла на стрэхах будынкаў і трапятала на жоўтых лістах апусцелага саду.

Пасля ўжо апошнімі прамянямі яно слізгала па высокай **макаўцы** сіласнай* вежы і патухала зусім. На гарызонце астаўся толькі чырвоны **край** неба. Ад лесу пачынаў наплываць і згушчацца змрок, і на сяло пацягнула халаднаватаю **вільгаццю** паплавоў* *(Я. Скрыган)*.

**85.** Утварыце і запішыце словазлучэнні. Абазначце галоўныя словы. Якой часцінай мовы яны з'яўляюцца?

У з о р: *вучуся ў школе* (д з е?) (дзеясл.), *у музычнай школе* (я к о й?) (наз.).

Працуе, у, родны, горад; вярнуўся, са, спартыўны, лагер; кнігі, са, школьная, бібліятэка; чытаў, у, чытальная, зала.

**86.** Прачытайце словазлучэнні пад нумарамі 1 і 2. Што ў іх агульнае і чым яны адрозніваюцца?

1. Зялёны востраў, пясчаны бераг, круты адхон, чырвоны аловак, маляўнічы краявід, урачысты сход, дружныя ўсходы.

2. Дэлегат з'езда, моладзь краіны, конкурс малюнкаў, урок спеваў, клін лесу, рух машыны.

**87.** У кожным радзе назавіце словазлучэнне, якое адрозніваецца ад іншых сваім агульным значэннем.

1. Жоўтая кветка, сіні касцюм, белая столь, драўляны ложак, зялёнае пер'е, блакітнае неба, чорны аловак.

2. Малюю пэндзлем, рэжу нажом, чэрпаю вядром, скачу галопам, жну камбайнам.

**88.** Прачытайце тэкст. Выпішыце спачатку назоўнікавыя словазлучэнні, а потым — дзеяслоўныя. Зрабіце (вусна) разбор словазлучэнняў (гл. схему разбору на форзацы).

Над сажалкамі стаяў летні вечар. Даўно пагасла вячэрняя зара. Ад сажалак павяваў свежы ветрык. Ён варушыў лісты на дрэвах. Нішто не парушала вячэрняй цішыні *(А. Чарнышэвіч)*.

⊙ **89.** Перакладзіце на беларускую мову. Пры неабходнасці карыстайцеся перакладным слоўнікам.

Идти по лесу, идти по полям, не пришёл из-за болезни, читали по вечерам, благодарить друзей, старше её, лучше их, болеть корью.



Пры перакладзе трэба захоўваць асаблівасці той мовы, на якую перакладаецца тэкст.

**90.** Замяніце, дзе магчыма, спалучэнні назоўнікаў з прыметнікамі спалучэннямі двух назоўнікаў (з прыназоўнікамі ці без іх).

У з о р: *месячнае святло — святло месяца, грэцкая каша — каша з грэчкі.*

Асеннія апенькі, кляновы ліст, прыгожая сукенка, гарадскі пейзаж, сонечная раніца, купалаўскія вершы, школьны вечар, беларуская гісторыя, гліняны посуд, салаўіная песня, рачны бераг, маладзёжная газета, вячэрні канцэрт, бабуліны казкі, грыбны дождж, грыбны суп, архітэктурны помнік, музычны фестываль.

● Складзіце па два словазлучэнні наступнай будовы:




## § 11. Знаёмства са стылямі маўлення

**91.** Прачытайце тэксты.

I. ЦАР-ДУБ

На палянцы над суседнімі дубамі, ясенямі, бярозамі ўзняўся вялізны і магутны дуб. Роўнае, як струна, дрэва выцягнулася ў вышыню, каб разложыстай зялёнай верхавінай зірнуць на ваколіцу. Тоўстая кара з глыбокімі раўчукамі пакрыла

яго, як сведчанне сталасці. Усё дрэва дыхае магутнасцю і веліччу *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

II. ДУБ

Да дуба было метраў дзесяць.

— А божачкі! Ну і вымахаў!

— Яму гадоў пяцьсот з гакам, — гаворыць ляснік.

Я не вытрымліваю, падыходжу і спрабую як бы абхапіць яго. Ды дзе там. Трэба амаль пяць абхватаў! Закідваю галаву, прымерваю, колькі ў вышыню.

Ляснік зноў падае голас:

**_ушы́ркі_**

— Дзесьці метраў сорак будзе.

Здзіўляюся ўслых:

— Як такі велікан можа ўстаяць, не паваліцца?

— Каранямі звязаны. Углыб яны ідуць метраў на пяць, а ўшыркі — і да дваццаці будзе *(Я. Пархута)*.

III. ДУБ

Дуб звычайны належыць да сямейства букавых. У Беларусі расце на ўсёй тэрыторыі, асабліва ў паўднёвай частцы, дзе ўтварае дубровы.

Дуб — дрэва першай велічыні, вышыня яго 30—40 м, у дыяметры больш за 1 м, мае магутную каранёвую сістэму. Крона яйкападобная або цыліндрычная, на адкрытых месцах — шатрападобная. Размнажаецца насеннем (жалудамі) і парасткамі ад пня.

У Беларусі ёсць дрэвы ва ўзросце 500—550 гадоў, дыяметрам 1,5—1,9 м. Больш за 40 такіх волатаў ахоўваюцца як батанічныя помнікі прыроды *(Энцыклапедыя прыроды Беларусі)*.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ І ВЫКАНАЙЦЕ ЗАДАННІ

1. Да якой сферы моўных зносін належыць кожны з тэкстаў (мастацкай, навуковай, бытавой)?

2. Вызначце мэту кожнага тэксту (паведаміць дакладныя звесткі пра дуб; вобразна і маляўніча апісаць дуб; абмяняцца ўражаннямі пра дуб).

3. Назавіце характэрныя прыметы кожнага тэксту (непасрэднасць размовы; свабодны выбар слоў і выразаў; вобразнасць, эмацыянальнасць; падкрэсленая лагічнасць, дакладнасць, доказнасць).

У кожнай сферы сваёй дзейнасці (навуцы, мастацтве, праве, палітыцы, побыце) людзі паразнаму карыстаюцца мовай. Паступовa за гэтымі сферамі замацаваліся тыя моўныя сродкі, якія найбольш часта ўжываліся. Так паступовa сфарміраваліся асобныя разнавіднасці маўлення, якія прынята называць **стылямі**. Кожны з іх выкарыстоўваецца ў залежнасці ад сітуацыі маўлення, г. зн. дзе мы гаворым, з кім гаворым і з якой мэтай. Сітуацыю маўлення можна праілюстраваць наступнай схемай:



Калі трэба сцісла і дакладна раскрыць сутнасць якой-небудзь з'явы ці прадмета, паведаміць ці перадаць навуковую інфармацыю, выкарыстоўваецца **навуковы** стыль.

Вобразнае апісанне якой-небудзь з'явы, прадмета, карціны робіцца ў **мастацкім** стылі.

Бытавыя адносіны людзей абслугоўвае **гутарковы** стыль.

**92.** Прачытайце тэксты. У якіх сферах дзейнасці людзей яны выкарыстоўваюцца? Якая мэта кожнага тэксту (паведаміць звесткі, уздзейнічаць на людзей, у чымсьці пераканаць іх)? Якая адметная рыса кожнага тэксту (дакладнасць, афіцыйнасць, эмацыянальнасць, заклікальнасць)?

ПАЛАЖЭННЕ
АБ МЕДАЛІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

1. Медаль Францыска Скарыны зацверджаны для ўзнагароджання работнікаў навукі, народнай адукацыі і культуры за выдатныя даследаванні ў гісторыі Беларусі, дасягненні ў галіне нацыянальнай мовы, літаратуры, мастацтва, кнігавыдання, культурна-асветнай дзейнасці, а таксама прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа.
2. Медаль Францыска Скарыны носіцца на левым баку.

ВЫВУЧАЙЦЕ СВОЙ КРАЙ

Багаты, вялікі і прыгожы наш край. Славіцца ён не толькі цудоўнай прыродай, але і помнікамі старажытнасці.

Беларусь — гэта край легенд і казак, край багатай народнай творчасці. Кожная вёска, мястэчка, горад, рака, возера тоіць у сабе цікавыя старонкі мінулага. Помнікі старажытнасці дапамагаюць

нам пазнаць гісторыю народа. Яны выхоўваюць у нас любоў да Радзімы.

Мы павінны ведаць і шанаваць усё, што створана нашымі таленавітымі продкамі.

Калі неабходна абмяняцца думкамі ў неафіцыйных абставінах, паведаміць што-небудзь, запытацца аб чым-небудзь, карыстаюцца **гутарковым** стылем.

Канкрэтныя факты афіцыйнага характару перадаюцца **афіцыйным** стылем.

Калі ж трэба ўздзейнічаць на людзей, у чымсьці пераканаць іх, да нечага заклікаць, то выкарыстоўваецца **публіцыстычны** стыль.

Кожны стыль выпрацаваў свае формы пабудовы тэкстаў, якія называюцца **жанрамі.**

У гутарковым стылі пашыраны гутарка, гумарэска, жарт.

У афіцыйным стылі — аб'ява, заява, даведка, рэкамендацыя, аўтабіяграфія.

Інтэрв'ю, рэпартаж, нататка, нарыс выкарыстоўваюцца ў публіцыстычным стылі.

Багаццем жанраў вызначаецца мастацкі стыль: раман, аповесць, апавяданне, верш, паэма.

Падручнікі, слоўнікі, энцыклапедыі, навуковыя артыкулы, даклады, лекцыі — жанры навуковага стылю.

**93.** Прачытайце. З якой мэтай напісаны тэкст? Да якога стылю і жанру адносіцца? Назавіце словы, характэрныя для гэтага стылю.

НЕ ПАВЕРЫЎ

Жэнька расказвае свайму сябру першакласніку Алесіку:

— Я зрабіў рагатку, выйшаў вечарам у двор і як пальнуў у неба. Хоць і не хацеў, і не думаў, але пацэліў у самую яркую зорку. Яна захісталася, кавалачак яе пляснуўся на зямлю, а зорка стала зусім маленькая.

Алесік выслухаў уважліва і сказаў:

— Ты страляў у зорку ўвечары, калі было зусім цёмна. Таму я ніколі не паверу, што ты ў яе ўцэліў *(«Пралеска»)*.

● Вызначце апорныя словы гэтага тэксту.

● Спішыце другі абзац. Падкрэсліце дзеясловы, вызначце іх час і лік. Растлумачце правапіс ***не*** з дзеясловамі.

**94.** Прачытайце загаловак тэксту. Ці можна сказаць, пра што пойдзе гаворка? Цяпер праверце сябе: прагледзьце тэкст. Якое слова часцей за іншыя сустракаецца ў ім? Чаму? Да якога стылю ён належыць? Складзіце план і вусна перадайце змест.

### ЖАЛЕЙКА

Жалейка (ражок, пішчык, дудка, чаротка) — беларускі народны музычны інструмент сям'і язычковых. У залежнасці ад мясцовай традыцыі жалейкі бываюць розных памераў і формаў. Вырабляюцца яны з чароту, жытняй саломы, дрэва, рога, гусінага пяра. Ёсць з іграбымі адтулінамі і без іх. А вось без язычка жалейкі не бывае.

Тэмбр жалейкі моцны, рэзкі, «галасьбны».

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Іграць першую скрыпку.*** Выраз прыйшоў з прафесійнай мовы музыкантаў, якія першай называюць скрыпку (некалькі скрыпак), што выконвае ў аркестры галоўную ролю. Азначае 'быць галоўным у якой-небудзь справе'.

**95.** Прачытайце верш. Вызначце стыль тэксту. Назавіце яго характэрную прымету. Растлумачце правапіс зычных на канцы выдзеленых слоў.

Што там бялее — ранні **снег**
Ці гусі селі на **начлег?**
Праймае грудзі халадок,
Як быццам босы стаў на ток.
Плячом апёршыся на **зруб***,
Апошні ліст раняе **дуб.**
І сівер* — з ярасці сляпы —
Малоціць **лёд** ва ўсе цапы.
*С. Гаўрусёў.*

**96.** Прачытайце. Да якога жанру належыць тэкст? Якому віду маўленчай дзейнасці ён уласцівы?

— Дзе вы былі летам? — запыталіся неяк у Анатоля Франса.

— У Грэцыі.

— А вам не цяжка было з вашымі ведамі грэчаскай мовы?

— Мне? Не. А вось грэкам, бадай, цяжкавата.

**97.** Спішыце, разбіваючы тэкст на абзацы і сказы. Устаўце прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

ДОТЫК ЗІМЫ

З вечара было ядрана дз..муў вецер захад, дзе садзілася сонца, палаў агнём раніцай ветру не было дахі будынкаў лісц.. на дрэвах трава паб..лелі ад ін..ю-шэрані дрэвы стаялі ціхмяныя, нібы напружаныя з ціхім шоргатам падалі пасівелыя за ноч лісты іду лесам луг за вёскай б..люткі кожная сцяблінка нібы выраблена з та-

нюсенькага алюмініевага дроту сп..шаліся дзеці ў школу ішлі лугам з-за рэчкі, з другой вёскі пастаялі ўражаныя во дзівак дзядз..ка зіма пачалася а ён — у грыбы... *(П. Місько)*.

Вызначце і падкрэсліце апорныя словы і словазлучэнні тэксту.

**98.** Напішыце замалёўку «Апошні дзень восені».

## § 12. Сказ як адзінка маўлення. Сказы па мэце выказвання і інтанацыі. Знакі прыпынку ў канцы сказа (паўтарэнне)

**99.** Разгледзьце малюнкі. Што на іх адлюстравана? Для подпісу якіх малюнкаў патрэбна асобнае слова, а для подпісу якога — сказ?




● Складзіце і запішыце сказ па трэцім малюнку. Назавіце словы, з якіх вы пабудавалі сказ.

Мы заўсёды карыстаемся сказамі, калі трэба выказаць свае думкі, пачуцці, абмяняцца ўражаннямі, задаць пытанне, звярнуцца з просьбай. **Сказ** выступае ў ролі найменшай **адзінкі маўлення.** Кожны сказ вызначаецца тым, што:

- выражае пэўную закончаную думку;
- мае інтанацыю завершанасці.

У размове могуць ужывацца розныя па будове і мэце выказвання сказы.

Усе словы ў сказе звязаны паміж сабою па сэнсе і граматычна.

**100.** Прачытайце верш К. Кірэенкі з інтанацыяй узнёсласці. Складзіце да яго і запішыце пяць сказаў, якія павінны перадаваць:

думку: *У гэтым вершы...*
пачуццё: *Ах, які...*
пытанне: *Хто...*
просьбу: *Зачытай, калі ласка, ...*
параду: *Вывучы...*

ВЯСЁЛКА

Ад ліўня вострага аж колка
Было — не ступіш басанож*...
Ды раптам яркая вясёлка
Так цёпла ўспыхнула паўз Сож...
І пахла вабная ля сцежак квецень,
Дужэлі ногі на бягу.
І пад вясёлку мчалі дзеці,
Як пад вясёлую дугу.
І нехта ім крычаў: — Бяжыце,
Там цёплы лівень толькі сціх!
І васількі званілі ў жыце
Званамі сінімі для іх...

Кожнае выказванне робіцца з пэўнай мэтай: паведаміць што-небудзь, спытаць або пабудзіць да дзеяння. Таму ўсе сказы п а в о д л е м э т ы в ы к а з в а н н я падзяляюцца на апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя.

**Апавядальныя** — гэта такія сказы, у якіх штосьці паведамляецца. Пры вымаўленні апавядальных сказаў голас спачатку павышаецца, а пад канец сказа паніжаецца. У канцы апавядальных сказаў ставіцца кропка. *На зямлю лягла ціхая летняя ноч.*

**Пытальныя** — гэта сказы, у якіх аўтар пра штосьці пытаецца: *Ці ішоў дождж? Што вы чытаеце? Адкуль ты ідзеш?* Пытальныя сказы вымаўляюцца з павышэннем голасу на тым слове, якое паказвае, пра што пытаюцца: *Якое сёння будзе надвор'е? Якое сёння будзе надвор'е?* У канцы пытальных сказаў ставіцца пытальнік.

**Пабуджальныя** — гэта сказы, у якіх выказваецца просьба, пажаданне, загад. Пры вымаўленні пабуджальных сказаў голас павышаецца на словах, якія выражаюць розныя пабуджэнні: *Купіце мне новую кнігу. Не адставайце, сябры! Няхай пачакае мяне.* У канцы пабуджальных сказаў ставіцца кропка або клічнік (пры наяўнасці клічнай інтанацыі).

**101.** Прачытайце. Якімі па мэце выказвання з’яўляюцца гэтыя сказы? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

1. Суніцы спелыя збірай, пакінь на вуснах сок барвовы* *(С. Грахоўскі)*. 2. Сыраежкі, маслякі, вы не бачыце, які я нясу вам кошык, новенькі, харошы? *(Х. Жычка)*. 3. Ты красуй, наш сад, красуй і шумі, зялёны! *(Я. Пушча)*. 4. А мяне заўсёды цешыць восень, радуе грыбоў і садавіны пах *(С. Грахоўскі)*. 5. Нізка над зямлёй насіліся ластаўкі *(В. Хомчанка)*. 6. Дзе схавалася вясёлка? На зямлі ці мо ў вадзе? Дзе я толькі ні шукаю, не знаходжу анідзе *(А. Кавалюк)*.

**102.** Прачытайце. Вызначце, якімі па мэце выказвання з’яўляюцца прыведзеныя сказы. Абгрунтуйце пастаноўку адпаведных знакаў прыпынку ў канцы сказаў. Прачытайце іх з патрэбнай інтанацыяй.

1. Добра падумай над маімі словамі.. 2. Чаго б гэта смачнага з’есці.. 3. Ноччу выпаў першы снег.. 4. Куды вы ідзяце.. 5. У збанку стаялі галінкі бэзу.. 6. Пачакай, калі ласка, мяне тут..

⊙ **103.** Вызначце межы сказаў і прачытайце тэкст уголас. Захоўвайце інтанацыю канца (завяршэння) сказа.

Восень прыйшла якая прыгажосць бурштынам і рубінамі загар..лася лісце прыціх лес

ці любіш ты восень азірніся вакол вось дубок працягнуў сваю галінку ці заўважаў ты, што ўпарты дуб пазней за іншыя дрэвы п..ддаецца восені даўно п..чырванела лісце дрэў, а дуб усё зялёны

ці бачыш запознены жолуд яго браты абсы́паліся, а гэты ўсё яшч.. трымаецца але хутка і ён упадзе.

● Да каго звяртаюцца ў тэксце? Хто можа быць адрасатам маўлення?

● Вызначце стыль і жанр тэксту і дайце яму загаловак, які адлюстроўваў бы тэму.

● Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, пастаўце патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў. З якой літары трэба запісваць першае слова ў сказе?

● Якім па мэце выказвання з'яўляецца кожны са сказаў?

**104.** Перакладзіце словы з рускай мовы на беларускую і запішыце іх. Карыстайцеся перакладным слоўнікам.

Величина, выключатель, компьютер, лужица, вихрь.

● Пастаўце націск у словах.

● З любымі словамі (на выбар) складзіце і запішыце сказы, якія перадавалі б: а) паведамленне; б) просьбу; в) запытанне; г) радасць, захапленне.

**105.** Прачытайце. Чаму верш называецца «Залатая восень»?

ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ

Залатая восень ходзіць па гаях*,
Золатам прыбрала кроны на дубах.
Пажаўцела лісце трапяткіх* асін,
Чырванню палаюць гронкі арабін.
Полымем барвовым разгарэўся клён,
За раку на сосны паглядае ён.
Вельмі ён зайздросціць, бо зялёны ўбор
Нават і зімою не мяняе бор.

*А. Дзяржынскі.*

● Прачытайце сказы, у якіх абазначаюцца колеры. Якія колеры называе ў вершы паэт?

● Назавіце словы, якія надаюць нежывым прадметам рысы жывых істот або рысы, уласцівыя іншым прадметам ці з'явам.

● Вывучыце першыя чатыры радкі і запішыце іх па памяці.

**106.** Прачытайце. Якімі па мэце выказвання з'яўляюцца наступныя сказы?

| | |
|---|---|
| 1. Снег ідзе. | 1. О, снег пайшоў! |
| 2. Раніца была сонечная. | 2. Якая ж цудоўная сонечная! |
| 3. Гучала чароўная музыка! | 3. Што за чароўная музыка! |

● Якія сказы перадаюць звесткі без эмацыянальнага пачуцця, а якія — з пачуццём?

● Якое дадатковае пачуццё — нечаканасць, замілаванасць, захапленне — перадаецца першым сказам у правай калонцы? Другім сказам? Трэцім?

Паведамленне, запытанне ці пабуджэнне да дзеяння можа адначасова перадавацца з моцным пачуццём (захапленнем, заклікам, замілаванасцю, здзіўленнем, радасцю і інш.). У такім выпадку апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы п а і н т а н а ц ы і становяцца **клічнымі**. У канцы клічных апавядальных і пабуджальных сказаў ставіцца клічнік, у канцы клічных пытальных — пытальнік і клічнік: *Колькі ўрачыстага хараства тоіць ціхая летняя ноч!* (Т. Хадкевіч). *Не шуміце вы, ліс-*

*точкі, не шумі, дуброва!* (**У. Дубоўка**). *І дзе на свеце ёсць такая, як Нёман, рэчачка другая?!* (**Я. Колас**).

**Клічныя сказы вымаўляюцца з павышэннем тону, узнёсла, урачыста.**

**Няклічныя сказы вымаўляюцца спакойным тонам.**

**107.** Прачытайце. Вызначце межы сказаў. Ці можна гэты ўрывак назваць тэкстам? Спішыце. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў.

Чаму Андрэй кожную раніцу ўставаў на досвітку ды таму, што захапіўся баравікамі нідзе не было іх так многа, як у гэтых баравінах* ды што за баравікі а якое чыстае і звонкае паветра ў летнюю раніцу а якая радасць для грыбніка натрапіць на сям'ю чорнагаловікаў дык ці можна праспаць такія досвіткі *(Паводле Я. Коласа)*.

● Дайце тэксту загаловак, які адлюстроўваў бы тэму або галоўную думку.

● Вызначце клічныя сказы. Прачытайце іх з адпаведнай інтанацыяй. Якое пачуццё перадае кожны клічны сказ?

**108.** Выпішыце спачатку апавядальныя клічныя сказы, а потым — пабуджальныя клічныя.

1. Зараз жа сядзь! 2. Зачыні дзверы! 3. Які моцны дождж! 4. Што за паветра! 5. Вяртайся адразу! 6. Вітайся заўсёды першы! 7. Якая ж прыгожая летняя раніца! 8. Ён прыедзе заўтра! 9. Як жа многа намяло снегу!

**109.** Прачытайце тэкст.

## ЯКІ ДЗЕНЬ?

Конік ускочыў на травінку і закрычаў:

— До-обры дзянёк!

— Дрэнны, — адгукнуўся Дажджавы чарвяк.

— Як?! На небе ні хмурынкі, сонейка грэе!

— Не! Дожджык ды каламутныя цёплыя лужыны — гэта добры дзянёк.

У гэты час Мурашка цягнула хваёвую шыпульку і спынілася адпачыць.

— Скажыце, які сёння дзень — добры ці дрэнны? — звярнуліся да яе Конік і Чарвяк.

— Я адкажу вам пасля заходу сонца.

Вечарам Мурашка паказала глыбокія хады, пракапаныя ў мурашніку, назбіраныя шыпулькі.

— Сёння цудоўны дзень! Я добра папрацавала і магу спакойна адпачыць *(Паводле В. Асеевай)*.

● Каму належыць апошняя рэпліка? Якая асноўная думка апавядання?

● Вызначце стыль і жанр тэксту. Прыдумайце свой загаловак.

● Назавіце клічныя сказы. Якое дадатковае пачуццё яны перадаюць? Прачытайце іх з адпаведнай інтанацыяй.

● Прачытайце тэкст па ролях.

⊙ **110.** Напішыце невялікае апавяданне на тэму «Як я праводжу канікулы». Выкарыстоўвайце розныя па мэце выказвання і інтанацыі тыпы сказаў, якія перадавалі б:

а) перажыванне;

б) запытанне;

в) просьбу;

г) захапленне, радасць.

## § 13. Будова сказа. Галоўныя члены сказа: дзейнік і выказнік (паўтарэнне)

**111.** Прачытайце. Вызначце ў сказах галоўныя члены. Адкажыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны. Чаму запісаныя сказы называюцца простымі?

Удзень над вёскай прашумела навальніца. Але хмара хутка сплыла. Выглянула сонца, радасна пырснула промнямі. Над ракой і сінім лесам размаляванай дугой устала вясёлка *(Паводле І. Шамякіна)*.

**Простым** называецца сказ, у якім ёсць адна граматычная аснова: *Раніцай пайшоў дождж.*

Галоўныя члены — гэта д з е й н і к і в ы к а з н і к. Яны ўтвараюць **граматычную аснову** сказа, звязаны паміж сабой па сэнсе і граматычна.

**Дзейнік** — гэта галоўны член сказа, які абазначае, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе, і адказвае на пытанні х т о? ш т о?

**(Х т о?)** *Садоўнік паказаў новую аранжарэю.*

**(Ш т о?)** *Мелодыя ціха гучала.*

Дзейнік звычайна выражаецца назоўнікам ці займеннікам у форме назоўнага склону.

**Выказнік** — галоўны член сказа, які абазначае, што́ гаворыцца пра дзейнік. Ён звязаны з дзейнікам і адказвае на пытанні: ш т о р о б і ц ь п р а д м е т? ш т о з р а б і ў п р а д м е т? я к і ё н? х т о ё н т а к і? ш т о ё н т а к о е?

*Лётчык упэўнена* (ш т о з р а б і ў?) *пасадзіў самалёт.*

*Дзень* (я к і?) *сонечны. Наш сусед* (х т о б ы ў т а к і?) *быў добры пчаляр.*

*Мір* (ш т о ё н т а к о е?) — *гэта і праца, і шчасце, і радасць.*

Выказнік звычайна выражаецца дзеясловам, часта — назоўнікам і прыметнікам або іншымі часцінамі мовы.

Калі дзейнік і выказнік выражаюцца назоўнікамі ў форме назоўнага склону, то паміж імі ставіцца працяжнік: *Мой сябар — выдатнік. Мінск — прыгожы горад.*

**112.** Прачытайце тэкст. Якім членам сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы?

СЕНЬЁР* МУХАМОР

На ўскрайку лесу вырас вялікі **мухамор.**

Бачылі яго грыбнікі і праходзілі міма. Ну каму патрэбны гэты ядавіты **грыб!**

Але які ж **ён** святочны, яркі! Шапка чырвоная, белымі кропкамі ўсыпана. Баравікі, абабкі, сыраежкі, рыжыкі прытойваюцца ад грыбнікоў у траве, імху, пад лісцем хаваюцца. А **гэты** ўсім у вочы кідаецца. Нібы крычыць і папярэджвае: не чапай мяне, **я** мухамор! *(Паводле В. Хомчанкі).*

● Дакажыце, што дзейнік дапамагае раскрыць тэму тэксту.

● Знайдзіце ў тэксце клічныя сказы. Якія дадатковыя адценні яны надаюць выказванню?

● Растлумачце значэнне выразу *ў вочы кідаецца.*

● Як вы лічыце, чаму аўтар называе мухамор сеньёрам?

**113.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце галоўныя члены сказаў і запішыце да іх пытанні. Якімі часцінамі мовы выражаны дзейнікі і выказнікі?

1. Падуж..ў, падрос маладзенькі ясень *(У. Дубоўка)*. 2. Жнівеньскія раніцы былі росныя і свеж..я *(М. Стральцоў)*. 3. Дож.. ідзе праменісты і дробны. Пахнуць мятай мокры.. лугі *(П. Панчанка)*. 4. Данька — найлепш.. мой сябар. 5. Адукацыя — скарб, праца — ключ да яе *(П. Буаст)*. 6. Рака шырокая, чыстая *(Я. Брыль)*.

**114.** Прачытайце сказы. Назавіце галоўныя члены сказа. Вызначце, якімі часцінамі мовы яны выражаны. Растлумачце пастаноўку працяжніка.

1. Чайка — гэта паэзія мораў, рэчак, азёр *(М. Лупсякоў)*. 2. Лес — жывая вопратка зямлі, яе музыка *(І. Навуменка)*. 3. Добры госць — пашана хаце *(Прыказка)*. 4. Лебедзі — гэта сапраўдны цуд!

**115.** Прыдумайце і запішыце сказы, у якіх першае слова павінна быць дзейнікам, а другое — выказнікам. Падкрэсліце галоўныя члены ў сказах.

Артыст, выконваць; лісток, трымцець; неба, чыстае; Полацк, горад.

**116.** Разгледзьце малюнкі. Як вы думаеце, кім працуе жырафа? Напішыце невялікае апавяданне на тэму «Незвычайны паштальён». Ужывайце сказы, розныя па мэце выказвання. Пры неабходнасці выкарыстоўвайце апорныя словы і словазлучэнні з даведкі.

 

С л о в ы   д л я   д а в е д к і: *у адным горадзе, жылі на вуліцы Сяброў, незвычайны паштальён, хуткая дастаўка, новы самакат, паштовая сумка, газеты, паштоўкі, часопісы, шчыра дзякаваць, дзякаваць жырафе.*

● Падкрэсліце ў сказах галоўныя члены, назавіце часціны мовы, якімі яны выражаны.

## § 14. Даданыя члены сказа

**117.** Прачытайце.

1. На сцяжынцы пачуліся лёгкія крокі.
2. Пачуліся крокі.
3. Крокі.
4. На сцяжынцы...
5. ...лёгкія...

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія з гэтых прыкладаў з'яўляюцца сказамі, а якія — не? Чым яны адрозніваюцца?

2. Знайдзіце граматычную аснову ў сказах. Якія словы з'яўляюцца галоўнымі членамі сказа?

3. Як называюцца іншыя члены сказа?

У сказах, апрача дзейніка і выказніка, могуць быць даданыя члены сказа. **Даданыя члены сказа** — гэта д а п а ў н е н н е, а з н а ч э н н е, а к а л і ч н а с ц ь.

**Дапаўненне** — даданы член сказа, які адказвае на пытанні ўскосных склонаў:

Р. (к а г о? ч а г о?),

Д. (к а м у? ч а м у?),

В. (к а г о? ш т о?),

Т. (к і м? ч ы м?),

М. (а б к і м? а б ч ы м?):

*Капітан лёгка кіраваў* (ч ы м?) *караблём. Мы ўспаміналі* (к а г о?) *сяброў, уяўлялі іх* (ш т о?) *заклапочанасць* (І. Шамякін).

**Азначэнне** — даданы член сказа, які абазначае прымету прадмета і адказвае на пытанні я к і? (я к а я? я к о е? я к і я?), ч ы й? (ч ы я? ч ы ё? ч ы е?):

*У* (у я к і м?) *сінім небе няспешна плылі* (я к і я?) *белыя буслы* (В. Карамазаў). *Да* (ч ы й г о?) *майго слыху данёсся* (я к і?) *тонкі* (ч ы й?) *пчаліны гул* (І. Сіляўка).

**Акалічнасць** — даданы член сказа, які абазначае месца, час, спосаб дзеяння і адказвае на пытанні д з е? к у д ы? а д к у л ь? я к? к а л і?

(Д з е?) *Над палямі засінела чыстае неба* (І. Мележ). (К а л і?) *Раніцай* (а д к у л ь?) *з поўдня падзьмуў цёплы вецер* (А. Асіпенка).

**118.** Разгледзьце табліцу.

| **Дапаўненне** | **Азначэнне** | **Акалічнасць** |
|---|---|---|
| Абазначае прадмет | Абазначае прымету прадмета | Абазначае месца, час, якасць, прычыну, спосаб дзеяння |
| Адказвае на пытанні ўскосных склонаў: каго? чаго? каму? чаму? пра каго? пра што? кім? чым? аб кім? аб чым? | Адказвае на пытанні: які? якая? якое? якія? чый? чыя? чыё? чые? | Адказвае на пытанні: дзе? адкуль? куды? калі? чаму? як? колькі? |
| Звычайна выражаецца **назоўнікамі** і **займеннікамі** ва ўскосных склонах | Звычайна выражаецца **прыметнікамі** і **займеннікамі** (*мой*, *свой*, *наш* і інш.) | Звычайна выражаецца **нязменнымі словамі (прыслоўямі)** або **назоўнікамі з прыназоўнікамі** ва ўскосных склонах |
| — — — — — — — — — | ~~~~~~~~~~~~ | — · — · — · — · — · — |
| *Я люблю* ***зіму***. | *Падаў* ***пушысты*** *снег.* | ***Пад акном*** *шумела ліпа.* |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Што абазначае дапаўненне? Азначэнне? Акалічнасць?

2. На якія пытанні адказваюць дапаўненні? Азначэнні? Акалічнасці?

3. Якімі часцінамі мовы выражаюцца дапаўненні? Азначэнні? Акалічнасці?

4. Як графічна выдзяляюцца ў сказах дапаўненні? Азначэнні? Акалічнасці?

**119.** Спішыце. Дайце загаловак тэксту. У дужках перад дадзенымі членамі сказа запішыце пытанні, на якія яны адказваюць. Падкрэсліце дадзеныя члены сказа. Вусна адкажыце, якімі часцінамі мовы выражаюцца дадзеныя члены сказа. Карыстайцеся табліцай (практыкаванне 118).

Над горадам плаўна ляцелі жураўлі. А высока-высока, над птушкамі, стаяў маладзічок і шчодра разліваў залатое святло. Жураўлі самотна* пратрубілі. Зверху неслася іх развітальная песня. О, ляціце, мілыя, хай будзе шчаслівай ваша дарога. Вясною мы зноў з вамі сустрэнемся *(Паводле М. Стральцова)*.

● Вусна апішыце маўленчую сітуацыю: дзе адбываецца дзеянне? У які час сутак? Па чым можна вызначыць пару́ года? Каму належаць словы пажадання?

**120.** У рэдакцыю школьнай газеты паступіла замалёўка пра надыход зімы. Пісьмо, верагодна, трапіла пад дождж, і некаторыя словы размыліся. Рэдакцыя просіць аднавіць страчаныя словы. Дапоўніце сказы дадзенымі членамі і запішыце тэкст.

... ... прыйдзе зіма. Восень ... папрацавала і падрыхтавала ... і ... да ... маразоў. На дрэвах

амаль не засталося ... . ... парыжэла трава. Не чуваць птушыных ... .

Зіма ў свае ... будзе ўступаць ... . Спачатку пахаладае. Потым закружацца ... сняжынкі. І вось ужо ўся зямля пакрыецца ... . Сонца з радасцю пашле на зямлю ... .

Першы снег выкліча нашу ... . Лёгкія маразы створаць ... . Мы чакаем ..., зіма!

Словы для даведкі: *зноў, хутка, добра, прыроду, людзей, першых лісточкаў, прыкметна, спе́ваў, павольна, правы́, у паветры, пушыстыя, белай коўдрай, бліскучыя промні, бурную радасць, цябе, урачысты настрой.*

● Дайце загалавак тэксту. Вызначце яго стыль і жанр.

**121.** Прачытайце. Дайце тэксту загаловак, які выражаў бы тэму. Спішыце. Падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказа. Карыстайцеся табліцай (практыкаванне 118).

Небасхіл ледзь прыкметна пасвятлеў. З-за воблака пасыпаліся чырвоныя промні. Паказалася сонца.

Праз хвіліну агністы шар узнімаецца вышэй і шчодра раздае святло. Зазіхацела ранішняя раса. Азваліся птушкі. Усё навокал прачынаецца *(Паводле М. Ваданосава)*.

## § 15. Дапаўненне

**122.** Прачытайце. Выпішыце словазлучэнні, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца залежнымі. Пастаўце да іх пытанні.

Добра ў лесе летам! Прыемна пахне **ягадамі, грыбамі,** ляснымі **травамі.**

Лес заўсёды чакае **цябе** ў госці. Будзь толькі лагодны **з ім**, і ён пакажа **табе** ўсе свае **таямніцы**, шчодра падзеліцца сваім **багаццем** *(Паводле В. Хомчанкі)*.

● Якім членам сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы?

З дапамогай дапаўненняў канкрэтызуюцца (дапаўняюцца) звесткі аб прадметах, падзеях, дзеючых асобах.

Дапаўненні звычайна выражаюцца назоўнікамі або займеннікамі.

**123.** Прачытайце. Знайдзіце дапаўненні. Пастаўце да іх пытанні ад выдзеленых слоў. Якой часцінай мовы выражаны дапаўненні?

Алёша адразу **ўбачыў** помнік, як толькі **прайшоў** балотца. Невялікая піраміда была пастаўлена на плоскі валун*. Тут нашымі дэсантнікамі **ўтрымлівалася** вышыня трое сутак. Усе загінулі. Шкада: **не засталося** ў памяці прозвішчаў. Мы вечна **ўдзячныя** мужным воінам *(Паводле В. Быкава)*.

**124.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце дапаўненні. У дужках запішыце пытанні да іх. Якімі часцінамі мовы выражаны дапаўненні?

Восень — найлепшы мастак. Кожнай б..розцы яна запляла ў косы з..л..тую стужку. Палахлівым асінкам размалявала лісточкі ч..рвонаю фарбаю. Ялінам восень абтр..сла старую ігліцу, а маладую нібы пр..пудрыла. А ці магла восень

абмінуць рабіну, каліну? Сустрэнеш іх і спынішся: цуд дый годзе! *(Паводле Я. Пархуты)*.

● Растлумачце пастаноўку працяжніка ў першым сказе, напісанне ўстаўленых літар.

**125.** Прачытайце пачатак казкі. Прыдумайце працяг. Дайце казцы загаловак.

Вецер лятаў над зямлёю. Часам ён меў такую сілу, што вырываў дрэвы з карэннем, разбураў дамы.

— О магутны Вецер, паслужы мне, — папрасіў аднойчы Чалавек.

● Дапішыце казку, выкарыстоўваючы пры неабходнасці наступныя апорныя словазлучэнні: *жыў каля возера, прыгожая лодка, лодка пад ветразем, дзьмуў з сілай, са страшэннай сілай, хутка плыла, прычаліла да берага, падзякаваў Ветру.*

● Падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказа.

● Выпішыце па два словазлучэнні з галоўным словам *назоўнікам* і галоўным словам *дзеясловам* і зрабіце іх пісьмовы разбор.

**126.** Дапішыце сказы. Падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказа.

1. (У к а г о?) ... назаўсёды застануцца клопаты (п р а ш т о? п р а к а г о?) ... 2. Дзяцел абстукаў (ш т о?) ..., агледзеў яго і скокнуў (к у д ы?) ... . 3. Падарожнік папрасіў з сабою (ч а г о?) ..., падзякаваў (к а м у?) ... і ... . 4. (Х т о?) ... убачыў ледзь прыкметную (ш т о?) ... (д з е?) ... .

## § 16. Азначэнне

**127.** Параўнайце тэксты пад нумарамі I і II. Адкажыце, якому тэксту ўласціва эмацыянальнасць. З дапамогай якіх слоў гэта дасягаецца?

I. У грыбніка ёсць сцежка. Дарога прывяла мяне ў беразнячок. Баравік трапіўся мне адразу і выклікаў радасць.

II. У **кожнага** грыбніка ёсць **свая** сцежка. Але на **гэты** раз дарога прывяла мяне ў **малады** беразнячок. **Здаровы** баравік трапіўся мне адразу і выклікаў **маю бурную** радасць.

Азначэнні ўдакладняюць характарыстыку дзеючых асоб, прыналежнасць і ўласцівасці прадметаў.

У мове мастацкай літаратуры і ў вусным маўленні азначэнні звычайна ўжываюцца для стварэння эмацыянальнасці і вобразнасці.

Азначэнні часцей выражаюцца прыметнікамі і займеннікамі.

**128.** Прачытайце. Спішыце першы абзац, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце азначэнні, у дужках запішыце да іх пытанні.

Магутны[с] зубр смела выйшаў на п..ляну і, быццам нехаця, уткнуўся лабаст..й галавой у в..кавую сасну. **Сонца высвечвае яго цёмную калматую грыву,** што звісае над дужымі нагамі. Гаспадар пушчы! У спагадлів..м позірку яго адчуваецца спакойная ўпэўн..насць, урачыстая веліч і стыхійная сіла.

Гісторыя Белавежскай пушчы вучыць нас беражліва адносіцца да нашай прыроды *(Паводле Я. Баравога)*.

● Карыстаючыся ўмоўнымі графічнымі абазначэннямі членаў сказа, пабудуйце схему выдзеленай часткі сказа.

**129.** Спішыце. Замест пытанняў падбярыце словы, якія падыходзяць па сэнсе. Падкрэсліце азначэнні і члены сказа, да якіх яны адносяцца.

Абапал дарогі стаяць (я к і я?) сосны. Трошкі далей рассеўся (я к і?) хвойнік. Дол усюды густа ўслала (я к а я?) ігліца.

Я іду і не веру вачам (ч ы і м?). Як многа павылазіла (я к і х?) маслякоў. Яны сядзяць (я к і-м і?) сем'ямі. Каля хвоек заўважаю (я к у ю?) чародку[с]. (Я к і?) год на грыбы. Хоць касою касі *(Паводле Б. Сачанкі)*.

Словы для даведкі: *стройныя, купчасты, рыжая, свае, маладзенькія, цэлыя, баравіковая, багаты.*

● Растлумачце выраз *хоць касою касі.*

● Якую ролю ў тэксце выконваюць азначэнні?

⊙ **130.** Прадоўжыце апісанне паляны, каб атрымаўся тэкст. Падкрэсліце выкарыстаныя азначэнні.

Група турыстаў спынілася на маляўнічай палянцы. Была яна невялікая. Вакол яе...

**131.** Падбярыце прыметнікі да назоўнікаў і запішыце словазлучэнні. З трыма словазлучэннямі складзіце сказы. Падкрэсліце азначэнні і запішыце да іх пытанні.

Воблакі, сняданак, жаданне, сябар, госць.

## § 17. Акалічнасць

**132.** Параўнайце тэксты пад нумарамі I і II. Ці можна ўвогуле назваць тэкстам сказы, запісаныя пад нумарам I? Чаму? Якія ўдакладненні ўносяць выдзеленыя словы ў тэкст пад нумарам II? Якім членам сказа яны з'яўляюцца?

I. Крынічку я ведаў. Вада крыштальная, смачная. Пырхаюць птушкі. Крынічка сцякае.

II. Крынічку я ведаў **даўно**. Вада **ў ёй** крыштальная, смачная. **Над ёю заўсёды** пырхаюць птушкі. Крынічка **жвава** сцякае **ўніз, да рэчкі**.

● Выканайце сінтаксічны разбор сказаў пад нумарам II.

Акалічнасці заўсёды ўдакладняюць месца, час, якасць, спосаб, прычыну дзеяння.

Акалічнасці звычайна выражаюцца нязменнымі словамі (прыслоўямі) і назоўнікамі з прыназоўнікамі ва ўскосных склонах.

**133.** Прачытайце. Спішыце першыя два абзацы, падкрэсліце галоўныя члены сказа і акалічнасці. Запішыце пытанні да акалічнасцей.

Ранняй вясной мы гуртам вярталіся дамоў са школы. На рацэ быў крыгаход.

Раптам на сярэдзіне ракі мы разгледзелі двух медзведзянят. Вада шумна бурліла, кідала крыгі адна на адну. На процілеглым беразе ўслед бегла мядзведзіца.

Заўважылі гэта і людзі, пачуліся жарты. Смельчакі хутка **апусцілі лодку**[сн] на ваду. Ці зразумеюць медзведзяняты, што іх хочуць выратаваць?

Праз некаторы час **малыя падарожнікі**[сн] выбраліся з лодкі і кінуліся да маці. Неўзабаве іх і след прастыў *(Паводле В. Сід)*.

● Якая тэма і асноўная думка тэксту? Прыдумайце загаловак.

● Вызначце стыль і жанр тэксту.

⊙ **134.** Пабудуйце сказ. Для гэтага ў 1-м сказе вазьміце акалічнасць, у 3-м — злучнік, у 2-м — дзейнік, у 3-м — азначэнне.

1. Увосень цвітуць верасы. 2. Раніцай да кармушкі прыляцеў верабей. 3. Сёлета мы сабралі багаты ўраджай яблыкаў і сліў.

● Чым з'яўляецца пабудаваны сказ і як вы разумееце яго значэнне?

● Складзіце і запішыце некалькі сказаў на тэму прыказкі. Падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказаў.

**135.** Разгледзьце малюнкі. Напішыце тэкст на тэму «Хто як спявае». Пры неабходнасці выкарыстайце словы і словазлучэнні з даведкі. Абазначце акалічнасці.



С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *жыць каля рэчкі, на ўскрайку лесу, спяваў вечарам, спяваў да позняй ночы, ад-*

*нойчы сустрэліся, папрасіла салаўя, спяваць з натхненнем, прыгожа, звонка, пераліўіста, свая песня, слухаць уважліва, слухаць з павагай.*

**136.** Спішыце. Падкрэсліце акалічнасці, запішыце да іх пытанні. Устаўце прапушчаныя літары.

Добра вечарам пастаяць на развілцы п..лявых дарог! Сонца з захаду п..сылае апошнія промні на ўсход. Палі спакойна разл..гліся пасля чарговага працоўнага дня. Вось з поўдня прыл..цеў ветрык, далікатна пашкуматаў за чубы жыта і тут жа накіраваўся ў нев..домую даль.

● Адзначце словы, якія надаюць нежывым прадметам рысы жывых істот. Якой часцінай мовы з'яўляюцца гэтыя словы?

## § 18. Неразвітыя і развітыя сказы

**137.** Прачытайце сказы. Вызначце дзейнік і выказнік. Якімі часцінамі мовы яны выражаны? Чым адрозніваюцца сказы пад нумарамі 1 і 2?

1. Падзьмуў вецер.
2. Падзьмуў цёплы вецер.

1. Паказаліся воблакі.
2. На ясным небе паказаліся рэдкія воблакі.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пра якія сказы можна сказаць, што яны: а) перадаюць менш інфармацыі; б) перадаюць больш інфармацыі?
2. Якія сказы, на вашу думку, з'яўляюцца неразвітымі, а якія — развітымі? Чаму?

Сказы, якія складаюцца толькі з галоўных членаў, называюцца **неразві́тымі**: *Чалавек ідзе. Свеціць месяц.* У неразвітых сказах можа быць толькі выказнік або толькі дзейнік: *Халадае. Змяркаецца. Ноч. Зоркі. Прыгажосць.*

Сказы, у якіх, акрамя галоўных членаў сказа, ёсць адзін або некалькі даданых членаў, называюцца **развітымі**: *Тут вандроўнікаў чакаў сюрпрыз.*

**138.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Вызначце, якія сказы з'яўляюцца развітымі, а якія — неразвітымі.

Шуміць лес. Шамаціць пад нагамі лісце. Дзіўным веерам насыпала залатовак* прыгажуня-бяроза. Гарацць лісцікі!

Дубы насцілаюць пад сабой карычневую пасцель. У гэту пасцель мякка паляглі жалуды. Яны адпачываюць.

Блiснуў кляновы лісток. Адкуль ён зляцеў? Ах, вунь ён, сціплы клянок, дзе прытуліўся! А колькі красы рассыпаў навокал! Дзівоснай рукой саткаў ён найпрыгажэйшы дыван *(Паводле І. Шамякіна)*.

⊙ **139.** Дапоўніце неразвітыя сказы дададзенымі членамі, адказваючы на пытанні ў дужках, і запішыце дапоўненыя сказы. Што змянілася ў гэтых сказах у параўнанні з неразвітымі?

(Д з е?) узышоў (я к і?) месяц. (Я к?) свецяць зоркі. Месяц асвяці́ў (ш т о?). Усё (д з е?) спіць. Ён будзе свяціць (д а я к о г а ч а с у?). Сонца яшчэ спіць. Яно (к а л і?) прачнецца.

**140.** Дапоўніце неразвітыя сказы дадзенымі членамі, каб сказы сталі развітыя. Падкрэсліце галоўныя і дададзеныя члены сказа.

1. Прыйшлі халады. 2. Дзьме вецер. 3. Птушкі адляцелі. 4. Апала лісце. 5. Мароз не затрымаецца. 6. Наступіць зіма. 7. Ляжа снег.

**141.** Складзіце і запішыце неразвітыя сказы са словамі *восень, зорка, дождж, воблака.* Потым дапоўніце неразвітыя сказы дададзенымі членамі, каб сказы сталі развітыя. Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

**142.** Напішыце невялікае апавяданне на тэму «За што я люблю восень». Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

## § 19. Сказы з аднароднымі членамі (без злучнікаў і са злучнікамі), знакі прыпынку

**143.** Параўнайце сказы пад нумарам 1 і 2. У якім выпадку ўдалося пазбегнуць паўтору слоў і пры гэтым выказаць тую самую думку?

1. Сонца было над лесам. Сонца было на лісці. Сонца было на палянах.

2. Сонца было **над лесам, на лісці, на палянах.**

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. На якое пытанне адказваюць выдзеленыя словы? Якімі членамі сказа яны з'яўляюцца? Да якога слова ў сказе адносяцца?

2. Дакажыце, што выдзеленыя словы з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа.

**Аднароднымі** называюцца члены сказа, якія адносяцца да аднаго і таго слова, адказваюць на адно і тое пытанне і з'яўляюцца аднолькавымі членамі сказа.

Аднароднымі могуць быць як галоўныя, так і даданыя члены сказа.

*Уздоўж сцежкі раслі рамонкі, званочкі, валошкі.* (—), (—), (—).

*Летам дзеці чытаюць, купаюцца, загараюць.* (═), (═), (═).

*Хор спяваў бадзёрую, радасную песню.* (~), (~).

Аднародныя члены сказа вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння. У пачатку пералічэння яны вымаўляюцца з павышэннем тону, а ў канцы (на апошнім аднародным члене сказа) — з паніжэннем тону. У вусным маўленні аднародныя члены сказа раздзяляюцца паўзай:

*Новае заданне патрабавала і ўважлівасці, | і старання, | і натхнення.*

Аднародныя члены аб'ядноўваюцца ў сказах з дапамогай злучнікаў ***(і, ды, а, але)*** або без іх, з дапамогай інтанацыі.

**144.** Вызначце аднародныя члены сказа. Пастаўце да іх пытанні. Прачытайце аднародныя члены сказа з патрэбнай інтанацыяй.

1. Навучыўся Дзяніска маляваць і сонца, і дамы, і машыны *(Т. Мушынская)*. 2. Без бульбы нельга ўявіць сучасны стол. Бульбу вараць, пя-

куць, смажаць, параць, фаршыруюць *(З. Марозаў)*. 3. Белай коўдрай улёгся снег на палеткі, лугі, рэкі і азёры *(М. Машара)*. 4. Маланкі паласавалі неба і ўдоўж, і ўпоперак. Цяпер яны нагадвалі і белыя шаблі, і блакітныя стрэлы, і зігзагі, і дугі *(Т. Хадкевіч)*. 5. Вада ў рэчцы заўсёды свежая, чыстая, празрыстая.

● Якімі часцінамі мовы выражаны аднародныя члены сказа ў кожным сказе?

Паміж аднароднымі членамі звычайна ставіцца коска:

*З пладоў каліны гатуюць мармелад, джэм, варэнне.* ○, ○, ○.

Калі два аднародныя члены сказа звязвае злучнік ***і***, коска не ставіцца:

*Спакойнае **і** ціхае возера зачаравала падарожнікаў.* ○ ***і*** ○.

Калі злучнік ***і*** стаіць перад кожным з аднародных членаў, коска паміж імі ставіцца:

***І*** *хлеб,* ***і*** *песня,* ***і*** *шчасце прыходзяць да чалавека пасля шчырай працы.* ***І*** ○, ***і*** ○, ***і*** ○.

**145.** Спішыце. Падкрэсліце аднародныя члены і ў дужках запішыце пытанні да іх. Растлумачце правапіс прапушчаных літар.

Другая палавіна жніўня. Харошая пара́. А..калыхаліся на калдобінах духмяныя вазы мурагу, жыта, ячменю, лёну. Безліч казытлівага, шорсткага сена пакладзена ў зацішак гумна. На полі застаўся толькі авёс. Прыемна пахнуць гр..чка,

канюшына, атава, бульба. Настае пара́ бульбян..й, кропн..й, агурочнай, яблычн..й сытасці. Наступае кароткая паўза перад мудрай паэзі..й свежай раллі *(Паводле Я. Брыля)*.

● Якімі членамі сказа з'яўляюцца аднародныя члены? Да якіх слоў яны адносяцца? Звярніце ўвагу на пастаноўку знакаў прыпынку паміж імі. Складзіце схемы сказаў з аднароднымі членамі.

● З якой мэтай аўтар выкарыстоўвае сказы з аднароднымі членамі: толькі для звычайнага пералічэння прадметаў ці яшчэ і для станоўчай ацэнкі вынікаў чалавечай працы?

● Як вы растлумачыце вобразнае выказванне Янкі Брыля *мудрая паэзія свежай раллі*?

⊙ **146.** Прачытайце. Дакажыце, што выдзеленыя словы з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа.

1. Песня гучала **ціха,** але **выразна.** 2. Ішоў не **дождж,** а **снег.** 3. У ветраны дзень здаецца, што сонца толькі **свеціць,** але **не грэе.**

● Якімі злучнікамі звязаны аднародныя члены? Які знак прыпынку ставіцца перад такімі злучнікамі?

Коска ставіцца перад злучнікамі ***а, але, ды*** (у значэнні 'але'), калі яны звязваюць аднародныя члены сказа:

*Дзіцячыя галасы даносіліся цяпер не з рэчкі, **а** з бульбянога поля.* (–·–), **а** (–·–).

*Сказаў ціха, **ды** цвёрда.* (–·–), **ды** (–·–).

*Сонца толькі што ўзышло, **але** прыгравала даволі горача.* (=), **але** (=).

**147.** Дапішыце некалькі сказаў, выкарыстоўваючы аднародныя члены, каб атрымаўся тэкст.

ДЗЕ Я РАБЛЮ ЎРОКІ

Дома ў мяне свой пакой. Ён заўсёды чысты, ..., ... . У маім пакоі...

**148.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Перад апошнім аднародным членам замест коскі ўстаўляйце ***і***. Складзіце схемы сказаў з аднароднымі членамі сказа.

Шчодры дзедаў сад! Амаль кожны год галіны (ш т о р а б і л і?) *(угінацца, прыпадаць да зямлі, трашчаць, нават ламацца)*.

І ў гэтым годзе на яблынях можна чакаць (ч а г о?) *(антонаўкі, ранеты, цітаўкі)*. Восенню сад наогул дасць багата (ч а г о?) *(яблыкі, ігрушы, слівы)*.

Вакол саду растуць вербы. Зімой яны будуць аберагаць яго (а д ч а г о?) *(вятры, завірухі, маразы́)*.

## § 20. Сказы з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах, знакі прыпынку

**149.** Прачытайце. У якім слупку запісаны аднародныя члены, а ў якім — абагульняльныя словы да іх?

| | |
|---|---|
| 1. Віяланчэль, фартэпіяна, скрыпка. | 1. Музычныя інструменты. |
| 2. Канапа, ложак, шафа, табурэт. | 2. Мэбля. |
| 3. Я, ты, ён, яна, мы, вы, яны. | 3. Займеннікі. |

**150.** Прачытайце.

*1. На стале ляжалі пісьмовыя* ***прылады****: ручкі, алоўкі, сцірка* ***і*** *стрыжні.*

(·): ◯, ◯, ◯ **і** ◯.

*2. На траве, на саломінках, на дрэвах —* ***усюды*** *блішчэлі ніткі асенніх павуцінак.*

◯, ◯, ◯ — (·).

● Дакажыце, што падкрэсленыя ў сказах словы з'яўляюцца аднароднымі членамі.

● Назавіце абагульняльнае слова ў кожным сказе. Чаму яно называецца абагульняльным?

● Які знак прыпынку ставіцца пасля абагульняльнага слова? Перад абагульняльным словам? Як вы думаеце, чым гэта абумоўлена?

● Звярніце ўвагу на схематычнае абазначэнне аднародных членаў сказа і абагульняльнага слова.

**Абагульняльнае слова** валодае больш агульным (шырэйшым) значэннем у адносінах да аднародных членаў сказа. Яно з'яўляецца тым самым членам сказа, што і аднародныя члены сказа: *На табурэтцы ляжала акуратна складзенае* ***адзенне****: куртка, світар, рукавіцы, шапка.*

На схеме абагульняльнае слова абазначаецца так: (·).

Пасля абагульняльнага слова (перад аднароднымі членамі сказа) ставіцца двукроп'е: *Хлопчык пачаў дставаць з сумкі* ***грыбы****: лісічкі, падасінавікі, сыраежкі, рыжыкі.*

(·): ◯, ◯, ◯, ◯.

Калі аднародныя члены сказа стаяць перад абагульняльным словам, тады перад ім ставіцца працяжнік: *На зямлі, на кустах, на стагах* — ***усюды*** *ляжаў снег.* ◯, ◯, ◯ — ⊙.

Часта ў якасці абагульняльных ужываюцца словы ***ўсюды, усе, усё.***

**151.** Спішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вызначце абагульняльныя словы і аднародныя члены сказа, якія да іх адносяцца.

1. З бульбы можна прыгатаваць шматлікія стравы дранікі бабку клёцкі. 2. Усё падрыхтавалася да сну лес рэчка жытняе поле. 3. Перад вачамі танкістаў паўставала ўсё новае і лясы і лугі і пералескі *(І. Мележ)*. 4. І гэтая сенажаць і ўскраек лесу і паветра над возерам усё напоўнілася водарам скошанай травы *(Т. Хадкевіч)*. 5. Повар старанна выбіраў гародніну радыску цыбулю моркву. 6. Сінява вады свежы вецер пах рыбы і водарасцей усё было прыгожым і новым *(Паводле М. Гамолкі)*.

● Абазначце з дапамогай схем аднародныя члены сказаў.

**152.** Спішыце. Устаўце абагульняльныя словы па сэнсе. Карыстайцеся даведкай.

1. Тут засмяяліся ...: і дзеці, і дарослыя. 2. Будзь першым ...: і ў вучобе, і ў працы. 3. Густы туман накрыў ...: вуліцу, двор, сад, альтанку*. 4. Я мару пабываць у прыгожых еўрапейскіх ...: Рыме, Берліне, Парыжы, Капенгагене.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *гледачы, усё, усюды, сталіцы*.

**153.** З прапанаваных слоў утварыце сказы з аднароднымі членамі і запішыце іх. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены сказа і абагульняльныя словы да іх.

1. На стале, свежая, выпечка, пончыкі, булачкі, была, ватрушкі.

2. На плошчы, у парку, гучала, каля тэатра, усюды, музыка.

3. Усё, да сну, само сонца, рыхтуецца, далёкі лес, рэчка, вецер.

4. Знаёмыя, сябры, суседзі, усе, віншавалі, Данік, з, перамога, алімпіяда, у.

● Абазначце з дапамогай схем аднародныя члены ў першым і другім сказах.

**154.** Складзіце і запішыце сказы з аднароднымі членамі па схемах:

1. ◯, ◯ *і* ◯.

2. ⊙: ◯, ◯ *і* ◯.

3. ◯, ◯ *і* ◯ — ⊙.

**155.** Дапішыце рад аднародных членаў сказа, пастаўце адпаведныя знакі прыпынку. Адзначце абагульняльныя словы. Абазначце з дапамогай схем аднародныя члены 3-га і 5-га сказаў.

1. У нашых лясах растуць разнастайныя ягады суніцы, ... . 2. У тумбачцы знаходзіліся розныя рэчы фотаапарат, ... . 3. У школе, ... усюды трэба быць ветлівым. 4. Экскурсанты пабывалі ўсюды у краязнаўчым музеі, ... . 5. Для паходу мы падрыхтавалі неабходны інвентар кацялок, ... .

## § 21. Сказы са звароткамі, інтанаванне, знакі прыпынку

**156.** Прачытайце. Якія словы называюць таго, да каго звяртаюцца з размовай?

1. Мой унучак, мой Дзяніска, дружбу добрую заводзь *(А. Ставер)*. 2. Ты ж ідзі ў навуку, толькі, брат, вучыся *(Я. Колас)*. 3. Коцік, коцік, мой каток, сёння ты не мыў раток *(Н. Галіноўская)*. 4. Свяці, сонейка, свяці, не шкадуй усім пяшчоты! *(А. Кавалюк)*.

**Зваротак** — слова (ці спалучэнне слоў), што абазначае асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца: *Скажы, **пілот**, чаго шукаеш?* (С. Грахоўскі). *Паплыў бы, **хмаркі**, разам з вамі!* (П. Броўка). ***Мой мілы таварыш, мой лётчык**, вазьмі ты з сабою мяне* (Я. Купала).

Зваротак заўсёды вымаўляецца з асобай, клічнай, інтанацыяй, у вусным маўленні выдзяляецца паўзамі.

**157.** Прачытайце, выдзяляючы звароткі паўзамі.

Мой родны Мінск,
Пад небам жураўліным
Жыві, квітней пад зоркай залатой!
*П. Панчанка.*

Друг мой юны, таварыш,
Тут мы ўсе ўзраслі,
Хіба лепей ёсць мары,
Чым аб нашай зямлі?
*П. Броўка.*

Мова,
Пявучая родная мова,
Ты — уладарка нявызнаных скарбаў,
Столькі значэнняў, гучанняў і фарбаў
Мае ў сабе тваё кожнае слова.

*А. Зарыцкі.*

**158.** Прачытайце. У якіх сказах выдзеленыя словы з'яўляюцца дзейнікам, а ў якіх — звароткам?

1. **Антон** падрыхтаваў заметку ў газету.
2. Сёлета выдалася спякотнае **лета**.
3. **Радзіма** ганарыцца сваімі героямі.

1. **Антон**, перадай, калі ласка, часопіс.
2. Ты прыходзь да нас, **лета**.
3. Я люблю цябе, **Радзіма!**

Зваротак не з'яўляецца членам сказа.

Звароткі аддзяляюцца ці выдзяляюцца коскамі:

***Сябры**, пачакайце мяне хвілінку.* [З, ...].

*Пачакайце, **сябры**, мяне хвілінку.* [..., З, ...].

*Пачакайце мяне хвілінку, **сябры**.* [..., З].

Калі зваротак стаіць у пачатку сказа і вымаўляецца з клічнай інтанацыяй, пасля яго ставіцца клічнік: ***Родны край мой!** Ты заўсёды ў маім сэрцы* (Т. Хадкевіч). [З! ...].

**159.** Прачытайце. Выпішыце сказы са звароткам, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.

I. Змарыўся Янка, прысеў на пні і застагнаў сам сабе:

— Ох, ох!

І толькі ён так сказаў — выскачыў з-пад пня дзядок з доўгаю барадою.

— Чаго ты мяне клікаў дзяцюк?

Паглядзеў Янка спалохана на дзядка і кажа:

— Не дзедка не клікаў я цябе *(Казка «Ох і залатая табакерка»)*.

II. Мінуў тыдзень. Выйшаў Іван у чыстае поле. Свіснуў-крыкнуў — прыбягаюць да яго ўсе трое коней.

— Што скажаш нам гаспадар?

— Коні мае добрыя чутка пайшла, што ў царскай сталіцы дзіва дзіўнае творыцца. Ці не маглі б вы мяне туды завезці?

Выйшаў буланы конь і кажа:

— Можна. Лезь мне Іван у правае вуха, праз левае вылезь *(Казка «Бацькаў дар»)*.

Размову прынята пачынаць са звароткa. Гэта правіла ветлівасці. Пры гэтым трэба памятаць, што звароткі могуць уносіць у выказванне разнастайныя пачуцці: павагу, прыязнасць, дакор, іронію, асуджэнне.

⊙ **160.** Прачытайце. Вызначце, якімі пачуццямі афарбаваны звароткі. Назавіце сказы, у якіх зваротак надае выказванню: а) пяшчоту, прыязнасць; б) дакор; в) лёгкую іронію. Прачытайце гэтыя сказы з адпаведнай інтанацыяй.

1. Ці ты зблізку, ці здалёк прыкаціўся, ручаёк? Дзе ты быў і дзе ты жыў, з кім гуляў і з кім дружыў? *(В. Зуёнак)*. 2. «Галінка-вярбінка, —

прасіў верабей, — мо пакалыхала б маіх ты дзяцей?» *(М. Танк)*. 3. «Мамачка-галубка! — просіць сын так міла, — можа б, ты на рэчку пагуляць пусціла?» *(Паводле Я. Коласа)*. 4. «Ну, грамацей, — сказаў мне бацька, — давай ужо твой сшытак, правяраць буду». 5. «Ідзі, мурза, вымыйся, — зласнавата сказала мне маці, — такога бруднага з сабою не вазьму» *(Г. Далідовіч)*. 6. «Ну, Мюнхаўзен, якая на гэты раз падплывала да цябе рыба?» — усміхаючыся, спытаў мяне брат, калі я вярнуўся з рыбалкі.

● Што надае пяшчоту словам *ручаёк, галінка-вярбінка, мамачка-галубка*?

**Пяшчотныя словы**

Ёсць у беларускай мове словы, адметныя па сваім значэнні і ўжыванні: *браце, дружа, голубе, сыне, сынку, куме, чалавеча, хлопча, дзеду* і падобныя. Па граматычных адзнаках — гэта назоўнікі. У старажытнасці з дапамогай такіх слоў выражаўся зварот да асоб, каб надаць усяму выказванню адценне асаблівай павагі, шчырасці, урачыстасці.

У сучаснай беларускай мове (напрыклад, у мове мастацкіх твораў або народных казак, у вуснай размове) такія формы назоўнікаў ужываюцца ў ролі зваротка. Называючы таго, да каго звяртаюцца з мовай (да брата, друга, сына, чалавека), яны яшчэ ўносяць дадатковае значэнне пяшчоты, любасці, прыязнасці або ўзвышанасці: *Не бойся, **дружа**, бур і цішыні* (М. Лужанін).

**161.** Перабудуйце сказы, каб дзейнік стаў звароткам. Прыдайце звароткам дабрату. Выкарыстоўвайце этыкетныя словы *калі ласка, будзь ласкавы, будзьце ласкавыя* (выдзяляйце іх, як і звароткі, коскамі) або ўжывайце пры неабходнасці пяшчотныя словы, памяншальна-ласкальныя формы імёнаў, азначэнні *паважаны, шаноўны*.

У з о р. *Насця расчыніла акно. Насцечка, расчыні, калі ласка, акно.*

1. Насця расчыніла акно. 2. Мой друг прыйшоў да мяне на дзень нараджэння. 3. Алёша ўважліва мяне слухаў. 4. Госці зайшлі ў дом. 5. Пасажыры выходзяць на пасадку[с] на скоры поезд. 6. Мікалай Пятровіч расказаў пра гісторыю тэатра.

**162.** Складзіце і запішыце сказы са звароткамі, каб яны былі ў пачатку, сярэдзіне і ў канцы сказа. У сказах можна звяртацца з просьбай да бацькі, маці, бабулі, дзядулі, сябра.

**163.** Спішыце, устаўце патрэбныя літары, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Над звароткамі запісвайце літару «З».

1. «А дзе ж голубе след гэтай дзі́чы?» — запытаў дзед Талаш *(Я. Колас)*. 2. Бачыш княжа загоны, лясы, сенажаць, — ім пакорны я толькі з гуслямі, сілен княжа караць, галаву сілен зняць, — не скуеш толькі дум ланцугамі *(Я. Купала)*. 3. Сн..гіры сінічкі сыплю вам пш..нічкі крупак крош..к хлеба, вам жа мала трэба! Ешце любыя сябры не ляціце ў бары́ а жывіце ў двары да вясновае пары *(С. Шушкевіч)*. 4. Скажыце птушачкі вы мне, што ж не былі ў той старане? *(К. Буйло)*.

## § 22. Складаныя сказы з двума галоўнымі членамі ў кожнай частцы, іх інтанаванне. Коска паміж часткамі ў складаным сказе

**164.** Прачытайце. Назавіце ў сказах граматычныя асновы.

1. Я прачнуўся.
2. У вокны свяціла сонца.
3. Я прачнуўся, калі ў вокны свяціла сонца.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Колькі граматычных асноў у сказах пад нумарамі 1 і 2?
2. Колькі граматычных асноў у сказе пад нумарам 3?
3. Якія з прыведзеных сказаў простыя, а які — складаны? З дапамогай якога злучніка звязаны часткі складанага сказа?
4. Якая з прыведзеных ніжэй схем адпавядае сказу пад нумарам 1? Пад нумарам 2? Пад нумарам 3?

А) [—— ══].
Б) [_._._ ══ ——].
В) [—— ══], (калі _._._ ══ ——).

Сказ, у якім ёсць дзве ці болей частак, называецца **складаным**. Часткі сказа злучаюцца па сэнсе і інтанацыйна.

У сказе столькі частак, колькі граматычных асноў. Яны могуць злучацца без злучнікаў і злучнікамі ***і, а, але, каб, калі, што, таму што, пакуль*** і інш.

Складаныя сказы вымаўляюцца з адпаведнай інтанацыяй. Першая частка складанага сказа вымаўляецца з павышэннем тону, апошняя — з паніжэннем: *Зіма была на зыходзе, а снег усё яшчэ ішоў.*

**165.** Прачытайце. Вызначце граматычныя асновы ў кожным сказе. Адкажыце, якія сказы простыя, а якія — складаныя. Прачытайце складаныя сказы з адпаведнай інтанацыяй. Назавіце злучнікі, з дапамогай якіх звязваюцца часткі ў складаных сказах. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. У акне мільганулі постаці. Загучалі галасы, і на парозе з'явіліся разведчыкі. 2. З празрыстай дымкі выступаў малады бярэзнік, а за ім узвышаўся загадкавы бор. У гэты бор мы і накіроўваліся. 3. Людзі ўважліва слухалі спявачку. Спявала яна звычайна, але апладзіравалі слухачы шчыра і дружна. 4. Палянку акружалі стройныя сосны. Верхавіны дрэў заварушыліся, калі падзьмуў вецер.

Паміж часткамі складанага сказа ставіцца коска.

*Адшумела лета, нівы адцвілі.*

[═══ ───], [─── ═══].

*Свяціла сонца, і лагодна павяваў ветрык.*

[═══ ───], **і** [═══ ───].

*Ніхто не чакаў, што зіма будзе такой снежнай.*

[─── ═══], (**што** ─── ═══).

*У дарогу мы выбраліся, **калі** замігцелі зоры.*

[─── ═══], (**калі** ═══ ───).

**166.** Утварыце і запішыце складаныя сказы. Для гэтага выберыце адпаведную частку справа. Пастаўце патрэбныя

знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы ў частках складаных сказаў.

| | |
|---|---|
| 1. Рэдкія дажджавыя кроплі па́далі на зямлю | але яна была амаль сухая. |
| | гулка стукалі па лісці. |
| 2. Вецер раздуваў сняжынкі | і яны танцавалі пад яго музыку. |
| | і прымушаў іх насіцца ў паветры. |
| 3. Мы збіралі журавіны позняй восенню | і гатавалі з іх кісель. |
| | калі яны асабліва спелыя. |

● Пабудуйце схемы 1-га і 3-га сказаў.

⊙ **167.** Прачытайце. Растлумачце правапіс прапушчаных літар. Выпішыце складаныя сказы. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы кожнай часткі складаных сказаў.

Тыгр зноў дагнаў мяне. Яго паводзіны напаміналі паляванне таму што ён станавіўся больш рашучым. Магчыма, толькі мой маналог стрымліваў яго нападзенне.

Схіл быў круты. Я разумеў што тыгр акажацца выш..й за мяне. Звер атрымае ідэальную пазіцыю для скачка. Выйсця не было і я шмыгануў уніз. Тыгр тут жа скокнуў на пакінутае мною месца.

Стала зусім цёмна. Тыгр стаў затойвацца, ішоў, прыпадаючы да зямлі, і нават лажыўся, заціхаў. Я зразумеў што тыгр хоч.. мяне перахітрыць.

Усё-такі я выраш..ў прабівацца на дарогу. Яна была побач, за ракой.

Хутка паказаўся снегаход і я з лё..кім с..рцам сеў у цёплую кабіну *(Паводле В. Каркішкі)*.

● На якую тэму тэкст? Дайце загаловак тэксту.

● Растлумачце значэнне выразу *з лёгкім сэрцам*.

● Вусна апішыце маўленчую сітуацыю: ад чыйго імя вядзецца апавяданне; дзе адбываецца дзеянне і ў якую пару́ года.

● Выпішыце з тэксту апорныя словы і словазлучэнні. З апорай на іх вусна перакажыце тэкст ад імя падарожніка, за якім у тайзе сачыў тыгр. Выкарыстоўвайце складаныя сказы.

⊙ **168.** Прадоўжыце сказы так, каб яны сталі складаныя. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Прасачыце, каб у тых частках, якія вы будзеце дапісваць, была граматычная аснова — дзейнік і выказнік.

1. На станцыю прыбыў цягнік і … . 2. Ляснік нам расказаў што … . 3. Ноччу прайшоў невялікі дождж але … . 4. Асабліва я люблю вясну калі … . 5. Маёй любімай парой года з'яўляецца …, таму што … .

## Сінтаксічны разбор складанага сказа

П а р а д а к р а з б о р у

1. Назваць часткі ў складаным сказе.
2. Вызначыць граматычныя асновы кожнай часткі.
3. Назваць, пры дапамозе чаго звязаны часткі сказа.
4. Растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку.

У з о р   р а з б о р у

*Наступілі асеннія дні, і па небе паплылі серабрыстыя воблакі.*

***Вусны разбор***

У складаны сказ уваходзяць дзве часткі. У першай частцы граматычная аснова *наступілі дні*, у другой — *паплылі воблакі*. Часткі звязаны злучнікам ***і***, а таксама пры дапамозе інтанацыі. Часткі складанага сказа аддзяляюцца коскай.

***Пісьмовы разбор***

*Наступілі асеннія дні, і па небе паплылі серабрыстыя воблакі.*

**169.** Зрабіце сінтаксічны разбор сказаў. Дастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

1. Сыпануў снег і ўсё наваколле стала белае. 2. Снег ішоў так густа што над елкамі і бярозкамі выраслі снежныя шатры. 3. Яшчэ не наступіла раніца але мы выйшлі ў дарогу. 4. Мароз трымаўся пакуль не прыгрэла сонца.

**170.** Прачытайце тэксты.

I. Вечарам узыходзіў поўны месяц. Яго залатое святло пяшчотна разлівалася па наваколлі. Месяц павольна падымаўся вышэй. Амаль усю ноч ён зіхацеў сваім ясным хараством. На небе не было хмар. **Вось падзьмуў лёгкі вецер. У месячным святле паказаліся першыя воблакі.**

II. Вечарам узыходзіў поўны месяц, і яго залатое святло пяшчотна разлівалася па наваколлі. Месяц павольна падымаўся вышэй. Амаль усю ноч ён зіхацеў сваім ясным хараством, таму што на небе не было хмар. **Вось падзьмуў лёгкі вецер, і ў месячным святле паказаліся першыя воблакі.**

● З дапамогай якіх сказаў пабудаваны першы тэкст? Другі?

● Пра які тэкст можна сказаць, што ён аднастайны па інтанацыі? У якім тэксце гэтага ўдалося пазбегнуць? Якая роля ў гэтым складаных сказаў?

● Параўнайце выдзеленыя сказы ў першым тэксце з выдзеленым сказам у другім тэксце. Чым яны адрозніваюцца? Пра які сказ можна сказаць, што ён багацейшы па значэнні? У чым гэта праяўляецца? Прывядзіце аналагічныя прыклады з першага і другога тэкстаў.

● Зрабіце вывад аб ролі складаных сказаў у тэксце.

**171.** Прачытайце. Выпішыце два простыя і два складаныя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

Знайшоў я аднойчы лісіныя норы і вырашыў station паназіраць за лісянятамі. Але па маіх слядах прыбег і мой сабака, фокстэр’ер Арфей, і накіраваўся прама на лісянят. Тыя ўміг зніклі ў норах.

Я быў упэўнены што Арфей не палезе ў норы. Але праз нейкі час сабака прабег міма мяне з курапатчыным крылом.

На другі дзень Арфей зноў **пабываў каля нор**[сн] і прынёс конскі капыт. У наступны раз малы разбойнік адабраў у лісянят чарговую цацку.

— Што ж гэта ты, злодзей, робіш? — пачаў я дакараць Арфея. Але ён горда адвярнуўся.

Праз некалькі дзён Арфей перастаў бегаць туды. Гэта мяне зацікавіла і я пабываў ля нор. Але яны былі пустыя. Занепакоеная ліса адвяла лісянят у іншае месца *(Паводле В. Сіманава)*.

- На якую тэму тэкст? Дайце тэксту загаловак.
- Да якога стылю і жанру належыць тэкст?
- Назавіце сказ са звароткам.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.
- Выпішыце апорныя словы і словазлучэнні.
- Вусна перакажыце змест апавядання. Выкарыстоўвайце складаныя сказы.

⊙ **172.** З наступных простых сказаў пабудуйце складаныя, выкарыстоўваючы злучнікі ***і, але, таму што, калі***. Зрабіце пісьмовы разбор сказаў. Устаўце прапушчаныя літары.

Узор. *Я падставіў далоні. (На іх упалі бязважкія іголкі.)* — *Я падставіў далоні, і на іх упалі бязважкія іголкі.*

1. Удзень прайшоў дружны дож.. . (Мы моцна прамоклі.) 2. Яшч.. не ўзышло сонца. (Аднекуль з выш..ні лілася птуш..ная песня.) 3. Артысты старанна рэпеціравалі п’есу. (Хутка адбу..ецца паказ спектакля.) 4. Мы выйшлі ў дарогу. (На вуліц.. развіднела.)

**173.** Дапішыце апавяданне пра выратаванне вераб’я, выкарыстоўваючы апорныя словы і словазлучэнні з даведкі. Ужывайце розныя па будове сказы — простыя і складаныя. Дайце загаловак тэксту.

Аднойчы Я́на вярталася са школы. Быў моцны мароз. Непадалёку ад дома дзяўчынка заўважыла

верабейку: ён нерухома ляжаў на снезе. Дзяўчынка зняла рукавічку...

Словы для даведкі: *ратаваць верабейку, зрабіць гняздо, гняздо з ваты, каб, цяплей, што, не выжыве, расплюшчыў вочкі, выпусцілі праз тыдзень.*

## § 23. Простая мова, інтанаванне і афармленне на пісьме

**174.** Прачытайце. Каму належаць выдзеленыя словы, хто іх аўтар? У якім сказе аўтарская мова перададзена без змен?

Пры развітанні брат сказаў: **«У наступны раз я прывязу табе вельмі цікавую кнігу».**

Пры развітанні брат сказаў, **што ў наступны раз ён прывязе мне вельмі цікавую кнігу.**

**Простая мова** — гэта чужое выказванне, перададзенае без змянення, дакладна, ад імя таго, хто яго прамовіў або напісаў.

Простую мову суправаджаюць словы аўтара. У іх называецца асоба, якой належыць выказванне.

*Якуб Колас пісаў: «Шануйце родную мову».*

Словы аўтара — Простая мова

А: «П».

Сказы з простай мовай вымаўляюцца з адпаведнай інтанацыяй:

- пасля слоў аўтара ці перад словамі аўтара робіцца невялікая паўза;

- словы аўтара вымаўляюцца некалькі паніжаным тонам;
- простая мова вымаўляецца некалькі павышаным тонам.

**175.** Прачытайце. Назавіце простую мову і словы аўтара. Якія знакі прыпынку выкарыстоўваюцца, каб выдзеліць простую мову?

1. Прывітаўшыся, ён адчыніў свой кабінет і спакойна сказаў: «Ступайце за мною» *(Паводле Я. Коласа)*. 2. Пабегла ліса да рэчкі і кажа збану: «Пусці, бо ўтаплю!» *(Казка)*. 3. «Куды, кума, едзеш?» — пытаецца воўк *(Казка)*. 4. «Ці не было тут калі возера?» — думаў Сцёпка *(Я. Колас)*. 5. «Добрая восень стаіць, — сказаў Багушэвіч, — цёплая, сонечная» *(В. Хомчанка)*. 6. «Хоць я вас першы раз бачу, — сказала мама, — але ўжо люблю за тое, што дружыце з маёй Насцечкай» *(К. Чорны)*.

- Назавіце сказы, у якіх простая мова разрываецца словамі аўтара.
- Якія знакі прыпынку стаяць у канцы простай мовы? Растлумачце іх пастаноўку. З якой інтанацыяй трэба чытаць гэтыя сказы? Прачытайце яшчэ раз.
- Пабудуйце літарную схему 1-га, 3-га, 5-га сказаў (А — словы аўтара, П — простая мова).

Простая мова бярэцца ў двукоссе, першае слова яе пішацца з вялікай літары.

П а с л я с л о ў а ў т а р а перад простай мовай ставіцца двукроп'е:

*Бацька кажа: «Хай зойдзе да мяне першы сын»* (Казка).

А: «П».

П а с л я  п р о с т а й  м о в ы перад словамі аўтара ў залежнасці ад інтанацыі ставіцца коска, пытальнік або клічнік. Пасля любога з гэтых знакаў ставіцца працяжнік:

*«Гэй, хто тут гаспадар?» — пытаецца Ліса* (Казка).

«П?» — а.

Простая мова можа разрывацца с л о в а м і а ў т а р а, перад якімі і пасля якіх ставяцца коска і працяжнік:

«*Глядзі ж, Пеўнік*, — *сказаў Коцік*, — *не пускай Лісу ў хатку*» (Казка).

«П, — а, — п».

**176.** Запішыце, правільна афармляючы, сказы з простай мовай. Дастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Гэтыя людзі шчаслівыя таму што яны ўмеюць усміхацца сказаў чараўнік *(Г. Васілеўская)*. 2. Праз хвіліну вайсковец звярнуўся да Алёшкі Чаму сядзіш адзін *(І. Навуменка)*. 3. Прыклаў адзін слуга вуха да зямлі ды і кажа Браткі мае, дык гэта ж зямля спявае, зямля тут такая *(Пада́нне «Адкуль песня»)*. 4. Дзень добры голасна выгукнуў Заранік *(Т. Хадкевіч)*. 5. Пайшлі браце хутчэй казаў дзед унуку, папраўляючы на плячы вуду, а то акуні без нас занудзіліся *(У. Ляўданскі)*. 6. Ах, якая прыгажуня гэтая Сінявочка гаварылі воблакі такая цудоўная такая празрыстая! *(А. Дудараў)*.

● Прачытайце сказы, у якіх ужыты звароткі, з патрэбнай інтанацыяй.

● Пабудуйце літарныя схемы першых трох сказаў.

Калі простая мова стаіць перад словамі аўтара, то коска выносіцца за двукоссе, а пытальнік і клічнік пакідаюцца ў двукоссі:

***«Падпішыцеся»***, — *папрасіў паштальён.*

***«Падпішацеся?»*** — *спытаў паштальён.*

***«Падпішыцеся!»*** — *загадаў паштальён.*

Калі простая мова стаіць пасля слоў аўтара, то кропка ставіцца пасля двукосся: *Супрацоўніца папярэдзіла:* ***«Музей зачыняецца праз пятнаццаць хвілін»***.

⊙ **177.** Прачытайце выказванні вядомых людзей пра кнігу, чытанне. Запішыце гэтыя выказванні ў выглядзе простай мовы, выкарыстоўваючы словы з даведкі.

1. Кніга — самая галоўная крыніца, адкуль чалавек чэрпае свае веды *(Васіль Вітка)*. 2. А наогул я люблю чытаць *(Іван Шамякін)*. 3. Старайся чытаць як мага больш *(Васіль Вітка)*. 4. Кожны з нас памятае прачытаную ў юнацтве першую кнігу *(Ян Скрыган)*.

Словы для даведкі: *пісаць, гаварыць, раіць, сцвярджаць.*

**178.** Пабудуйце сказы па схемах.

1. А: «П».
2. А: «П?»
3. «П», — а.
4. «П, — а, — п».

**179.** Дапішыце сказы. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Складзіце схемы сказаў.

1. Незнаёмец, папрасіўшы прабачэння, спытаў у нас: ...

2. ... — запрасіў гаспадар.

3. ..., — сказала Насця, — ... .

## § 24. Дыялог. Афармленне дыялогу

**180.** Прачытайце. Колькі асоб (чалавек) удзельнічае ў размове?

Толькі празвінеў званок на другі ўрок і ў клас увайшла Вольга Мікалаеўна, як на парозе з'явіўся незнаёмы вучань. Гэта быў Косця Шышкін.

— Добры дзень! — сказаў ён.

— Добры дзень, — адказала Вольга Мікалаеўна.

— Ці тут пяты клас?

— Тут. Што скажаш?

— Нічога. Я прыйшоў вучыцца.

— Ты навічок?

— Навічок.

— А чаму ж ты прыйшоў так позна?

— На першы ўрок я трапіў ... у шосты клас.

— Як гэта?

— Прыйшоў у школу, чую — званок, усе пабеглі ў клас. І я за імі. Пасля ўрока даведаўся, што гэта шосты клас.

— Што ж, сядай. Толькі ў наступны раз не забяжы ў дзясяты клас.

Так Косця Шышкін правучыўся адзін урок у шостым класе *(Паводле М. Носава)*.

● Каму належаць словы: *«Ці тут пяты клас?»*

● Якія рэплікі (***рэпліка*** — словы адной асобы) належаць Косцю, а якія — настаўніцы?

● Які знак прыпынку ставіцца перад кожнай рэплікай? З якога радка і з якой літары пачынаецца кожная рэпліка?

● Якія знакі прыпынку ставяцца пасля рэплік, калі далей ідуць словы аўтара?

**Дыялог** — размова дзвюх (ці болей) асоб.

Кожная рэпліка ў дыялогу запісваецца з чырвонага радка і з вялікай літары. Перад рэплікай ставіцца працяжнік.

**181.** Прачытайце. Колькі асоб удзельнічае ў дыялогу? Адкажыце, каму належыць кожная рэпліка. Прачытайце па ролях. Звярніце ўвагу на афармленне кожнай рэплікі.

З ЖЫЦЦЯ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

Выехалі на шлях. З ясеняў і ліп сыпалася лісце. Фурман* злавіў адзін такі ліст, паказваючы двум сваім седакам, сказаў:

— Прыгожа памірае дрэва.

— Яно не памірае, а засынае на зíму, — паправіў фурмана Масальскі.

— Памірае. Яно кожны год памірае і вясной нараджаецца. А за смерць сваю лісцем, нібы залатымі рублямі, расплачваецца.

— Містыка*, — сказаў Масальскі.

— Залатымі рублямі расплачваецца за смерць сваю, — паўтарыў Францішак Багушэвіч — другі сядок у вазку. Дакрануўшыся да пляча фурмана, ён дадаў:

— Дзякуй Вам.

— І Вам дзякуй, — заківаў галавой фурман. Ясеневы ліст ён схаваў у кішэню *(Паводле В. Хомчанкі)*.

● Як трэба разумець у тэксце значэнне выразу *залатыя рублі*?

**182.** Прачытайце. Вызначце межы рэплік. Устанавіце адрасатаў: каму належыць кожная рэпліка? Назавіце сказы, якімі дыялог перарываецца.

Званок. Адчыняю. На лесвічнай пляцоўцы чатыры дзяўчынкі.

Добры дзень!

Добры дзень адказваю ім.

Ці не заходзіла да вас кошачка

Не

На гэтым не хочацца закончыць размову, і я пытаюся:

А як жа яе завуць

Маркіза

Пошукі, зразумела, будуць працягвацца да дзявятага паверха, а потым, можа, і ў іншых пад'ездах. Трэба дапамагчы.

Калі Маркіза зойдзе да нас, дык я скажу, што вы яе шукаеце

Дзякуем Вам. Да пабачэння *(Паводле Я. Брыля)*.

● Спішыце, правільна афармляючы дыялог.

● Вусна перакажыце размову, якая адбылася паміж дзяўчынкамі і пісьменнікам.

**183.** Перакладзіце на беларускую мову і запішыце. Назавіце звароткі. Раскажыце, чым закончылася казка.

ЛИСА И ЖУРАВЛЬ

Лиса с журавлём подружились.

— Приходи, куманёк! Приходи, дорогой! Уж как я тебя угощу!

Наварила лиса манной каши да по тарелке размазала. Подала.

— Покушай, мой голубчик. Сама стряпала.

Журавль стучал-стучал носом, ничего съесть не смог... *(Русская народная сказка)*.

**184.** Запішыце ў форме дыялогу. Устаўце прапушчаныя літары.

1. Вы добра веда..це віды птушак? — спытаў наведвальнік. 2. А як жа! — а..казаў экскурсавод. 3. Скажыце, калі ласка, якая з гэтых птушак чыж і якая шчыгол. 4. А вось тая, што с..дзіць побач з чыжом, і ёсць шчыгол.

## § 25. Патрабаванні да падрабязнага пераказу



**Пры падрабязным пераказе тэкст перадаецца блізка да зместу, з захаваннем асноўнай думкі, паслядоўнасці дзеяння або падзей, моўных асаблівасцей, выказванняў герояў.**

**185.** Прачытайце.

У той летні дзень мы дапамагалі дарослым. Падносілі цвікі, падавалі пілку ці дошкі. У нейкі момант наша ўвага цалкам пераключылася на Ментузка, нашага ката. Ён то сядзіць, то прыляжа да зямлі, то падскочыць.

Дзіўная гульня Ментузка зацікавіла нас. Старэйшы брат накіраваўся да ката, але праз некалькі крокаў спыніўся і са страхам сказаў:

— Вуж! Чорны!

Кот сядзеў нацэлены на вужа, нікога не заўважаючы. Як толькі вуж паспрабуе варухнуцца, кот цаля́е па галаве лапай. І так датуль, пакуль вуж не перастаў варушыцца.

Калі ўсё закончылася, Ментузок, знясілены доўгім змаганнем, падняўся, слабым голасам сказаў сваё «мяў» і марудна зрушыўся з месца.

Гэта не вуж быў, а гадзюка. А кот не гуляў, ён біў і біў яе пругкай лапай па галаве, каб не прапусціць у свой двор *(Паводле Ф. Янкоўскага)*.

● Вызначце стыль і жанр тэксту.

● Якая асноўная думка тэксту? Які загаловак можна падабраць да тэксту?

● Вусна апішыце маўленчую сітуацыю: ад чыйго імя вядзецца апавяданне? Дзе і калі адбываецца дзеянне? Хто з'яўляецца ўдзельнікамі падзей?

● Падрыхтуйцеся да пісьмовага падрабязнага пераказу паводле прапанаванага плана. Пры пераказе выкарыстайце апорныя словы і словазлучэнні, дадзеныя ў даведцы.

П л а н

1. Дапамагалі дарослым.
2. Дзіўныя паводзіны ката Ментузка.
3. «Вуж! Чорны!»
4. Змаганне.
5. Перамога Ментузка.
6. Адвага ката.

С л о в ы д л я д а в е д к і: *летні дзень, дапамагалі дарослым, наш кот, дзіўныя паводзіны, старэйшы брат, сказаў са страхам, нацэлены на вужа, вуж, цаля́е па галаве, цаля́е лапай, перастаў варушыцца, сказаў «мяў», марудна зрушыўся, гадзюка, не прапусціць у двор, у свой двор.*

**186.** Прачытайце.

Косцікаў тата паехаў у горад на нараду перадавікоў.

Вечарэла. Мама зірнула на гадзіннік і сказала:

— Аўтобус прыйшоў ужо. Схадзі, Косцік, сустрэнь тату.

Заняты гульнёю сын адказаў:

— На дварэ цёмна. Ваўкі бегаюць.

— Якія ў вёсцы ваўкі? — здзівілася маці.

Тата прыйшоў хвілін праз дзесяць. Ён адразу запытаў сына:

— Косця, чаму ты мяне не сустракаў?

Хлопчык нічога не адказаў. А мама пра ўсё расказала.

Тады тата раптам паляпаў па кішэнях і прамовіў да Косціка:

— А падарунак табе я згубіў, калі выходзіў з аўтобуса.

— Дык я пабягу, пашукаю, — падхапіўся Косцік.

Мама і тата засмяяліся. А Косціку зрабілася сорамна *(Паводле Р. Бензерука)*.

● Сфармулюйце асноўную думку тэксту.

● Дайце тэксту загаловак, каб ён раскрываў асноўную думку або тэму.

● Вызначце стыль і жанр тэксту.

● Складзіце план апавядання.

● Выпішыце апорныя словы і словазлучэнні, якія дапамогуць перадаць змест і асноўную думку тэксту.

● Карыстаючыся апорнымі словамі і словазлучэннямі, напішыце пераказ.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**1.** Прачытайце. Выпішыце два назоўнікавыя і два дзеяслоўныя словазлучэнні. Зрабіце іх пісьмовы разбор.

У нас хапае рэдкіх слоў,
І палюбі ты іх бязмежна.
Яны ад чысціні снягоў
І ад пялёсткаў беласнежных.

*Ю. Свірка.*

● Як вызначаецца галоўнае слова, а як — залежнае?

● З дапамогай чаго выражаецца сувязь слоў у словазлучэннях?

**2.** Прачытайце. Вызначце межы сказаў. Спішыце, расстаўце знакі прыпынку, вусна абгрунтуйце іх пастаноўку.

Чаму людзі паважаюць захоўваюць любяць кнігу адказ просты з кніг мы даведваемся шмат цікавага і карыснага пра жыццё на Зямлі кніга адкрывае перад намі цэлы свет[сн] толькі ты пачынаеш чытаць — і свет гэты ажывае напаўняецца гукамі колерамі

А ці ведаеш ты як ствараецца кніга над выпускам толькі адной кнігі працуе шмат людзей аўтар рэдактар мастакі друкары[сн] праца кожнага з іх цяжкая але ганаровая памятай пра гэта шануй і беражы кнігу *(Паводле В. Віткі)*.

● Да каго звяртаецца аўтар тэксту? Хто можа быць адрасатам маўлення?

● Якія сказы адносяцца да апавядальных? Пытальных? Пабуджальных?

● Якое дадатковае адценне надаюць выказванню клічныя сказы?

● Якія члены сказа з'яўляюцца аднароднымі? Якім знакам прыпынку раздзяляюцца аднародныя члены сказа?

● Якія словы лічацца абагульняльнымі пры аднародных членах?

● Які знак прыпынку ставіцца перад абагульняльным словам? Пасля яго?

● Абазначце з дапамогай схемы аднародныя члены з абагульняльным словам, якія знаходзяцца ў адным са сказаў.

● Якія сказы называюцца простымі, а якія — складанымі? Прывядзіце прыклады з тэксту.

● Якім знакам прыпынку раздзяляюцца часткі складанага сказа?

● Які сказ у тэксце адпавядае схеме: **[═══ ─── ], (як ═══ ─── )?**

**3.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Зрабіце сінтаксічны разбор сказаў.

Но..у вожык гуляў па лесе. У лужыне заўважы.. яркую зорку і накры.. яе лісточкам. Наступіла раніца. Пад лісточкам замест зоркі вожык знайшоў в..лікае сонца. Вось вожык см..яўся!

- З якіх членаў сказа ўтвараецца граматычная аснова?
- Якія члены сказа з'яўляюцца галоўнымі, а якія — дададзенымі?
- На якія пытанні адказвае дзейнік? Выказнік? Дапаўненне? Азначэнне? Акалічнасць?
- Якія сказы называюцца неразвітымі, а якія — развітымі? Прывядзіце прыклады з тэксту.

**4.** Запішыце сказы з простай мовай, правільна афармляючы іх і дастаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1. Калі мы павезлі капітана дахаты ён папрасіў вы таварышы пачакайце мяне *(Я. Брыль)*. 2. Крыху асвоіўшыся, мы асмялелі і Санька спытаў незнаёмца а ты хто *(І. Сяркоў)*. 3. Шануйце дзеці дружбу сказала Насціна мама гэта самае дарагое і важнае што ёсць у чалавека *(Паводле К. Чорнага)*. 4. Спачатку трэба самому навучыцца працаваць сказаў Павел а тады ўжо і другіх вучыць *(Г. Далідовіч)*.

- *«Зваротак — гэта...»* Прадоўжыце азначэнне звароткa. Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца звароткі? Назавіце сказы са звароткам.
- *«Простая мова — гэта...»* Прадоўжыце азначэнне простай мовы. Як яна афармляецца?
- *«Дыялог — гэта...»* Прадоўжыце азначэнне дыялогу. Як ён афармляецца?

**5.** Прачытайце пачатак казкі. Назавіце сказы з простай мовай і растлумачце яе афармленне.

Жыў-быў Буслік. Вырашыў ён аднойчы павандраваць па свеце і заляцеў у такія далёкія краіны, што і заблудзіўся. А як вярнуцца, не ведае.

Вось ляціць ён, думае: «У каго ж гэта спытаць?» Аж бачыць на адным востраве палац нейкі незвычайны — з указальнікамі і таблічкамі. «Спытаю там, як мне дамоў вярнуцца», — вырашыў Буслік. Вось апусціўся ён, у дзверы дзюбай пастукаў. А на тых дзвярах напісана: «Краіна Сінтаксіс». Тут дзверы і адчыніліся.

● Прыдумайце і запішыце працяг казкі, дайце ёй загаловак. Раскажыце ў ёй, хто жыве ў казачнай краіне. Падумайце, як вы можаце выкарыстаць веды з тэм, якія вывучаліся ў раздзеле «Сінтаксіс і пунктуацыя».

# ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

## § 26. Гукі беларускай мовы

**187.** Прачытайце. Скажыце, чым адметныя гукі мовы.

Мы жывём у свеце гукаў. Выходзіш з дому — і да цябе даносяцца гудкі аўтамашын, шум ветру, спеў птушак... Але вось тваё вуха ўлавіла голас сябра: «Міхась, пачакай!»

Як у плыні разнастайных гукаў ты пачуў тыя, што перадалі просьбу сябра? Чым адрозніваюцца гукі мовы ад усіх іншых гукаў?

Ты пачуў словы. А словы складаюцца з гукаў мовы, аб'яднаных у пэўным парадку. Калі вымавіць, напрыклад, гукі [н], [ы], [с], ніхто нічога не зразумее. Але варта гэтыя гукі вымавіць у адваротным парадку — [сын], як адразу стане зразумела, пра каго ідзе размова. Значыць, гукі мовы — гэта такія гукі, з якіх складаюцца словы. Гэтым яны адрозніваюцца ад усіх іншых гукаў.

Кожны гук у слове займае сваё месца. А калі заменіш які-небудзь гук іншым ці пераставіш месцамі, адразу змяняецца значэнне, адно слова ператвараецца ў другое: *сын — сон, ліса — сіла*. З гэтага вынікае, што гукі мовы дапамагаюць адрозніваць словы, гэта значыць яны служаць сродкам адрознення слоў.

Раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца гукі мовы, называецца **фанетыкай.**

З фанетыкай самым цесным чынам звязана **арфаэпія** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца правілы вымаўлення гукаў і іх спалучэнняў.

***леге́нда***

**188.** Прачытайце. Якая асноўная думка легенды?

На працягу многіх тысячагоддзяў асобныя гукі складваліся ў пэўным парадку і станавіліся словамі, якія набывалі адпаведнае значэнне, сэнс.

Ты можаш запытаць: «Колькі ж патрэбна было гукаў мовы, каб скласці сотні тысяч слоў?» Аказваецца, усяго 45 гукаў: 6 галосных і 39 зычных. Вось што пра іх распавядае легенда.

Паспрачаліся аднойчы гукі. Галосныя крычалі, што яны галоўныя, а зычныя — што яны.

— ..А..Э..Ы..А, — праспявалі галосныя і збянтэжана сціхлі.

— Ну вось! Ніхто вас не зразумеў. А калі мы скажам ФНТК, то кожны здагадаецца, што гэта ФАНЕТЫКА.

— Магчыма. Праўда, мы падумалі, што гэта ФАНАТЫК. Але паспрабуйце без нас сказаць АРКА, УРА.

І зычныя сарамліва змоўклі.

З той пары дружна жывуць галосныя і зычныя адной сям’ёй у адной краіне. Толькі разам, толькі ў згодзе ствараюць словы, вымаўляючы іх. І вы можаце вымаўляць тыя словы. Толькі трэба пазнаваць усе гукі і правільна іх вымаўляць *(Паводле В. Волінай)*.

**189.** Прачытайце словы ціха, працяжна. Якія гукі вы чуеце? Зрабіце гукавы запіс слоў.

У з о р: *сыраежка* — [сырай’эшка].

1. Слава, трывога, елка, загадка, вера.
2. Задума, казка, вясна, янот, каліна.
3. Баравік, журавіны, свабода, лыжка, садоўнік.

**190.** Вымавіце словы, якія абазначаюць намаляваныя прадметы.






- Назавіце гукі, з якіх утворана кожнае слова.
- Якімі гукамі адрозніваюцца гэтыя словы?
- Якую ролю ў мове выконваюць гукі?

**191.** Дакажыце, што ў прыведзеных парах слоў замена, адсутнасць ці наяўнасць аднаго гука або паслядоўнасць гукаў змяняюць сэнс усяго слова.

Галіна — гліна, карабін — рабінка, каса — раса, колас — кола, рама — мара, лава — авал.

- З двума словамі (на выбар) складзіце адзін апавядальны сказ, а другі — сказ з простай мовай.

**192.** Утварыце і запішыце словы, каб у іх склад уваходзіла не больш за чатыры з прыведзеных гукаў.

[а], [о], [у], [в], [к], [м], [р]

**193.** Запішыце ланцужкі з 3—4 слоў, каб у іх кожнае наступнае слова пачыналася з таго гука, якім заканчваецца папярэдняе слова.

У з о р: *стол — лось — сіні — імкліва — аздобіць.*

дзень — ...    грыб — ...
зямля — ...    лес — ...

**194.** Прачытайце выразна верш і растлумачце сэнс загалоўка.

МАЦЯРЫНСКІ НАКАЗ

Якою далёкай ні будзе дарога,
Якім бы шырокім ні здаўся прасцяг*, —
Вяртайся сюды, да святога парога;
Адсюль твой пачатак і тут твой працяг.

*Л. Якубовіч.*

● Вызначце, якія радкі ў гэтым вершы «перагукваюцца» паміж сабой. Назавіце гукі, якімі адрозніваюцца сугучныя словы.

**195.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Якімі словамі з тэксту яе можна выразіць?

Чалавек павінен падарожнічаць, ведаць тую зямлю, на якой нарадзіўся, яе легенды, **мову,** яе дарогі. І ты абавязкова адчуеш гэта на нейкім годзе свайго жыцця. І ты выберашся ў **дарогу,** каб усвядоміць, чый ты сын, і глянуць, якая вялікая зямля твая. Зямля, дзе ёсць **прастор** і кіламетрам, і думкам, і тваёй душы. Табе ўсё жыццё будзе нешта карцець, нечага не ставаць, калі ты не ўбачыў яе. Перш чым чужыя краі — хай у **сэрцы** тваім будзе **Бацькаўшчына** *(А. Клышка, Я. Сіпакоў).*

● Запішыце, з якіх гукаў утвораны выдзеленыя словы.

У з о р: *сын* — [с], [ы], [н].

## § 27. Літара як знак гука

**196.** Прачытайце фанетычную казку.

Жылі ў адной казачнай краіне гукі. Аднойчы завітаў да іх чараўнік. Хацеў ён пазнаёміцца з гукамі, але не мог іх нідзе ўбачыць. Толькі галасы іх чуў, іхнія песні. Задумаўся чараўнік. Узмахнуў ён чароўнай палачкай — з'явіліся адметныя сукенкі, сказаў чароўныя словы — кожны гук апрануў сваю сукенку і стаў бачным, пераўвасобіўся ў літару. Цяпер літару можна было бачыць, напісаць, намаляваць, а калі прачытаеш, прашэпчаш ці праспяваеш яе, то пачуеш імя гука.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як вы зразумелі сэнс казкі?
2. Чым адрозніваюцца гукі ад літар?

**Літары** — гэта графічныя знакі, якія служаць для абазначэння на пісьме гукаў мовы.

**197.** Разгледзьце табліцу і скажыце, якія суадносіны могуць быць паміж гукамі і літарамі. Ці заўсёды напісанне слоў адпавядае іх вымаўленню?

| Кожны гук абазначаецца «сваёй» літарай | Розныя гукі абазначаюцца адной літарай | Адзін гук можа абазначацца рознымі літарамі |
|---|---|---|
| [м] [о] [р] [а]<br>↕ ↕ ↕ ↕<br>м о р а | замак [з] ← з<br>казка [с] ← з<br>зжаваць [ж] ← з | гры**п** → [п]<br>гры**б** → [п] |

Напісанне слоў не заўсёды адпавядае іх вымаўленню.

Суадносіны паміж гукамі і літарамі вывучае **графіка,** а правілы напісання слоў — **арфаграфія.**

Графіка і арфаграфія — асобныя раздзелы навукі аб мове.

**198.** Прачытайце запісы і скажыце, якія з іх гукавыя. Назавіце гукі кожнага слова і вызначце, ці ўсе яны абазначаны «сваёй» літарай.

| | | |
|---|---|---|
| мароз [марос] | лёс [л’ос] | ёлка [й’олка] |
| юнак [й’унак] | рысь [рыс’] | сняжок [с’н’ажок] |

**199.** Спішыце, устаўляючы ў словы магчымыя літары. Упішыце ў дужкі гукі, якія гэтыя літары абазначаюць.

| | | |
|---|---|---|
| лі..а [ ] | р..ка [ ] | ш..фер [ ] |
| ба..ка [ ] | гры.. [ ] | бу..ет [ ] |
| сл..ва [ ] | п..рог [ ] | сал..т [ ] |
| б..лет [ ] | за..адка [ ] | ..арада [ ] |

З атрыманымі словамі аднаго слупка складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце ў іх граматычную аснову.

**200.** Прачытайце словы шэптам, працяжна вымаўляючы галосныя гукі. Зрабіце гукавы запіс слоў.

Ясны, паравоз, неба, сняжок, хмара.

**201.** Прачытайце ціха і ўголас. Вызначце, у якіх словах і якія гукі «хаваюцца» за літарамі ***б, г, д, с.***

Багаты, голуб, белы, трубка; гара, луг, гімназія, лёгкі; добры, загадка, дружны; сяло, касьба.

**202.** Адкажыце на пытанні-жарты.

1. Як *чаплю* ператварыць у *каплю*?
2. Ці можна з *бука* зрабіць *бак*?
3. Як з *услона* змайстраваць *слана*?

**203.** Запішыце словы ў два слупкі: у адзін — словы, напісанне якіх супадае з вымаўленнем, у другі — словы, напісанне якіх не супадае з вымаўленнем.

1. Казка, багаты, агарод, рэчка, загадка, дружба, касьба, садоўнік, сад, хмара.

2. Мароз, вясёлка, кніга, голуб, зімоўка, жаўранак, здаровы, асенні, сведка, на рэчцы.

**204.** Спішыце сказы. Падкрэсліце словы, напісанне якіх не супадае з вымаўленнем.

1. Бабка Параска цяжка ўздыхнула і выйшла з пакоіка. 2. Лабановічу захацелася яшчэ раз абысці тыя дарогі і сцежкі, дзе не раз вандраваў ён у вольныя хвіліны *(Я. Колас)*.

**205.** Якія іншыя словы атрымаюцца, калі прыведзеныя словы вымавіць у адваротным парадку? Запішыце іх.

У з о р: *ёд* — [й'от] — *той*.

Кот, лёс, лёт, люк, Ніл, яр.

**206.** Прачытайце. Якая асноўная думка верша? Запішыце тэкст і падкрэсліце словы, у якіх ёсць зычныя гукі, што абазначаны не «сваімі» літарамі.

Рукі дадзены чалавеку,
Каб ён мог сеяць жыта
І калыхаць немаўлят.

Ногі дадзены чалавеку,
Каб ён мог змераць імі крутыя вёрсты
Нялёгкіх жыццёвых дарог.

Сэрца дадзена чалавеку,
Каб ён не забываў аб сваім прызначэнні —
Тварыць на зямлі дабро.

*З. Марозаў.*

## § 28. Прызначэнне літар *е, ё, ю, я, і*

**207.** Выразна прачытайце словы, працяжна вымаўляючы склады.

[м’э] **ме**дуніца
[л’у] **лю**цікі
[м’а] **мя**док
[л’о] **лё**таць
[з’і] **зі**маро́дак

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія галосныя гукі абазначаюцца літарамі ***е, ё, ю, я, і*** ў выдзеленых складах?
2. Якімі літарамі абазначаецца мяккасць зычных?
3. Якую ролю выконваюць літары ***е, ё, ю, я, і*** ў становішчы пасля зычных?

Літары ***е, ё, ю, я, і*** выконваюць на пісьме двайную ролю.

Пасля зычных яны абазначаюць адзін галосны гук [э], [о], [у], [а], [і] і мяккасць папярэдняга зычнага.

**208.** Прачытайце асобна словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я, і*** стаяць: 1) у пачатку слоў; 2) пасля галосных; 3) пас-

ля ***ў***; 4) пасля раздзяляльнага мяккага знака; 5) пасля апострафа.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| [й'э] | [й'о] | [й'у] | [й'а] | [й'і] |
| ежа | ёлка | юны | явар | імі |
| баец | прыём | думаю | маяк | краіна |
| шчаўе | салаўём | абаўю | салаўя | салаўі |
| лье | мільён | пальюю | мільярд | Ільін |
| з'ехаў | куп'ё | вераб'ю | з'ява | Мар'іна |

● Сфармулюйце вывад, у якіх выпадках галосныя ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць два гукі. Якія гэта гукі?

У пачатку слова, пасля галосных, ***ў*** (у нескладовага), раздзяляльнага мяккага знака і апострафа літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць два гукі, г. зн. спалучэнне зычнага гука [й'] з адпаведным галосным гукам: [й'э], [й'о], [й'у], [й'а], [й'і].

З а ў в а г а. Літара ***і*** ў пачатку слова абазначае два гукі толькі пад націскам.

**209.** Прачытайце. Назавіце гукі, якія абазначаны літарамі ***е, ё, ю, я, і***.

У ЯСНЫ ДЗЕНЬ

Яснасць сонца, лёгкі ветрык,
У паветры звон,
Пах ад жыта, пах ад кветак, —
Дзіўна ўсё, як сон.

Каля нас пяшчотна, ціха
Шэпчуць каласы,
А над намі льюцца срэбрам
Птушак галасы.

*Я. Журба.*

**210.** Запішыце тэкст пад дыктоўку. Вызначце яго асноўную думку.

Талент і праца. Яны з'яднаныя непарыўна, іх нельга разлучыць. Толькі разам яны могуць даць сапраўдны плён, бо адно без аднаго — бездапаможныя. Калі талент не падмацоўваецца працаю, ён драбнее, мізарнее і ўрэшце ператвараецца ў самы звычайны нуль *(Я. Сіпакоў)*.

Падкрэсліце ў словах літары ***е, ё, ю, я,*** якія абазначаюць 2 гукі [й'э], [й'о], [й'у], [й'а].

**211.** Прачытайце. Вымавіце гукі ў выдзеленых словах і назавіце літары, якімі гэтыя гукі абазначаюцца на пісьме.

ЛІПКА

Іх прывезлі з далёкага лесу. **Сваё** ўбранне дрэўцы пакінулі там, дзе нарадзіліся. І цяпер без лісця яны ляжалі перад нашым домам.

Вечарам людзі пачалі выбіраць лепшыя. Кожны хацеў **пасадзіць** перад сваім акном прыгажэйшае дрэўца.

Засталася адна танклявая ліпка з трошкі выгнутым ствалом. І ніхто не хацеў яе браць. Што сказала б **яна**, каб магла гаварыць? *(А. Пальчэўскі)*.

● Чаму ў гэтым тэксце тры абзацы?

● Як вы думаеце, што сказала б ліпка, каб магла гаварыць? Запішыце яе словы.

**212.** Выпішыце словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я*** абазначаюць два гукі.

1. Хто без навукі, той як бязрукі. 2. Салаўя песнямі не накорміш. 3. Шануй людзей, то і ця-

бе пашануюць. 4. Кожны сам сваёй долі каваль. 5. Хто арэ ды сее, той малоціць і вее. 6. Той патрыёт, хто змагаецца за народ. 7. Той не памыляецца, хто ад працы ўхіляецца. 8. Бацькоў любі, старых паважай, здароўе беражы, Айчыне верна служы.

● Як вы разумееце сэнс гэтых прыказак?

## § 29. Беларускі алфавіт. Назвы літар

**213.** Прадоўжыце сказы па прапанаваным пачатку.

1. Алфавіт — гэта ... . 2. Да слова *алфавіт* можна падабраць сінонім ... . 3. У слоўніках словы размешчаны па ... . 4. У алфавітным парадку запісваюцца ў класным журнале ... . 5. Кожнаму чалавеку трэба ведаць ... .

**214.** Прачытайце працяг фанетычнай казкі. Скажыце, як узніклі назвы *алфавіт* і *азбука*. Ці падзяляеце вы думку, што кожны павінен ведаць алфавіт?

Далёка разнеслася слава пра казачную краіну, у якой чараўнік навучыў гукі-невідзімкі пераўвасабляцца ў літары.

Аднойчы грэчаскія паслы Альфа і Віта і славянскія Аз і Букі папрасілі чараўніка пазнаёміць іх з літарамі.

Па камандзе чараўніка ўсе гукі апранулі свае адметныя сукенкі, пераўвасобіліся ў літары і накіраваліся на галоўную плошчу. Там кожная літара стала на сваё парадкавае месца. Госці віталіся з кожнай літарай, а тыя называлі свае імёны. Парад літар вельмі спадабаўся паслам. Альфа

і Віта далі яму назву Алфавіт, а Аз і Букі — назву Азбука.

Кожны, хто хоча ведаць таямніцы алфавіта, ці азбукі, павінен ведаць парадак літар *(Паводле В. Волінай)*.

**Алфавіт і назвы літар**

| А | Б | В | Г | Д | Е | Ё | Ж | З | І | Й | К | Л |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а | бэ | вэ | гэ | дэ | е | ё | жэ | зэ | і | і нескладовае | ка | эл |

| М | Н | О | П | Р | С | Т | У | Ў | Ф | Х | Ц | Ч |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| эм | эн | о | пэ | эр | эс | тэ | у | у нескладовае | эф | ха | цэ | чэ |

| Ш | Ы | Ь | Э | Ю | Я |
|---|---|---|---|---|---|
| ша | ы | мяккі знак | э | ю | я |

Усе літары, размешчаныя ў пэўнай паслядоўнасці, складаюць **алфавіт**, ці азбуку.

У беларускім алфавіце 32 літары: 10 — для абазначэння галосных гукаў і 21 — для абазначэння зычных. Літара ***ь*** (мяккі знак) гука не абазначае.

Гукі [д͡ж], [д͡з] абазначаюцца на пісьме спалучэннямі літар (***д*** і ***ж***, ***д*** і ***з***): ***ураджай, дзень***.

Апостраф (’) літарай не з’яўляецца.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія літары абазначаюць галосныя гукі, а якія — зычныя гукі? Назавіце спачатку літары галосных гукаў, а затым — літары зычных гукаў.

2. Якая літара не абазначае гука?

**215.** Прачытайце верш-жарт і перакладзіце яго на беларускую мову. Параўнайце тэксты і зрабіце вывад, якімі літарамі адрозніваюцца алфавіты беларускай і рускай моў. Назавіце гэтыя літары.

Щука в озере жила,
Щёткой дно она мела,
Борщ варила для друзей,
Угощала пескарей.
До крошки гости всё съедали.
Щуку дружно прославляли.

**216.** Вызначце, якія памылкі дапусціў вучань пры выкананні задання. Запішыце правільныя назвы літар і гукаў.

1. У слове *лістапад* 8 літар: «эль», «і», «эс», «ты», «а», «пэ», «а», «ды».
2. У слове *снежань* 6 гукаў: [эс], [н], [э], [ж], [а], [нь].

**217.** Прачытайце літары. Размясціце іх у алфавітным парадку і запішыце словы, якія ў вас атрымаліся.

р, а, ч, б, у — т, о, б, р
ы, е, л, б — і, н, б, т
ы, у, ц, б — ь, о, с, л
у, ь, ц, і, н, г — м, т, с, о

**218.** Прачытайце апавяданне, у якім усе словы пачынаюцца адной і той жа літарай. Назавіце гукі і літары ў выдзеленых словах.

Параска пякла пірог. Прыйшоў Піліп. «Параска, **прыгажуня**, пачастуй пірагом», — папрасіў

Піліп. Параска прыветліва паглядзела, потым пачаставала Піліпа. Піліп **паеў**, падзякаваў Парасцы, потым падумаў, пайшоў пагуляць, падыхаць паветрам, палюбавацца прыгажосцю прыроды, паслухаць песні птушак *(«Піянер Беларусі»)*.

● Паспрабуйце і вы скласці невялікі тэкст на якую-небудзь літару алфавіта.

**219.** Расшыфруйце запаветнае выказванне беларускага пісьменніка. Запішыце гэта выказванне і яго аўтара.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **г** | *сва* | **н** | *ін* | **ы** | *ка* | **э** | *ке* | **ў** | *дый* |
| **б** | *бі* | **й** | *і* | **т** | *дзе* | **л** | *кан* | **м** | *ца* |
| **о** | *шай* | **ш** | *у* | **з** | *да* | **ж** | *ад* | **і** | *на* |
| **ф** | *не* | **у** | *на* | **с** | *да* | **ч** | *на* | **х** | *пат* |
| **ь** | *рат* | **д** | *ю* | **п** | *нам* | **к** | *да* | **р** | *не* |
| **е** | *зям* | **ё** | *лю* | **в** | *це* | **а** | *лю* | **ю** | *віч* |
| **ц** | *рэб* | | | | | | | | |

● Зрабіце гукавы запіс першых трох слоў.

**220.** Спішыце. Зрабіце гукавы запіс першага сказа.

Перачытваю свае спартыўныя сшыткі. Успамінаю штодзённыя трэніроўкі, успамінаю самаадданага Паўла Васільевіча. Ён адкрыў для мяне не толькі спорт. Ён адкрыў мне вялікі свет, навучыў думаць, працаваць, верыць у сябе, перамагаць. Ад яго я ўпершыню пачула дзіўныя словы: «Духоўны свет чалавека — гэта імкненне да гармоніі ў самім сабе» *(Н. Тулупава)*.

● Прыкладам якіх відаў маўленчай дзейнасці можа быць гэты тэкст?

## § 30. Склад. Націск

**221.** Прачытайце ўголас (павольна) вершаваныя радкі. Запішыце, падзяляючы словы на часткі ў адпаведнасці з паўзамі пры іх вымаўленні.

Зіма. Снягі. Мароз. Завеі.
Дарога звонкая, як сталь,
Бярозы ў шэрані* сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.

*П. Глебка.*

● Як вымаўляюцца часткі слоў: плаўна ці асобнымі штуршкамі паветра?

У працэсе маўлення паветра выдыхаецца асобнымі штуршкамі.

Адзін або некалькі гукаў, якія вымаўляюцца адным штуршком паветра, утвараюць **склад:** *а-э-ра-дром, шко-ла, са-да-вод*.

У склад абавязкова ўваходзіць галосны гук, таму ў слове столькі складоў, колькі галосных гукаў: *дом, вё-ска, а-га-род, шэ-ра-во-кі*.

**222.** Прачытайце выразна вершаваныя радкі, а пасля запішыце іх, падзяляючы словы на склады.

Мы — тройчы дзеці ў вечным крузе:
Мы дзеці роднае сям'і,
Мы дзеці Маці-Беларусі,
І дзеці Матухны-Зямлі.

*Н. Гілевіч.*

● Растлумачце сэнс вершаваных радкоў.

**223.** Рашыце граматычныя задачы і вызначце, якія словы пачынаюцца з наступнага склада. Напішыце гэтыя словы, падзяляючы іх на склады.

БУ +
- невялікі, часцей лісцёвы лес = ?
- той, хто жыве, адпачывае на дачы = ?
- музычны гук = ?
- чалавек аднолькавага ўзросту з кім-небудзь = ?
- расліна, са сцяблоў якой атрымліваецца валакно = ?

**224.** Падбярыце і запішыце такія словы, склады якіх можна памяняць месцамі, каб атрымалася іншае слова.

Узор: *ска-ла — ла-ска.*

**225.** Прачытайце тэкст выразна. Скажыце, ці з аднолькавай сілай голасу і працягласцю вымаўляецца кожны склад у словах.

Клён да сіняй шыбы туліць
Залатую галаву.
Маці, добрая матуля,
Думкай аб табе жыву.

*І. Калеснік.*

● Спішыце, падзяляючы словы на склады. Падкрэсліце тыя склады, якія вымаўляюцца з большай сілай голасу і працягласцю.

Вымаўленне аднаго са складоў слова з большай сілай голасу і працягласцю называецца **націскам.** Галосны гук, на які падае націск, і склад з гэтым галосным гукам называюцца **націскнымі.** Астатнія галосныя гукі ў слове і склады з імі **ненаціскныя.**

**226.** Прачытайце радкі з верша П. Панчанкі «Аснова» і вызначце іх асноўную думку. Назавіце націскныя склады ў выдзеленых словах. Скажыце, на якім складзе ад пачатку слова можа быць націск.

Каб стаць **чалавекам**
У час наш суровы,
**Помні жыцця** асновы:
Гавары, як **вучыла** маці,
Рабі, як вучыў бацька,
Жыві, як добрыя **людзі**,
Усё, на што здольны,
Зрабі для **Радзімы**.

**227.** Спішыце, пастаўце націск у словах. Першы склад перад націскам абазначце лічбай 1, другі — лічбай 2 і г. д. Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

У з о р: *сінявóчка* (2 — «ня», 1 — «вó»).

Л**я**снік, л**е**снічоўка, н**я**ясны, н**е**спадзявана, пас**ё**лак, пас**я**лковы, распіл**о**ўка, распіл**а**ваць.

● Са словам *пасёлак* складзіце і запішыце просты развіты сказ. Падкрэсліце галоўныя члены сказа.

**228.** Спішыце. Пастаўце націск у словах, якія аднолькава пішуцца. Растлумачце іх значэнне і скажыце, што дапамагае адрозніваць сэнс такіх слоў.

Барсукі ў глыб нары,
Баючыся кары,
Нацягалі шмат кары
І зрабілі нары.
*Н. Гілевіч.*

**229.** Спішыце, падзяляючы словы на склады. Пастаўце націск у словах і зверце з арфаграфічным слоўнікам.

Адзінаццаць, артыкул, беларусы, дагавор, дакумент, камбайнер, квартал, кіламетр, крапіва, малы, некаторы, стары, таварышы.

● З трыма словамі (на выбар) складзіце і запішыце простыя сказы. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

## § 31. Правілы пераносу слоў

**230.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс гэтых радкоў? Запішыце выдзеленыя словы, падзяляючы іх для пераносу.

**Ступайце** цвёрда па **зямлі,**
мацуйце мір, **сяброўства,** згоду,
ды помніце, адкуль **прыйшлі,**
з якой зямлі, з якога роду,
хто вас **расціў,** хто гадаваў
і хто паставіў вас на ногі.

*Х. Жычка.*

**231.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак.

З аднаго радка на другі словы пераносяцца па складах: *да-рога, даро-га, ра-ён, па-мяць.* Але падзел слова на склады і для пераносу не заўсёды супадаюць. Таму пры пераносе слоў трэба кіравацца наступнымі правіламі:

1) калі ў сярэдзіне слова паміж галоснымі ёсць спалучэнне зычных, то пераносіцца на наступны радок або ўсё гэтае спалучэнне, або любая яго частка. Можна пераносіць: *ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; пту-шка, птуш-ка; ра-скрыць, рас-крыць, раск-рыць; кало-ссе, калос-се;*

2) адна літара не пераносіцца і не пакідаецца (хоць яна і ўтварае склад): *аса-лода, ар-мія*;

3) не раздзяляюцца пры пераносе спалучэнні літар ***дж*** і ***дз,*** калі яны абазначаюць адзін гук [дж], [дз]: *дагле-джаны, ра-дзіма*. Спалучэнні ***дж*** і ***дз*** могуць раздзяляцца пры пераносе, калі ***д*** адносіцца да прыстаўкі, а ***ж, з*** — да кораня: *пад-жарыць, ад-звінець*;

4) не аддзяляюцца ад папярэдняй галоснай літары ***й, ў,*** а ад папярэдняй зычнай — ***ь*** і ***апостраф***: *чай-нік, бавоў-на, міль-ён, аб'-язджаць*;

5) у складаных словах кожная іх частка пераносіцца згодна з правіламі пераносу асобных слоў: *се-наўборка, сена-ўборка, сенаўбор-ка, сенаўбо-рка*.

● Перакажыце першы пункт тэксту.

● Праверце, ці адпавядае ваш падзел слоў для пераносу (практ. 230) гэтым правілам.

● На кожны пункт правілаў прывядзіце свае прыклады і запішыце іх.

**232.** Прачытайце тэкст. Скажыце, да каго звернуты гэтыя словы і што яны сцвярджаюць, у чым пераконваюць.

**Вялікія паэты назаўсёды застаюцца** з народам. Яны зліваюцца з ім, каб увесь час быць побач і з яго радасцю, і з яго горам. Яны — вечныя. Такі і Янка Купала, чалавек, што сярод нямногіх **дастойных** атрымаў з рук свайго народа неўміручасць.

Шчаслівы народ, які мае такога паэта. Шчаслівы і паэт, які мае такі народ *(Я. Сіпакоў)*.

● Назавіце сродкі сувязі паміж сказамі ў гэтым тэксце.

● Запішыце выдзеленыя словы, падзяляючы іх: 1) на склады; 2) для пераносу. Ці супадае падзел слоў на склады і для пераносу?

**233.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне «Пра што гэты тэкст?» адным сказам. Выдзеленыя словы вусна падзяліце для пераносу. Што вы ўлічвалі пры іх падзеле? Чаму нельга пераносіць словы *яго, усе, свае*?

Першы верш Янка Купала напісаў у 1902 годзе і **прысвяціў** яго **імянінам сястры** Леакадзіі. Пазней ён пачаў больш пісаць на розныя тэмы. Цудоўная беларуская прырода, жыццё простых людзей, іх песні і казкі **натхнялі** маладога Купалу, **будзілі** жаданне **ўзяцца** за пяро, **паспрабаваць** выразіць свае пачуцці ў вершах *(Паводле К. Камейшы, М. Мятліцкага)*.

**234.** Складзіце і запішыце дыялог па сітуацыі: вы хочаце больш даведацца пра жыццё Янкі Купалы і прыйшлі ў бібліятэку. Пра што вы будзеце гаварыць? Якія пытанні будзеце задаваць бібліятэкару і што ён можа адказаць на іх?

**235.** Прачытайце тэкст. Скажыце, чаму ў ім чатыры абзацы. Складзіце просты план і напішыце пераказ.

ЖАВАРАНАК

Аднойчы ў поўдзень я стаяў на ўзгорку і глядзеў у неба. У залатым паднябессі, паважна махаючы крыламі, ляцеў каршун. Ён лунаў* высока-высока і нібы глядзеў на мяне.

Вось ад самай зямлі з песняй пачаў узнімацца жаваранак. Срэбны званочак падымаў сваю песню вышэй і вышэй. А каршун застыў на месцы. Я затаіў дыханне і глядзеў.

Раптам каршун кінуўся ўніз. Я страціў жаваранка з вачэй. А драпежнік, як маланка, рассёк паветра, кінуўся ўбок, яшчэ ўбок, потым прыпаў

да зямлі. Я аслупянеў. Каршун ляцеў на мяне. І тут я заўважыў, як спераду ў яго ляціць, кідаецца ў бакі шэры камячок. Я аж уздрыгнуў, калі ён, як куля, шмыгнуў мне пад крысо*.

Так хутка, смела і даверліва знайшла сабе птушка схованку! *(Паводле І. Грамовіча)*.

**236.** Прачытайце. Як вы разумееце выказванне пісьменніка пра беларускае слова. Спішыце, падзяляючы словы трэцяга сказа для пераносу.

Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор. І гэты твор — мова. Беларуск**ае** слова стала маім спадарожнікам на абсягах жыцця і спазнання. Яно выбрала мяне, я выбраў яго. І я ведаю, што яно здольна ісці да самых далёкіх рубяжоў сусвету. Здольна пранікаць у самую с**а**рцавіну з'яў і адкрываць самыя патаемн**ыя** скарбы рэчаіснасці *(А. Разанаў)*.

● Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

## § 32. Знаёмства з тыпамі маўлення: апавяданне, апісанне, разважанне (прызначэнне і будова)

**237.** Прачытайце тэксты. Скажыце, змест якога тэксту складаюць пэўныя падзеі, якога — пэўныя прыметы прадмета, а якога — думка і яе доказ, разважанне.

I. Аднойчы Марыя і Стась прынеслі дамоў маладую галку і назвалі яе дзявочым імем Галюня.

Дзеці забаўляліся з птушкай. Яны пускалі яе лятаць. І Галюня апраўдвала давер: далей суседняга дома не адлучалася.

Але вось Марыя са Стасем пайшлі ў школу. Увачавідкі птушка засумавала. Цэлымі днямі яе не відаць на падворку.

Затое якая вялікая радасць, калі вяртаюцца сябры. Галка адгукаецца на сваё імя. Садзіцца на плячо Марыі ці Стася, есць з рук *(«Звязда»)*.



II. Самая маленькая птушка Беларусі — жоўтагаловы каралёк. Апярэнне ў яго на спіне шаравата-зялёнае, брушка светла-шэрае. На крылах па дзве белыя палоскі. На галаве жоўта-аранжавы чубок. *(П. Сабіна)*.

*увача́відкі*

III. Шмат на Беларусі ёсць вёсак з крыху загадкавай назвай — Рудня. А чаму менавіта Рудня? Што хаваецца за гэтай назвай? Мо пайшла яна ад слова «руда»? Здарылася ж так каля Рэчыцы: зусім побач з вёскай Гарывада знайшлі нафту. І хто ведае, можа, калісьці нашы продкі бачылі тут гэтую самую «гаручую ваду» і вёску сваю назвалі так *(М. Шыманскі)*.

У залежнасці ад зместу выказвання вызначаюцца розныя тыпы маўлення: апавяданне, апісанне і разважанне.

**Апавяданне** — гэта такі тып маўлення, у якім расказваецца пра якія-небудзь падзеі, дзеянні, учынкі, здарэнні. Да яго можна паставіць пытанне *як гэта было?*

**Апісанне** — гэта тып маўлення, у якім пералічваюцца прыметы ці ўласцівасці якога-небудзь прадмета або з'явы. Да яго можна паставіць пытанне *які прадмет, з'ява?*

**Разважанне** — гэта тып маўлення, у якім выказваецца пэўная думка (тэзіс) і даецца яе доказ ці тлумачэнне. Да яго можна паставіць пытанне ч а м у?

**238.** Азнаёмцеся з табліцай «Тыпы маўлення». Скажыце, колькі структурных частак звычайна выдзяляецца ў апавяданні, апісанні і разважанні. Пра што ў кожнай з гэтых частак гаворыцца?

**Тыпы маўлення**

| | |
|---|---|
| Апавяданне | 1. Пачатак дзеяння.<br>2. Развіццё дзеяння (якія падзеі адбываюцца ў часе).<br>3. Заканчэнне дзеяння |
| Апісанне | 1. Уражанне ад прадмета.<br>2. Пералік прымет, уласцівасцей прадмета.<br>3. Агульная ацэнка |
| Разважанне | 1. Асноўная думка (тэзіс).<br>2. Тлумачэнне з’яў (аргументы, доказы).<br>3. Вывад |

● Як вы думаеце, для чаго неабходна ведаць усе тры тыпы маўлення?

Адказ можна пачаць прыкладна так: *Калі я хачу... Калі неабходна...*

**239.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Каму ён адрасуецца і з якой мэтай? Да якога тыпу маўлення ён адносіцца?

Хто любіць і шануе красу зямлі, той абавязкова бывае і шчырым яе абаронцам.

Чалавеку, які ўлюбёны ў свой край, дорага ўсё. Дораг свіст тоненькай травінкі пад схаваным між купін птушыным гняздом. Дораг усплёск рыбіны па вадзе сцішанага возера. Кожная такая, нават нязначная, дэталь прыроды нагадвае яму аб вялікім, дарагім, непаўторным, што завецца роднай зямлёй.

І трэба берагчы красу зямлі, бо без яе не будзе Радзімы, не будзе чалавека *(Паводле К. Кірэенкі)*.

● Вызначце будову (кампазіцыйныя часткі) тэксту: выказаная думка, абгрунтаванне (доказ) гэтай думкі, вывад.

**240.** Прачытайце. Дакажыце, што гэты тэкст — апісанне. Якім тыпам маўлення вы карысталіся пры доказе сваёй думкі?



Сойка — прыгожая птушка.

Апярэнне ў яе ружова-попельнае. Канцы крылаў і хвост **цёмныя**, падхвосце — белае. На галаве натапыраны чубок. На шчоках пад вачыма чорныя лапікі. На крылах дзівосныя ярка-блакітныя **люстэркі.**

Сойка — адна з самых прыгожых лясных птушак.

● Зрабіце гукавы запіс выдзеленых слоў.

**241.** Прачытайце пачатак трох тэкстаў. Да якога тыпу маўлення можна аднесці кожны з іх? Дакажыце.

І. Саша — мой лепшы сябар. У яго цёмныя вочы і светлыя валасы з віхрамі на патыліцы...

II. Аднойчы выйшлі мы з Сашам пагуляць. Недалёка ад вёскі ў хмызняку заўважылі маленькую бездапаможную казулю. Маці каля яе не было...

III. У мяне ёсць сябар. Гэта Саша — мой аднакласнік. Я вельмі паважаю яго. І вось чаму...

● Складзіце і запішыце тэкст па дадзеным пачатку (на выбар).

**242.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Ці адпавядае размяшчэнне яго сэнсавых частак тыповай схеме тэкстаў гэтага тыпу маўлення?

Варта толькі промню св..тла ўпасці на крышталік, як ён пачынае незвычайна св..ціцца, пер..лівацца ўсімі колерамі в..сёлкі. Дзесьці ў гл..біні яго ўспыхваюць і мігаюць сінія, ч..рвоныя, жо..тыя, з..лёныя іскрынкі. Гэты мінерал нібы ўвабраў у сябе і ззянне сонца, і свежасць ранішняй расы, і блакіт б..здоннага неба.

Празрысты алмаз — незвычайны прыродны самацвет.

Гэты празрысты, быццам кропелька крынічнай вады, алмаз — сапраўдны кароль самацветаў *(Паводле А. Чаркасава)*.

● Размясціце часткі адпаведным чынам і спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары.

**243.** Прачытайце. Такі тэкст даслала ў рэдакцыю газеты «Раніца» вучаніца 5 класа Наташа Кашко. Ці можна яго назваць апавяданнем?

Аднойчы я пайшла ў грыбы. Стаяў ясны цёплы дзянёк.

Мне пашанцавала: то тут, то там пазіралі на мяне хітранькія лісічкі, паважныя баравікі, весялухі-апенькі. Я доўга хадзіла, збіраючы грыбы.

У маладым ельнічку пры дарозе ўбачыла вожыка. Пачала назіраць за лясным жыхаром. На спіне ў яго «сядзелі» два грыбкі. І тады я ціхенька дастала з кошыка два баравічкі і паклала іх у траву: «Бяры, вожык, грыбы, зімуй спакойна».

Дамоў я вярталася ў цудоўным настроі.

**244.** Напішыце сачыненне-апавяданне пра які-небудзь выпадак са свайго жыцця.

## § 33. Галосныя гукі

**245.** Вымавіце гукі выразна.

[м] — [а]      [ш] — [у]      [т] — [і]

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пры вымаўленні якіх гукаў паветра свабодна праходзіць праз поласць рота і чуецца голас?

2. Як называюцца гэтыя гукі і чаму яны атрымалі такую назву?

Гукі мовы, пры вымаўленні якіх паветра свабодна праходзіць праз поласць рота і чуецца голас пры амаль поўнай адсутнасці шуму, называюцца **галоснымі.**

У беларускай мове 6 галосных гукаў: [а], [о], [у], [ы], [і], [э].

**246.** Прачытайце словы. Вызначце ў кожным з іх галосны гук і запішыце паводле ўзору, якой літарай ён абазначаецца на пісьме.

У з о р: *лёс* — [о], *ё*.

шпак — ... лён — ...
слон — ... люк — ...
луг — ... міг — ...
мыс — ... пяць — ...
мэр — ... медзь — ...

● Колькі галосных гукаў і літар у беларускай мове?

● Якімі літарамі могуць абазначацца галосныя гукі і ад чаго гэта залежыць?

**247.** На кожны галосны гук запішыце па два словы, якія пачынаюцца з гэтага гука.

● Слоў з якім пачатковым галосным гукам няма ў беларускай мове, а з якімі сустракаюцца словы ў абмежаванай колькасці?

**248.** Устаўце ў словы магчымыя галосныя літары і ў дужках пасля кожнага слова пакажыце, які гук яны абазначаюць.

1. Сл..ва, с..рок, св..та, ст..дыя, сц..жка.
2. Л..йка, л..ска, лас..ха, л..жня, л..скаць.
3. М..дны, м..рны, м..мант, м..та, м..ць.

● Са словамі аднаго рада складзіце і запішыце розныя па мэце выказвання сказы.

**249.** Прачытайце і дайце загаловак тэксту. Спішыце і падкрэсліце словы, у якіх усе галосныя гукі толькі [о] і [а] або толькі [а].

Каму з вас даводзілася бачыць увосень рабіну побач з елкай? Якое гэта ўражлівае відовішча: цёмна-зялёная елка і на яе фоне чырвоная ў яга-

дах рабіна! Цяжка адвесці вочы ад гэтай гармоніі колераў. Здаецца, глядзеў бы і глядзеў бы на гэты цуд прыроды *(Р. Ігнаценка)*.

● Знайдзіце слова, у якім гукаў у два разы больш, чым літар.

**250.** Замяніце ў прыведзеных словах адзін галосны гук іншым, каб атрымалася новае слова. Запішыце гэтыя словы парамі.

У з о р: *дом — дым.*

Грым, каліна, леска, рака, слава, чысты.

● З двума словамі (на выбар) складзіце і запішыце развітыя сказы, падкрэсліце граматычную аснову.

**251.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Запішыце першы сказ, падзяляючы словы на склады. Вымавіце словы па складах і скажыце, у якіх складах (націскных ці ненаціскных) галосныя гукі вымаўляюцца больш выразна і працяжна.

Сцяжыны маленства ў жыцці чалавека і ў яго памяці займаюць адметнае месца. З далёкіх ростаняў* і блізкіх паўстанкаў пры першай жа магчымасці ён абавязкова вяртаецца да іх. Там і неба здаецца вышэйшым, і далягляды шырэйшымі. А сама душа адчувае тую свабоду і вольнасць, калі хочацца абняць і адчуць увесь свет *(Паводле А. Марціновіча)*.

● Якімі літарамі абазначаюцца галосныя гукі [а], [о], [у], [ы], [і], [э]? Прывядзіце прыклады з тэксту.

**252.** Прачытайце верш і вызначце яго тэму. Спішыце і ў кожным слове падкрэсліце літары, што абазначаюць галосныя гукі, на якія падае націск.

Жытнёвы пах і дух палынны,
Лугоў мядункавыя* сны,
Як старадаўнія быліны —
Каля дарогі валуны.

І шэпт лісцця, і веліч неба,
Дзе жніўны жаўранак звініць...
Мне без Радзімы, як без хлеба,
На белым свеце не пражыць.

*З. Марозаў.*

## § 34. Вымаўленне і правапіс галосных *о, э, а*

**253.** Прачытайце прыведзеныя пары слоў і скажыце, па якой прымеце яны размеркаваны на два слупкі.

| ***о — а*** | ***э — а*** |
|---|---|
| г**о**лас — г**а**ласы | р**э**кі — р**а**ка |
| з**о**лата — з**а**латы | стр**э**хі — стр**а**ха |
| р**о**сы — р**а**са | тр**э**сці — тр**а**суць |
| зв**о**н — зв**а**нок | др**э**ва — др**а**ўляны |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як вымаўляюцца гукі [о], [э] пад націскам? Якімі літарамі яны абазначаюцца на пісьме?

2. Які гук вымаўляецца не пад націскам на месцы гукаў [о], [э]? Якая літара пішацца замест літар ***о, э***, калі націск пераходзіць на іншы галосны?

Літары ***о, э*** звычайна пішуцца пад націскам і абазначаюць гукі [о], [э]: *го́луб, ко́лас, сэ́рца, жэ́мчуг, майстэ́рня, капэ́ла, маянэ́з, купэ́, кафэ́, кашнэ́, Мерымэ́, Душанбэ́;* а л е: ***філе́, камюніке́, піке́.***

Незалежна ад паходжання слова гук [о] не пад націскам пераходзіць у гук [а], і тады замест літары ***о*** пішацца літара ***а***: *галубы́, каласы́, тры́а, сальфе́джыа, Ватэрло́а, То́кіа.*

Не падпарадкоўваюцца гэтаму правілу словы з ***ро, ло,*** якія чаргуюцца з ***ры, лы***: *кроў — крыві́ — крыва́вы, гром — грымо́ты — грыме́ць, дро́вы — дрыво́тня, брод — брысці́, гло́тка — глыта́ць, кро́шка — крышы́ць, бло́хі — блыха́, дро́ма — дрымо́та.*

У словах славянскага паходжання і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў, у тым ліку ва ўласных імёнах, гук [э] не пад націскам пераходзіць у [а] і пішацца літара ***а***: *рэ́кі — рака́, шэ́ры — шарэ́ць, арэ́нда — аранда́тар, лі́тара, Чарні́гаў, Чалю́скін, Жамчу́жнікаў.*

**254.** Змяніце словы ці падбярыце аднакаранёвыя, каб у іх на месцы націскнога [о] ці [э] з'явіўся ненацiскны [а]. Запішыце словы парамі.

| | |
|---|---|
| жоўты — ... | звон — ... |
| жолуд — ... | голас — ... |
| спрэчка — ... | рэдкі — ... |
| стрэл — ... | сэрца — ... |

● Ад чаго залежыць напісанне літар ***о, э*** ці ***а***?

***самацве́т***

**255.** Прачытайце. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Янка Купала вельмі любіў Ляўкі за іх асабліву́ю прыг**а**жосць. Ён часта х**а**дзіў на бераг Дняпра. Плытаг**о**ны пелі песні, якія д**о**ўга несліся над в**о**дамі, рэхам адгукваліся ў б**а**ры. Цэлымі днямі б**о**р нап**а**ўняўся птушыным шчэбетам. Н**о**ччу і раніцай увесь прастор аж др**ы**жаў ад салаўінага спеву *(У. Луцэвіч)*.

**256.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

Цікавых прафесій многа... Хіба кепска стаць лётчыкам, або вадалазам, або ге..лагам? Але калі дзядзька Грыша пракаціў Саньку на сваёй н..венькай легкавушцы, хл..пчык вырашыў стаць ш..фёрам *(Паводле С. Міхальчука)*.

● Як вы думаеце, якая размова адбылася перад тым, як дзядзька Грыша пракаціў Саньку на сваёй легкавушцы? Складзіце і запішыце дыялог.

**257.** Прачытайце і скажыце, у якіх словах гук [э] вымаўляецца не пад націскам.

***гео́лаг***

***шафёр***

тэма — тэматыка ветэран
цэнтр — цэнтральны эпоха

У пачатку запазычаных слоў гук [э] не пераходзіць у [а]. У такіх словах у адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем пішацца літара **э**: ***экза́мен, эсэ́, элеме́нт***. Пры гэтым літара **э** захоўваецца пасля прыставак і ў другой частцы складанага слова: *пра**э**кзаменаваць*, *двух**э**лементны*.

Пасля гукаў [ж], [ш], [дж], [ч], [р], [д], [т] і цвёрдага [ц] пішацца ***э***: *жэлацін, чэмпіён, шэдэўр, рэспубліка, тэніс, ордэн, цэлафан*.

Пасля іншых зычных напісанне ***э*** і ***а*** вызначаецца па слоўніку: *панэль, тунэль*, а л е *шынель*.

Ненаціскныя ***-эль, -эр*** у канцы запазычаных слоў перадаюцца як ***-аль, -ар:*** *шніцаль, грэйдар**, *камп'ютар*. Але ва ўласных запазычаных імёнах ***-эль, -эр*** перадаюцца нязменна: *Ландэр, Одэр, Юпітэр*.

**258.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс. Назавіце гукі і літары ў выдзеленых словах.

1. Ч..мпіён узняўся на п'ед..стал* і пакланіўся ўсім чатыром трыбунам *(«Звязда»)*. 2. Цікава праходзяць заняткі па інфарматыцы ў камп'ют..рным класе. 3. Увагу Сушко прыцягнула **маленькая** каляровая р..прадукцыя* *(А. Савіцкі)*. 4. Зала апладысментамі праводзіла тры.. баяністаў *(«Культура»)*. 5. Цімошка быў і р..жысёрам, і выканаўцам самых **адказных** роляў *(У. Краўчанка)*.

**259.** Перакладзіце словы на беларускую мову і запішыце. Растлумачце іх напісанне.

Железо, жетон, репертуар, телебашня, ордер, глоток, лидер, крошить, реактор, сердечный, опера, панель, джемпер, адажио, аутсайдер.

## § 35. Вымаўленне і правапіс галосных *е, ё, я*

**260.** Спішыце, падзяляючы словы на склады. Пастаўце націск і абазначце склады перад націскам паводле ўзору.

Узор: *зе-ля-ні́-на* (2 — зе, 1 — ля).

| | | |
|---|---|---|
| вёсны | лес | вецер |
| вясна | лясны | вятры |
| веснавы | лесавік | вецярок |

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Калі ў слове пішацца літара ***ё***?
2. У якім складзе перад націскам замест літар ***ё, е*** пішацца літара ***я***?

У беларускай мове літара ***ё*** пішацца толькі пад націскам: *вёска, вясёлка, цёмны*.

Не пад націскам ***ё*** пішацца толькі ў словах з коранем ***ёд-*** і ***ёт-***: *ёдафо́рм**, *ётава́ны**.

У першым складзе перад націскам замест ***е, ё*** пішацца літара ***я***: *ве́цер — вятры́, вёска — вясковы, вясёлы — весяло́сць, дзе́вяць — дзявя́ты, дзе́сяць — дзяся́ты, сем — сямна́ццаць, во́сем — васямна́ццаць*.

У іншых ненаціскных складах літара ***е*** захоўваецца: *вецяро́к, ве́села, дзесятко́вы, дзевятна́ццаты*.

У некаторых словах каранёвая літара ***я*** пішацца нязменна незалежна ад націску: *вяза́ць, су́вязь, по́вязь, кля́тва, ме́сяц, свя́та, святкава́ць, ты́сяча, цягні́к, ядло́вец, ядлаўцо́вы, яскра́вы, ярына́, Бе́сядзь, Пры́пяць*. Напісанне такіх слоў неабходна запамінаць.

**261.** Спішыце, падзяляючы словы на склады. Пастаўце націск і абазначце лічбамі склады перад і пасля націску. Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

1 2 1 1 1

У з о р: *снег — сня-жо́к — сне-га-ві́к — пад-сне́ж-нік.*

**Зелень, зялёны, пазелянец, зеленаваты; лес, ляснік, лесніка, лесніковы; пасёлак, пасялковы; цёмны, цямнець, цемнаваты, зацемна; светлы, святлейшы, засветла; белы, бяліць, выбелены.**

● Назавіце гукі і літары ў першых двух словах.

**262.** Прачытайце словы і назавіце першы склад перад націскам.

Аперацыя, Геракл, герой, Егіпет, Еўропа, кераміка, легенда, медаль, Неапаль, пейзаж, селекцыя*.

У запазычаных словах у першым складзе перад націскам літара ***е*** заўсёды захоўваецца пасля ***г, к, х,*** у тым ліку і ва ўласных імёнах: ***геро́й, гекта́р, кефі́р, кера́міка, Гера́сім, Херсо́н.***
У іншых запазычаных словах літара ***е*** пішацца незалежна ад націску, у тым ліку і ў пачатку слова: ***газе́та, меда́ль, перспекты́ва, серві́з, е́гер, е́рась, Еўфра́т, Везу́вій, Бетхо́вен.***

**263.** Напішыце словы па-беларуску і пастаўце націск. Растлумачце напісанне ***е, я***.

Берёзовый, лебеда, лекторий*, лесной, медаль, европейский, метро, неудача, песок, село, снегопад, спектакль, плеяда*.

А л е:
***каляnда́р***
***сяржа́нт***

**264.** Прачытайце словы. Складзіце з імі сказы, запішыце іх і растлумачце правапіс літары ***е***. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

Абеліск, сеанс, калектыў, гербарый, легенда, герой.

**265.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

С..броўства — духоўная кат..горыя, арыенцір у адносінах паміж людзьмі. С..броўства, якое пабуд..вана на агульнасці інт..рэсаў, пашане, узаемным д..веры, нап..ўняе жыццё ч..лавека с..нсам. Яно д..рыць яму шчаслівыя хвіліны. Шчырая, ц..плая дружба, пран..сеная праз усё жыццё, яго радасці і н..годы, ачышчае і сагр..вае душу, напаўняе яе св..тлом, загартоўвае характ..р *(«Звязда»)*.

**266.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс. Пры неабходнасці выкарыстайце арфаграфічны слоўнік.

Кожны т..атральны с..зон у Нацыянальным акад..мічным т..атры імя Янкі Купалы пачынаецца славутай «Паўлінкай». Гэты сп..ктакль купалаўцы паказалі гл..дачам ужо больш за тыс..чу разоў. «Паўлінка» ўвайшла ў з..латы фонд сусветнага сц..нічнага мастацтва. Ёй суджана стр..чаць новыя і новыя пакаленні гл..дачоў, расказваць вяс..лую і ў той жа час сумную гісторыю з народнага жыцця *(К. Камейша, М. Мятліцкі)*.

● Якія галосныя гукі, страціўшы націск, ператвараюцца ў іншыя гукі?

## § 36. Вымаўленне і правапіс спалучэнняў *іё (ыё)*, *ія (ыя)*, *іе (ые)* у запазычаных словах

**267.** Прачытайце выразна запазычаныя словы і скажыце, якімі спалучэннямі галосных перадаюцца ў рускай і беларускай мовах спалучэнні ***io, ia, ie***. Ці адпавядае напісанне гэтых слоў іх вымаўленню?

| | | |
|---|---|---|
| акс**ио**ма | акс**іё**ма | [ій'о] |
| патр**ио**т | патр**ыё**т | [ый'о] |
| п**ио**нер | п**ія**нер | [ій'а] |
| аж**ио**таж | аж**ыя**таж | [ый'а] |
| ав**иа**ция | ав**ія**цыя | [ій'а] |
| д**иа**лог | д**ыя**лог | [ый'а] |
| кл**ие**нт | кл**іе**нт | [ій'э] |
| ор**ие**нтация | ар**ые**нтацыя | [ый'э] |

Беларускай мове не ўласціва ў межах слова спалучэнне галосных гукаў, таму ў большасці запазычаных слоў пры іх вымаўленні паміж галоснымі ўзнікае гук **[й']**. На пісьме гэтыя спалучэнні перадаюцца:

***io*** — праз ***іё (ыё)*** пад націскам і ***ія (ыя)*** не пад націскам: *б**іё**лаг, патр**ыё**т; б**ія**ло́гія, патр**ыя**ты́зм*;

***ia*** — праз ***ія (ыя)*** незалежна ад націску: *ав**і́я**цыя, ав**ія**цы́йны, д**ы́я**метр, д**ыя**метра́льны*;

***ie*** — праз ***іе (ые)*** незалежна ад націску: *гіг**іе́**на, д**ые́**та, гіг**іе**ні́чны, д**ые**ты́чны*.

**268.** Прачытайце і растлумачце правапіс спалучэнняў галосных у выдзеленых словах.

1. Вялікі беларускі гуманіст-**патрыёт** Францыск Скарына завяшчаў нам захоўваць і абараняць сваю

чалавечую і **нацыянальную** годнасць *(«ЛіМ»)*. 2. **Мірыяды*** пушынак з таполяў у празрыстым паветры плывуць *(С. Басуматрава)*. 3. Паэтычныя казкі Уладзіміра Дубоўкі — **дыяменты*** народнай мудрасці *(С. Грахоўскі)*. 4. «Хачу быць **іхтыёлагам***», — прамовіла дзяўчынка *(«Бярозка»)*.

**269.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс слоў з гэтымі літарамі.

Гэта было ў 1934 годзе. Я выконваў напісаныя мною вар..цыі* для фартэп..на на беларускую народную т..му. У перапынку да мяне падышоў Янка Купала.

— Скажыце, як гэта можна на пр..стую п..сню зрабіць такія р..зныя, складаныя вар..цыі?

Янка Купала быў ч..лавекам в..лікай культуры: інт..лігентам, markpoзнабакова адукаваным. Я імкнуўся яму расказаць пра кампазітараў: Б..тховена, Берліёза, Глінку, які не меў нават спец..льнай музычнай адукацыі *(Паводле А. Багатырова)*.

**270.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя спалучэнні літар. Растлумачце іх напісанне.

1. Пакланюся баст..нам Брэсцкай крэпасці суровай, гераічныя імёны ўспомню светлым, шчырым словам *(П. Панчанка)*. 2. Два пакойчыкі адведзены пад бібл..тэку *(А. Кулакоўскі)*. 3. У парку шмат дзяцей: вабяць разнастайныя атракц..ны* *(«Звязда»)*. 4. Тут расла чараўніца-ф..лка *(І. Грамовіч)*. 5. Зоська вельмі захапілася б..логіяй *(«Раніца»)*. 6. Вераніка ўмела іграць на п..ніна *(І. Навуменка)*. 7. Трымалася вавёрка велічна, грац..зна *(У. Мяжэвіч)*. 8. Неба нейкае ф..летавае і гэткага ж колеру кусты ядлоўцу *(А. Савіцкі)*.

**271.** Уважліва разгледзьце малюнкі і паводле іх напішыце сачыненне-мініяцюру. Выкарыстайце, па магчымасці, словы са спалучэннямі галосных.











**272.** Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову. Запішыце і падкрэсліце спалучэнні галосных у запазычаных словах.

Лесная фиалка, интересный материал, миниатюрный телефон, знаменитый биолог, грациозный олень, проявить инициативу, красные гладиолусы, юный энтузиаст, четырёхструнная виолончель, пятнистая гиена.

# Тлумачальны слоўнік

**Альта́нка,** -і, *ж.* Летняя паркавая або садовая пабудова для адпачынку.

**Антыпо́д,** -а, *м.* Чалавек, процілеглы каму-небудзь па перакананнях, густах, уласцівасцях.

**Атракцыён,** -а, *м.* Прыстасаванне для забавы ў парках (карусель, гушкалка і інш.).

**Барав́іна,** -ы, *ж.* Малады сасновы лес.

**Ба́рва,** -ы, *ж.* Густа-чырвоны колер.

**Барво́вы,** -ая, -ае. Густа-чырвоны, пурпуровы.

**Басано́ж,** *прысл.* Босымі нагамі, без абутку.

**Блаќіт,** -у, *м.* 1. Светла-сіні колер. 2. Чыстае, яснае неба.

**Валу́н,** -а, *м.* Вялікі акруглы камень — абломак скалы, прынесены ледніком.

**Варыя́цыі,** -ый, *мн.* (*адз.* варыяцыя, -і, *ж.*). Музычны твор, што ўяўляе сабой варыянты і распрацоўкі асноўнай тэмы ў розных відазмяненнях. *Варыяцыі на народныя тэмы.*

**Вя́зень,** -*зня, м.* Той, хто знаходзіцца пад стражай, зняволены.

**Гай,** -ю, *м.* Невялікі, часцей лісцёвы лес.

**Грэ́йдар,** -а, *м.* Машына для рыцця канаў, выраўноўвання палатна грунтовых дарог.

**Дыяме́нт,** -а, *м.* Алмаз (спецыяльна агранены), брыльянт.

**Зажу́раны,** -ая, -ае. Засмучаны, маркотны.

**Залато́ўка,** -і, *ж.* Даўней: назва манеты ў 15 капеек.

**Зруб,** -а, *м.* Сцены драўлянага збудавання, складзеныя з бярвення або брускоў, злучаных у чатырохвугольныя вянкі.

**Ёдафо́рм,** -у, *м.* Прэпарат ёду — крышталічны жоўты парашок.

**Ётава́ны,** -ая, -ае. Які вымаўляецца з гукам «ёт» ([й’]).

**Іхтыёлаг,** -а, *м.* Спецыяліст, які вывучае рыб.

**Каме́та,** -ы, *ж.* Нябеснае цела ў выглядзе яркай светлай паласы з вузкай паласой святла ў форме хваста.

**Крысо́,** -а, *н.* Ніжняя частка адзежыны, палавіны якой расхінаюцца; пала.

**Курта́ты,** -ая, -ае. Кароткі.

**Лекто́рый,** -я, *м.* 1. Установа, якая займаецца арганізацыяй публічных лекцый. 2. Памяшканне для чытання публічных лекцый.

**Луна́ць,** -аю, -аеш, -ае. Плаўна лятаць, рухацца ў паветры.

**Метэо́р,** -а, *м.* Кароткая ўспышка невялікага нябеснага цела, якое ўлятае ў зямную атмасферу з міжпланетнай прасторы.

**Мірыя́ды,** -яд, *адз. няма.* Незлічона вялікая колькасць.

**Мі́стыка,** -і, *ж.* 1. Вера ў існаванне таямнічых сіл. 2. *перан.* Нешта загадкавае, чаго нельга растлумачыць.

**Мяду́нкавы,** -ая, -ае. Які мае адносіны да мядункі (медуніцы).

**Паве́р'е,** -я, *н.* Паданне, заснаванае на веры ў таямнічыя сілы.

**П'едэста́л,** -а, *м.* 1. Узвышэнне пад помнік, калону і пад., пастамент. 2. Узвышэнне, на якое ўзнімаюцца пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, конкурсах і пад. для атрымання ўзнагароды.

**Плея́да,** -ы, *ж.* Група выдатных дзеячаў адной эпохі, аднаго напрамку.

**По́плаў,** -лаву, *м.* Луг у пойме ракі.

**Прасця́г,** -у, *м.* Прастор.

**Ро́стань,** -і, *ж.* 1. Расставанне; час, праведзены далёка ад родных ці блізкіх. 2. Месца перакрыжавання дарог.

**Рэпраду́кцыя,** -і, *ж.* 1. Узнаўленне карцін, малюнкаў і пад. шляхам фатаграфіі, клішэ. 2. Перадрукаваны малюнак, карціна ці фотаздымак.

**Само́тна,** *прысл.* Сумна, журботна.

**Свіро́нак,** -а, *м.* Халодны будынак, прызначаны для захоўвання збажыны, мукі́ і іншых прадуктаў, а таксама рэчаў і пад.

**Селе́кцыя,** -і, *ж.* Раздзел прыродазнаўчай навукі ці галіна сельскагаспадарчай вытворчасці, што вывучае або займаецца вывядзеннем новых сартоў раслін і парод жывёл.

**Сеньёр,** -а, *м.* Форма ветлівага звароту да мужчын у іспанамоўных краінах (напрыклад, у Іспаніі, Мексіцы, Венесуэле і інш.).

**Сі́вер,** -у, *м. Разм.* Халодны паўночны пранізлівы вецер.

**Сі́ласны,** -ая, -ае. Які мае адносіны да сіласу, сакавітага корму са здробненых і заквашаных кармавых культур у спецыяльных збудаваннях (вежах, траншэях).

**Талака́,** -і, *ж.* Некалькі прадметаў, якія знаходзяцца блізка адзін да аднаго.

**Трапяткі́,** -ая, -ое. Які пастаянна варушыцца, дрыжыць; дрыгатлівы.

**Фрэ́ска,** -і, *ж.* Малюнак вадзянымі фарбамі па свежаатынкаванай сцяне ці столі.

**Фу́рман,** -а, *м.* Чалавек, які кіруе коньмі ў запрэжанай павозцы.

**Цу́пка,** *прысл.* Учэпіста, моцна трымаючыся.

**Цыба́ты,** -ая, -ае. Тонкі і доўгі.

**Шуфля́да,** -ы, *ж.* Збітыя ў выглядзе прамавугольніка дошкі, змешчаныя ў аконным праёме, унутры якіх замацоўваюць раму акна.

**Шэ́рань,** -і, *м.* Іней.

# Руска-беларускі слоўнік

Благодари́ть *(кого)* — ***дзя́каваць*** *(каму)*
Боле́ть *(чем)* — ***хварэ́ць*** *(на што)*
Вку́сный — ***сма́чны***
Вихрь — ***віхо́р*** і ***ві́хар***
Влия́ть — ***уплыва́ць***
Вообще́ — ***уво́гуле***
Выключа́тель — ***выключа́льнік***
Голу́бчик — ***галубо́чак***
Грусти́ть *(по кому, по чему)* — ***сумава́ць*** *(па кім, па чым)*
Жура́вль — ***жураве́ль***
Земляни́ка — ***суні́цы***
Изве́стный — ***вядо́мы***
Издева́ться *(над кем)* — ***здзе́кавацца*** *(з каго)*
Компью́тер — ***камп’ю́тар***
Корь — ***адзёр***
Куманёк — ***кумо́чак***
Лу́жица — ***лу́жына, лу́жынка***
Лу́чше *(кого)* — ***ле́пшы*** *(за каго)*
Ме́стность — ***мясцо́васць***
Ничего́ — ***ніч́ога***
Опу́шка *(леса)* — ***узле́сак***
Песка́рь — ***пячку́р***
Подружи́ться — ***пасябрава́ць***
Поку́шать — ***пае́сці***
Поссо́риться — ***пасвары́цца***
Ста́рше *(кого)* — ***старэ́йшы*** *(за каго)*
Стря́пать — ***гатава́ць*** *(ежу)*
Угоща́ть — ***частава́ць***
Уж — ***ужо́***

# Адгадкі, падказкі

Практ.

**45.** 1. Пеўневым, прадзільным, горным. 2. У доменнай. 3. З чыгуначнага. 4. Дзявочай, пясчанай. 5. Вароты на футбольным полі. 6. З пад'ёмнага.

**54.** 1. Мір — вайна. 2. Сябар — вораг.

**64.** 1. Сонца. 2. Камбайн. 3. На моры (у акіяне). 4. Хваля. 5. Бабёр.

**71.** 1. Берагі ракі. 2. Гром. 3. Радыё. 4. Каляндар.

**192.** Вока, мова, мора, мука́ (му́ка), рука, Рома, кума, кум, рак, мур, ком, мак, вар, корм.

**205.** Ток, соль, толь, куль, лінь, рай.

**217.** Абруч, белы, буцы, бот, бінт, гінуць, лось (соль), мост.

**219.** Любіце сваю зямлю аддана і да канца. Іншай нам не дадзена, дый не патрэбна *(У. Караткевіч)*.

**223.** Бугай, будачнік, бутон (бусоль), буравеснік, булён.

# ЗМЕСТ

## МОВА – НАЙВАЖНЕЙШЫ СРОДАК ЗНОСІН



## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў I–IV КЛАСАХ



## СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч, **Лаўрэль** Яўген Мяфодзьевіч
**Васюковіч** Людміла Сяргееўна, **Несцяровіч** Віктар Іванавіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*. Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*. Мастакі *М. У. Мароз, А. А. Красноўская*. Вокладка мастака *І. А. Усенкі*. Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*. Карэктары *Н. І. Пархун, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 31.01.2014. Фармат 60×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,0. Ул.-выд. арк. 5,5.
Тыраж 128 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск